— Няма “сувораўскай”, толькі “сталічная”!

— Чорт з ёй! Абы сорак градусаў.

Акінчыц аглядаў публіку, палац, лес, зіму. Увагу прыцягвалі ксяндзы. Іх ён заўважыў яшчэ каля каменя, на месцы сялібы. Купка мясцовых патрыётаў. Луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Прыезная моладзь ажыўляла сцэну. Спецслужбіст бесцырымонна фільмаваў. Спрэчкі, гутаркі, філіпікі. Малады мужчына ўбаку ў чорным строгім паліто, у чорным лямцавым кепі з апушчанымі на вушы берагамі. “Пшышэдл пастор: чарна колумна слув”, —міжволі ўзгадаў Акінчыц шатландскага паэта ў польскім перакладзе. Так, ксёндз вылучаўся з усіх відавочна, але Акінчыц чамусь не адразу скеміў, што гэта менавіта ксёндз. Папросту не чакаў убачыць. Не чакаў таксама па сутнасці нічога не ўбачыць. Чатыры гадзіны ехаць, каб паглядзець на месца, дзе калісьці была сядзіба, ад якой — ані следу! Яго загушкала, чаго не здаралася вельмі даўно. Аўтобус вёз не новы, але прыстойны, прычым для далёкіх рэйсаў, на мяккіх рэсорах. Ехаў не дарогай на сталіцу, самай ажыўленай, па якой прызвычаіўся часам падарожнічаць Акінчыц, а ўбок ад населеных гарадоў. Праз вёскі і сялібы, праз пушчу. Як карабель плыў паміж засыпаных снегам дрэў, якія ззялі на сонцы, праз сумёты абапал, якія зіхацелі і серабрыліся, цераз марознае блакітнае неба. Здавалася, гэта павінен быў быць шлях на Поўнач, у Лапландыю, а не ў адваротным кірунку. Спыніліся аднойчы ў пушчанскім мястэчку, здранцвелым і аснежаным. Амаль сляпіла сонца. На старых камяніцах паміж царквой і касцёлам усе шыльды яшчэ размаўлялі па-беларуску. Цуд, казка! Потым аўтобус пачало падгушкваць, ён раптоўна зарываўся носам, ляснуўся сподам раз-другі. Пад коламі гарошыўся стары брук, месцамі ўжо з ямінамі, запарушанымі снегам. Шафёр мусіў запаволіць язду.

Праз дарогу ад каменя хваёвы лес крыху перавышалі дзве вежы. Вельмі шчытны, цёмны і змрочны лес. Дома, у энцыклапедычным томе Акінчыц убачыў, што палац калісьці быццам стаяў адразу за домам Касцюшкаў, ствараў задні план, дэкарацыю. Хвояў жа не было зусім. Мастак відавочна зменшыў адлегласць, інакш палац атрымаўся б замалым. Яшчэ — гмах стаяў на пагорку, узгадалася дома Акінчыцу. Мастак гэта праігнараваў... Мароз адчуваўся, марна стаяць далей не было сэнсу, і публіка пацягнулася ў палацавы бок, дзе ніяк не распальвалася вогнішча. Адно дым слаўся.

Палац уражваў слядамі варварства. Чырвоная, як перапечаная цэгла, з рэшткамі тынкоўкі сцены, — быццам шкуру здзерлі з

мядзведзя. Аз-букі-ведзі — лемантар далучаных да пісьменства тубыльцаў, якія спярэсцілі муры сваімі імёнамі і паведамленнямі. Хто каго кахае, хто з кім якую піў гарэлку ў палацавых рэштках. Сучасны летапіс недарэкаў. Акінчыц не ведаў, як яшчэ ахарактарызаваць убачанае. Здаецца, нічому не здзіўляешся, але знянацку ўразішся. Каб жа зрабіць палац для паляўнічых (хоць ён і не любіў іх), для аматараў зімовага адпачынку, для агратурыстаў, выратаваць. Марныя думкі!

Агонь нарэшце запалымнеў, апаноўваючы хвойнае галлё. Як рыбалоўцы навакол пасталі маладзёны з пруткамі. Засквырчэлі каўбаскі, празрыста напоўніла шкляначкі гарэліца. Гамана запанавала ля мёртвых муроў. Вярнуліся з абеду дыпламаты. Амерыканец нагадваў захопленага пікнікам студэнта. Нехта выпрасіў у польскага аташэ прымерыць “рагатувку” і пайшоў пахваляцца да сябрукоў. Польскі дыпламат сказаў Акінчыцу, што рады яго бачыць. Калісьці ў іх былі прыязныя адносіны. Потым Акінчыц апынуўся часова за мяжою, а дыпламата адклікалі у Варшаву. Затым яго зноўку прысалалі, падвысіўшы, у сталіцу. Цяпер яны амаль не бачыліся. Уначы Акінчыц сасніў, сам дзівячыся, як бярэ у паляка інтэрв’ю, і як той адмаўляецца адказваць на самыя цікавыя пытанні.

У дарозе моладзь працягвала жлукціць гарэлку. Падрэмваючы, Акінчыц змагаўся з гармідарам у галаве, спрабуючы вылучыць з заблытаных пачуццяў думкі, высновы. З рэчаіснага ладу яму хацелася апынуцца ў метафарычным. Разважалася яму ў прыблізна такім рэчышчы… Кажуць, немагчыма ступіць у адную раку двойчы. Гэта не пра нас. У нас усё здараецца. Колькі не трапляем у ваду, столькі разоў няўдала. З аднолькавымі памылкамі. Адразу з галавой. Ані разу не патрапілі броды даведацца. Або падрыхтаваць чоўны, каб перасягнуць плыню ўраз. Ужо не кажу пра пантоны, масты. Начыталіся кніжак. Падыйдуць бліжэй да ракі нерашуча і быццам чакаюць, пакуль вада расступіцца ўбакі. Альбо перасохне ці хоць бы змялее рэчышча, каб апынуцца на процілеглым беразе, дзе ўсё інакш, дзе сам сабе гаспадар. Дзе сонца ззяе і ззяе, дзе не трэба чакаць недаедкаў з чыйгосьці стала, дзе можна размаўляць як умееш, дзе няма ні паноў ні таварышаў, дзе каровы самі просяцца: падаі! Дзе дрэўца з райскімі яблычкамі чакае. А, зрэшты, хто іх ведае, чаго яны сабе там думаюць і ці думаюць увогуле? Заахвоціць, падбухторыць, каб толькі схадзілі зірнуць на “раку часу”, удаецца заўжды меншыню. Большасць абыякава застаецца на месцы, нязрушна як крушня на ўскрайку поля. Ні ворыва, ні мурог, ні лес. Так, абы-якая мясціна.

Ружаны спаткаліся па дарозе мёртвымі аркадамі разбуранага палаца, памеры якога нават цяпер уражвалі, унутры нагадваючы галерэямі чамусьці Калізей. Грандыёзныя дэкарацыі да спектакля, назву якога ўсе забылі. Тэатральная трупа распалася, акторы раз’ехаліся, гледачы паўміралі. А калісьці сюды прыязджаў сам кароль. Урачыстая кавалькада, ганаровая варта, залпы ў паветра. Баль, шампанскае, прыдворная капэла, танцы. Увечары феерверк і спектакль у палацавым тэатры. Хтосьці пачаў апавядаць, пераўвасобіўшыся ў гіда. Акінчыцу не захацелася слухаць, ён вярнуўся ў аўтобус. Сумна ўсё, пагатоў калі ўбачыш аднойчы на ўласныя вочы.

Ну вось, спадзяваўся залішне не разумнічаць, не філасофстваваць, а зацягнула ледзьве не ў цямрэчу егіпецкую. Але, рака, рака, яна застаецца напраўду. Адным досыць на другі бераг пастаяць паглядзець, на віры, на адважнікаў, якія кідаюцца ў плыню на скрут галавы. Адно няпраўда, што ніхто з нашых не бачыў заходняга берага, што ніхто плаваць не ўмее. Толькі што беларусы добрыя выканаўцы, на чале з кімсьці — вісусы, героі залатой зоркі і белага арла. Яшчэ паэт трапна зазначыў. Не сваю, маўляў, чужую долю баранілі. Пад чужымі, карацей, сцягамі ўміралі.

Нацыя жаўнераў, гладыятараў, а таксама падначаленых, служак. Генералы здараліся, але зноў-такі з чужымі аксельбантамі. Вось і гэты. Не, ён, канечне, стараўся. За нашу і вашу свабоду. Але, як заўжды, не атрымалася, не пашэнціла. “Мамо, не хачу да польскага войска ісці”, — пісаў у лісце Касцюшка. Гэта не Акінчыц прыдумаў ці вышукаў недзе, паляк адзін расказаў яму. Акінчыц быў у рэдакцыі “Бацькаўшчыны”, калі прыйшоў звычайны мужчына ў шэрым паліто і каракулевай кучомцы, пачаўшы размаўляць ламана па-расейску. Давялося адказаць па-польску, каб не чуць трасянкі. Дзівак, заходнепольскі чалавек, меў супольны бізнес, усё ляснула. Цяпер бадзяецца па знаёмцах, па далёкіх сваяках. Бог вед колькі не бачыў польскіх газет, пайшоў у консульства, консул даў яму жмут старых, нават пахваліўшы ці парадаваўшыся за наведніка: каб гэта ўсе, хто звяртаецца па дапамогу, мелі падобныя праблемы.

Над рэдакцыяй вісеў бел-чырвона-белы сьцяг. Паляк і завітаў. Хоча, кажа, прыдбаць такі значак, прышпіліць сабе, каб пазлаваць памежнікаў. Ну няма, на жаль. У рэдакцыі ўсе былі занятыя, размаўляць з палякам давялося Акінчыцу. Спусціліся на паверх ніжэй, у незалежніцкую сядзібу. На сцяне быў партрэт Мурашкі —

мясцовага начальніка, які марыў аб царскіх часах і болей за ўсё любіў, каб яго называлі губернатарам. Мурашкаў твар у зялёным мундзіры вядомага з гісторыі Мурашова-вешальніка, з усімі генерал-губернатарскімі рэгаліямі.

За вокнамі забеленыя гарызантальныя краявіды, калісьці мясціны ваенных дзеянняў, баёў паўстанцаў з карным войскам. Акінчыцу не давала спакою старая думка. Купка герояў — наперад, на ворага! Астатнія ў акопах. Акопнікі, носьбіты акопнай праўды, спажыўцы, спавядальнікі. Адседжвацца, адстрэльвацца. Перачакаць. Не кавалерыя, — гусары, кірасіры. Пяхота. Збраяносцы, драбы, падносчыкі ядраў, дастаўшчыкі пораху. А, зрэшты, у выніку — гарматнае мяса. Хто імкнецца не выторквацца. Касінеры. Баёвая маса.

“Возьмем косы і янчаркі,
Пачнем гордыя гнуць каркі!..”

Гэта Акінчыц вычытаў у хрэстаматыі. Песні жаўнерскія, зрэшты, зазвычай досыць баёвыя. Але іх гэтак мала! Слёзы. Дзякуючы даследчыку, які выпадкова натрапіў. А так нават перакладаць чужыя дзеля колькасці мусілі. Чужыя адносна. Касцюшка іх таксама спяваў са сваімі касінерамі, калі толькі генералы спявалі. Каб запісаць альбом ваяцкіх песень, некаторыя пераклалі. Акінчыц вельмі чакаў, часам хацелася па-свойму заспяваць, па-жаўнерску. Але атрымалася нейк архаічна-лубочна, і слязу выклікала, і лёгкую ўсмешку. Канечне, калі разважаць пра каркі, дык няма рады. Але “возьмем косы і янчаркі” — вельмі файна. Трэба верыць у сваю зорку. Веру, прынамсі, пераказаць сынам. Застрэміць у іхніх галовах. А што з гэтай песняй? Нейкі архіўны шукальнік надрукаваў. Амаль праз сто год. Тэкст. Музыкі ніхто не ведае. Памерла, знікла разам з апошнім касцюшкоўцам.

Мурынаў яму не хапала. Каму яму? Касцюшку! Ён жа пакінуў грошы, калі ад’язджаў з Амерыкі, на іхні выкуп з нявольніцтва. Карцела ж яму! Не мог глядзець спакойна на людзей у кайданках. Усведамляў, што дапамог здабыць свабоду іхнім рабаўладальнікам. Нябрыдкім, зрэшты, людзям, але якія хацелі свабоды толькі для сябе, свабоды, каб прыгнятаць іншых надалей. Іншае пытанне, што яны мурынаў не лічылі за сабе роўных, нават не хома сапіенс, другім гатункам, пераходным паміж прыматам, малпай і белым чалавекам. Сумнеўна, што сапраўды грошы ягоныя былі выдаткаваны па

прызначэнні. Вельмі сумнеўна. Зрэшты, звычайная досыць гісторыя. Адваёўваючы потым незалежнасць, палякі пазбавілі яе касцюшкавых землякоў — нас. Наіўны ён быў, як часта здараецца з беларусамі. Лепей бы выкупіў тых мурынаў ды прывез сюды, меў бы аддзел адданых жаўнераў. Маскалі можа з перапуду яшчэ здаваліся б. Знайшоў каму пакінуць грошы. Ды на іх маглі новых кайданаў нарабіць. У такіх думках Акінчыц задрамаў і апынуўся ў снах. Абудзіўся ўжо ў горадзе, аўтобус дробна трымцеў ля светлафора.

Спыніліся ў месцы ад'езду — на пляцы Касцюшкі. Акінчыц тут жыў у старасвецкай камяніцы, дзе быў Касцюшкавы штаб калісьці. Побач захаваўся былы каралеўскі тэатр, сёння — тэатр марыянетак. Акінчыца часам не пакідала адчуванне, што ён жыве сярод гістарычных дэкарацый. Насупраць на пляцы стаяла пад дахоўкай камяніца з архіўнымі зборамі. Тамака захоўваўся рэдкі дакумент. Аб вызваленні з-пад прыгону сялян, складзены Касцюшкам у швейцарскай староньцы. Рамантык! Вызваліў былых сваіх прыгонных, якія яму ўжо не належалі. Ён жа — выгнанец, эмігрант! Якія могуць быць сяляне? Цікава, ці чулі яны, ці даведаліся, ці атрымалі магчымасць напраўду пацешыцца свабодаю, вызваленнем з-пад прыгнёту? Ва ўсякім разе, дакумент быў перасланы сюды і тут захоўваецца, насупраць акінчыцава дома. Так, а зрабіў Касцюшка гэта перад сваёй смерцю. Цікавае супадзенне: у той жа час у віленскай шляхецкай зборні мясцовыя масоны прапанавалі абмеркаваць магчымасць скасавання прыгнёту. Але Акінчыц не гісторык, яму нічога невядома аб тым, ці напраўду звязаныя гэтыя дзве падзеі. Аднак супадзенне вельмі цікавае.

Дома ён адкаркуе нарэшце пляшку каньяку, дагэтуль недатыкальнаую. Пасля марознага падарожжа напой здаўся глыткамі халоднага агню, які раптам выгравае знутры, робіць зіму надзвычай прыемнай. Акінчыц не ўстрымаўся і ад кавы. Моцны густы водар “Чыба”. Хаця апошнім часам кава таксама магла перашкодзіць яму заснуць. Але пасля марозу, пасля дзённага ўстрымання. А кава з каньяком? Цымус! Паўстанцкая вайна — уцёкі зайца ад паляўнічага, заблытванне слядоў, спробы ашчэрыцца, напалохаць чалавека з ружжом касой-літоўкай. Нават падручнік быў выдадзены — як рыхтаваць косы да бою і як карыстацца імі. Што ж, калі грошы выдаткоўваліся адно на баляванні, на маскарады і феерверкі, зброю замянялі косы. Кавалі, напаліўшы лёзы косаў, распроствалі іхнія пяткі, рабілі па дзве дзіркі для цвікоў. Існавалі баёвыя стандарты:

тронак павінен быў мець даўжыню ў чатыры локці — каля двух з паловаю метраў і шырыню ў дзве цалі. Своеасаблівыя смяротнікі. Яны атакавалі бегма калонамі, каб быць крыху менш падступнымі для страляніны, але заставаліся суздром безабароннымі, пакуль не дабягуць да варожых пазіцый. Калі толькі дабягуць...

Засынаў Акінчыц з прыемнымі думкамі аб тым, што назаўтра ўдасца стрэліць прынамсі ў дзявятку. Апошнім часам не хапала цікавых навін. Нядзельная паездка — лепей не прыдумаць... Абудзіўся дастаткова рана і нечакана зусім лёгка, адчуў прызабытую бадзёрасць. Хуценька пагаліўся, прыгатаваў кавы. Уключыў ранішнія тэленавіны, чаго таксама апошнім часам нейк не рабіў. Што-што-што? Памёр знянацку Мурашка, мясцовы ваявода. Надзвычайная навіна. Не абы-якія дробязі прафесіі — даведацца, удакладніць, перадаць. Пажадана чым хутчэй. Навіны ад журналістаў не залежаць. Толькі ў тым сэнсе — ці ўдасца іх адшукаць, высачыць... Дакладней: не залежаць падзеі, якія трапляюць на першыя старонкі. Няма рэпарцёрскай віны ў тым, што падставай для сенсацый часта бываюць менавіта здарэнні — трагічныя, адмоўныя, жудасныя. Выбух атамнай бомбы, забойства прэзідэнта, путч. Але ж гарачая навіна таксама — параза путчыстаў, абвяшчэнне незалежнасці, забарона кампартыі, замена рыцарскім гербам савецкага з сярпом і молатам. Аднойчы важнага чыноўніка застрэлілі. Які здарыўся пярэпалах! Аб сенсацыі першым паведаміў Акінчыц. Ён адчуваў сябе як мае быць.

Калі ўчора быў марозны сонечны дзень, дык цяпер распачалася зусім найсапраўднейшая зіма, як калісьці. Ужо ўдзень стала замятаць. Акінчыц выйшаў разгледзецца. Сцягі на дахах былі спушчаны да паловы флагштокаў. Нават на крамах хуценька павывешвалі іх з чорнай стужкай, абвясцілі жалобу. Акінчыц купіў сяго-таго да кавы і вярнуўся, каб сесці пісаць. Зрэшты, магчымасці яго былі абмежаваныя. Чыноўнікі даваць інфармацыю даўно баяліся. Газет ў панядзелак няма. Давялося пазычаць у афіцыйных крыніцах. Сухія звесткі, але дакладныя. Амаль. Першае паведамленне: ваявода Мурашка памёр у сваёй кватэры. Але, Акінчыц пярэчыць: у Мурашкі няма кватэры, у сэнсе не было. А дом вялікі ёсць... Што ж, Акінчыц мусіць выбіраць зерне з асцюкоў.

Бляклыя твары чыноўнікаў у кабінетах. Разгублена паўтараюць, што Мурашка да ночы сядзеў на працы, што назаўтра збіраўся таксама раным-рана за кабінетны стол.

Папярэдні дзень Мурашка правёў быццам бы на дачы. Але якое ўзімку можа быць лецішча? Акінчыц даведаецца, што насамрэч адбылося паляванне. Ён піша не адхіляючыся ад асноўнай падзеі, але не можа не думаць, не мець у галаве “бэкграўнда”. Мурашка, маючы вобраз досыць сціплага чыноўніка, атрымаў пляц побач з саборам, каб званы слухаць, дзе будаваць не дазвалялася. Але чамусьці цягнуў, быццам чагосьці баяўся. Цяжкі лёс чыноўніка! Нарэшце адзначыў улазіны, гасцей запрасіў багата. Звінелі келіхі, гучалі тосты за гаспадара, за новы дом, за доўгае жыццё.

Неверагодна, але ваяводам раней быў Астроўскі, кандыдат апазіцыйны на выбарах. Яму аддалі некалі дом забітага начальніка, а нядаўна пачалі цкаваць у афіцыйных рупарах, рукамі Мурашкі высяляць, пацягнуліся суды. Ваявода публічна паабяцаў, што Астроўскі будзе беспрацоўным пакуль ён, Мурашка, кіруе. Сказаў нават, што Астроўскі — ганебная пляма на станоўчым абліччы горада, якую трэба сцерці. Тым часам Мурашку адрэзалі зямлі, рабілі праект, найлепшыя дахоўка і цэгла, вокны, дзверы, сантэхніка, паркет…

Астроўскаму не даравалі таксама, што зрабіў у горадзе пляц Касцюшкі. Калі жывеш у адным месцы гадамі і штодня наперадзе, “на барыкадах”, дык аднойчы раптам пачынаеш разумець, што можаш засесці і напісаць хроніку тутэйшага жыцця. Усё бачанае, чутае, перажытое прысутнічае ў тваёй галаве, заўжды з табою. Для Акінчыца няма ніякай цяжкасці ўзгадваць спадарожныя падзеі звесткі. Хоць зараз можна зрабіць вялікі падрабязны тэкст. Аднак ад яго патрабуюцца навіны, толькі навіны. Не, Астроўскі зусім не ідэальны. Яму прапаноўвалі вуліцу Сувораўскую пераназваць імем Касцюшкі, але не згадзіўся, пабаяўся. А на пляцы напісалі, што — Касцюшкі, толькі якога? Можа, Іван Іваныча — дырэктара рамбыттэхнікі? Так іранізавалі паміж сабою не задаволеныя цалкам патрыёты. Меркаванні гэтыя вярэдзяць Акінчыца, быць простым рамеснікам, абмяжоўвацца толькі думкамі аб ганарары не хочацца. Яго знаёмы гісторык, бачачы на пляцы статую з бародкай, пераскоквае ў думках з жывога Хамурапі на муміі, сфінксы, на Баторыя і помнік, які, на ягоную думку, павінен стаяць на месцы бронзавага ўладальніка бародкі. Гэты горад заражае гістарычнымі рэмінісцэнцыямі.

У канцы дня, калі з рэпарцёрствам закончана, Акінчыц выходзіць адчуць адзнакі жалобы, абвешчанай у горадзе. Зіма зіхатлівая, мінакі цешацца. Але напачатку не ўсе ведалі, цяпер

вядома бадай усім. Даволі кантрасна. Цытадэль страху і смутку — гмах улады. Свінцова-сляпыя, калі было светла, вокны цяпер хвора-жоўтыя. Аднак, якая прыгожая вечаровая зіма! Сапраўдней не бывае. Мяцеліца, гайдае парасонікі ліхтароў, іхняе смачна-лімоннае сьвятло, ляціць снег, святочны па-навагодняму, тралейбусы, светлафоры, мінакі. Марознае надвор'е бадзёрыць. Такую зіму немагчыма не любіць, думаў Акінчыц, вяртаючыся дахаты.

Капцы са святам губерні бадай. А як Мурашка марыў! Штосьці яму заманулася, далёкаму ад гісторыі, ад букляў, парыкоў, ларнетаў, ад штуцараў, багінэтаў, ад шабляў, ладунак і можджараў. На што замахнуўся... Тут была жыўцом раскроена краіна... Адбылася трагедыя, а ён — баляваць, карнавалізаваць, маскарад учыніць. Здагацца няцяжка. Жаданне застацца ў гісторыі. Першым губернатарам быў Мурашоў, апошнім ён — Мурашка! Якое супадзенне! Партрэтная галерэя: ад Мурашова да Мурашкі. Карціны замоўлены мастаку-партрэтысту. Будуць развешаны ў былым каралеўскім палацы. Там менавіта, дзе на кавалкі разрэзалі і знішчылі тую далёкую прыгожую краіну з уніяцкімі цэрквамі, касцёламі, з замкамі, з соймамі і соймікамі, нават са славэтным “ліберум вета”, з канстытуцыяй і магдэбургскім правам, з каралеўскімі прывілеямі з пячаткай... Гэх! Усё было растаптана жаўнерскімі ботамі. Бліскучую сталіцу ператварылі ў горад-губернск. І яму заманулася гэта святкаваць!

Так, закарцела нават! Перш, супадзенне з прозвішчам. Па-другое, прыязджаў абвесціць свой губернскі ўказ сам цар! Мурашку захацелася зрабіць урачыстасць на ўзор царскай. Гісторыкі рушылі ў пыльныя архівы, іх прыспешвалі. Усяго знайсці не ўдалося, поўнай справаздачы аб падзеі. Мусілі дадумаць. Падрыхтавалі, выдрукавалі, якраз з ёю знаёміўся Мурашка ў дзень смерці, у свае апошнія гадзіны. Рабіў заўвагі ў тэксце.

У сцэнары: чыноўнікі, афіцэры і салдаты гарнізона, акторы, усе — у тэатральных шатах, у парыках, буклях. Вядома, што падзея адбылася менавіта ў тэатры, насупраць якога жыў Акінчыц. Будынак захаваўся, праўда, са зменены сілуэтам. Рабіць урачыстасць у самым лепшым памяшканні — у каралеўскім палацы цару хапіла густу і далікатнасці, каб адмовіцца. Надаваць урачыстасці рэлігійна-царкоўны лад не выпадала зусім. У горадзе не было цэркваў. Вялікі гатычны касцёл, у якім чамусьці здарыўся пажар, толькі пачалі перабудоўваць у царкву. І таму падзея мела адбыцца ў свецкім

тэатралізаваным стылі. Зрэшты, у цара быў не рэлігійны настрой, нядаўна ён задушыў уласнага бацьку падушкай, не важна, што чужымі рукамі.

Аздобленая, асветленая, святочная зала. Паветра прарэзваюць гукі горнаў. Трубачы шыхтуюцца абапал сцэны. Урачыста абвяшчаецца: самадзержац розных унутраных, далучаных і захопленых земляў! На кані выязджае Яго імператарская вялікасць, ролю павінен быў выканаць вядомы актор Квачэнка. Каня трымаюць за аброць два парадныя генералы. Цар зачытвае ўказ, які прысутныя слухаюць, стаіўшы подых: “Загадваю — дзеля найхутчэйшага і найзручнейшага ўсім новападданым правасудства, а таксама заможнасці, росквіту і шчаслівага жыцця пад нашай абаронай — утварыць ад сённяшняга дня заходнюю губерню. (Шумныя апладысменты ў зале). А для ўнутранага мясцовых абывателяў кіравання і іхняга паміж сабою судоўніцтва і дзеля большай спакойнасці і бяспекі тут мною зацвярджаецца галоўная кватэра і дзейнае вышняе кіраўніцтва, якое злучае ў сабе чатыры аддзяленні, а менавіта — скарбнае, крымінальнае, цывільнае і эканаміцкае. І з нашага імператарскага загаду прызначаецца на пасаду губернатарскую тайны саветнік Мурашоў, кавалер святой Ганны”.

З вуліцы гучаць гарматныя залпы, публіка апантана пляскае ў ладкі, граюць фанфары. Патрыярхі шчодра хрысцяць праз паветра ўдзельнікаў урачыстасці, кадзяць кадзілы. Хор выконвае штосьці накшталт “Рука айцечаства ўсявышняга ўратавала” або “Пераможны раздавайся гром”, прыдуманую, дарэчы, беларусам, аб чым паведамляе энцыклапедыя. Паказ алегарычнай сцэнкі “двухгаловы арол перамагае аднагаловага” у выкананні балетнай трупы. Вайсковы аркестр. Пранос пераможных і пераможаных сцягоў. Наступная сцэнка: касцюшкаўскія касінеры здаюцца сувораўцам. Апошнія лагодна прымушаюць іх перарабіць косы назад — для прыгатавання сена. Над сцэнай запальваецца круглая лічба. Дзея ператвараецца ў святкаванне ўгодкаў губерні, якім яно магло ўяўляцца першаму губернатару з паплечнікамі ў царскія часы. Удзячныя сяляне, карагоды, піва ў бочках, снапы — накшталт дажынак. Трыумфаванне рамёстваў: молаты і сярпы, плугі, бароны, а таксама навук — мікраскопы, цыркулі, кельні.

Заслона. Канферансье віншуе публіку, на сцэну на біс выходзяць удзельнікі тэатралізаванай урачыстасці і кланяюцца. Шампанскага! Гронкамі гараць на сценах электрасвечкі. Вялізны кандэлябр ззяе,

робячы падзею надзвычай святочнай, папросту бліскучай. Слугі ў ліўрэях і парыках, у белых пальчатках разносяць падносы, прапануючы публіцы разлітае ў келіхі бурболістае віно. Ля дзвярэй пруцянее варта з музейнымі стрэльбамі, з пазументамі, аксельбантамі, шаўронамі. У бутафорскіх ківерах. Цьмяна блішчаць металёвыя часткі — бляхі, спражкі, ладункі, у якіх гарачым агнём адбіваюцца лямпачкі. Халодныя іскры бенгальскіх агнёў, канфеці, петарды. Спажыўшы дармовае шампанскае, публіка выплёсківаецца у фае, калідоры, на лесвіцы. Грае прыдворны аркестр, музыка праз дынамікі ўзмацняецца і чуецца ва ўсіх закутках. У кулуарах і ў закуліссі адбываюцца святочныя танцы. Мазуркі, галопы, кракавякі, паланэзы, венскія вальсы, танга, полькі і кадрылі.

Мурашка мысліў унесці ў празмерна тэатралізаваны, перасалоджаны сцэнарый прадметна-канструктыўны лад. Урачыстасць будзе адбывацца ў новым, значна большым тэатры, трагедыйна-камедыйным. У старым цяпер выступаюць марыянеткі, месца мала. Яму хацелася, каб уручаліся граматы на сцэне, каб быў міні-парад пантанёраў, якія адзначылі гадавіну інжынерных войскаў Пятра Першага. Хацелася спалучыць са святкаваннем выязную сесію аб’яднанага веча з удзелам славутых дзеячаў — Зінданава, Слімакова, Шнуроўскага. Не давала спакою таксама думка пра тое, што кароль, калі яму давялося адмовіцца ад пасада, падпісаць адмову, вельмі плакаў. Пра гэта расказалі гісторыкі. Мурашка не любіў каралёў, але звестка гэтая яго нейк бянтэжыла. Збіраўся ў музей паглядзець на муляжы ў строях — каралеўскім і губернатарскім. “Нічога, Масква слязам не верыць. Паплачуць і перастануць. Слёзы кракадзілавыя”, — думалася яму блытана, калі ў нядзелю гартаў сцэнарый.

Дзень пахавання. Акінчыц размясціўся на сваім назіральным пункце, ля акна. Працуе радыё, ён слухае, што адбываецца каля труны. А перад вачыма: пляц, статуя, бтр з гарматным лафетам, гмах, да якога цягнецца чарга з вянкамі. У Акінчыца на сцяне гравюра: на тым жа пляцы пад яго вокнамі стаяць шыхты паўстанцкіх аддзелаў. Сцягі, сцяжкі, косы, пікі, багнэты. У цэнтры Касцюшка. Ён зачытвае паўстанцкі “Універсал”, пасля чаго жаўнеры і касінеры прымуць прысягу на вернасць Айчыне і паўстанню.

Агульнавядома: касінераў выбілі з горада сувораўскія жаўнеры. Акінчыц назірае, як пад непрыемны роспачны жалобны марш нясуць труну вышкаленыя, як алавяныя жаўнерыкі, сувораўцы ў чорнай форме, следам — узнагароды на падушках і вянкі, цэлая калона з

вянкамі. Труну стаўляюць на лафет, быццам нябожчык быў генерал-губернатарам. На засланым дыванамі пастаменце гаворацца прамовы. Зноў аркестр. Бтр з труной разварочваецца, за ім маркотна выцягваюцца цугам венцаносцы.

Мурашку завезлі на могілкі і закапалі. Суворацы апусцілі труну ў яму, як чорная гвардыя. На магіле пакінулі бутэльку гарэлкі, шклянку. Гарэлка была “суворaўскай”, мясцовага разліву. Мурашка хацеў да свята выпусціць дзве новыя — “імператарскую” і “губернатарскую”, у шыкоўных крышталёвых бутэльках, але не дажыў. Пабудаваў адно дом, каб памерці. Дарэчы, падумалася Акінчыцу, Мурашка быў усё ж нядрэнным чалавекам. Быў… Тэлестудыя пачала рыхтаваць фільм пра дом Астроўскага, выкрываўчы. Да прэзідэнцкіх выбараў… Калі труну апускалі ў магілу, Акінчыц, седзячы ля тэлевізара, звярнуў увагу на адметны, даволі знаёмы знак.

Праз дзень ці два ён успомніў. Разгарнуў энцыклапедыю і ўбачыў: дзве абцятыя рукі ў поціску. Эмблема масонскай ложы, якая існавала некалі ў горадзе, першы губернатар таксама трымаў кельню і цыркуль.

***2001***

## ФЛОТ КАЎЧЭГАЎ

*Апавед пра пакінуты рай*

> “Чаму ж гэткае спусцелае мора?! Гэткае ціхае і спусцелае! Дзе параходы цудоўных, багатых краінаў?”
>
> *І. Шмялёў, “Канец канцоў” з “Сонца мёртвых”*

Рай за кармой. Светлая краіна, дзе лепей памерці ўжо, чымсьці жыць. Дзе жудасна застацца. І якую страшна пакінуць. Але яны наважыліся. Зрэшты, не засталося іншага выйсця. Гэта былі роспачныя ўцёкі з жахлівага сну. Жыццё аднойчы ператвараецца ў сон, і такі сон заўжды вусцішны. З імі здарылася найгоршае. Уцякаць з уласнага дому. Ратавацца…

Фабіян з Сабінай выскачылі з недалужнай старой таксовачкі. Пабеглі з рэчмі скрозь сцяну дажджу. Суцэльна мокрыя апынуліся на ганку, перад якім экзатычна спатыкала выносістая пальма. Пансіянат “Шчыт і меч” аказаўся міліцэйскім. О, святая наіўнасць, беспадстаўныя спадзевы! Праўда, каляровы плакат паведамляў пра рыцарскі турнір. Аднак меў ён адбыцца ў генуэзскай крэпасці, далёка. Але яны выбралі гэтае мястэчка, разважыўшы, што ўмовы каля крэпасці будуць горшыя.

Абяцаныя кандыцыянер, які музычна рэагуе на пажаданні, тэлевізар і лядоўня, якая вісела над ложкам Фабіяна. Рассунуўшы жалюзі, Сабіна выйшла на тэрасу і не стрымала захаплення. “У нас ніколі не было такога пакоя!” Краявідзела мора. Разлеглае, попельна-блакітнае. Паміж морам ды імі схілы густа зелянелі кіпарысамі, паўднёвымі кедрамі, ядлоўцавымі і лаўровымі дрэвамі. Паветра здавалася гаючым узварам з іх водару.

Стравы ў сталоўцы расчаравалі. Абяцаныя чатырыста метраў да пляжа ператварыліся ў прыступкі бясконцых лесвіц. Мора сустрэла лагодна-бадзёрымі хвалямі. Не зважаючы на часовую адсутнасць сонца. Пасля першага купання пайшлі шукаць паштамт, вывучаючы тапаграфію набярэжнай.

Першай бутэлькай стала чырвонае з горнага заводзіка. Колерам і смакам вельмі падобнае да к’янці. Насычаны смак. Цёмнае, густое. У вінаробаў толькі з мастацкім густам, мабыць, не дужа. Наступная

весяліла этыкеткай. З назвай гарэмнай прыгажуні. З партрэтам гараджанкі пэндзля фламадскага майстра. З прысвячэннем угодкам паэта з бакенбардамі. З яго аскомным насатым профілем. З чатырохрадкоўем. З сентыментальнымі жоўтай і чырвонай ружамі. З трэцяй бутэлькі яны толькі пасмяяліся. Называлася “Мысліцель”, пераконваючы недалужна радэнаўскай скульптурай. Збіраць уражанні ад вінных шэрагаў таксама цікавы занятак.

У рэшце рэшт яны разам спыняюць свае вочы на бутэльках двух заводаў. Першыя — моцныя, вытрыманыя, з гадамі. І салодкія. “Стары нектар”, напрыклад. Ад якога вечаровы краявід робіцца цяплейшым, прахалодная ноч — утульнейшай. Сабіне, праўда, не заўсёды хочацца салодкага віна, яна ніколі не салодзіць каву. І гарбату таксама. Фабіяну, наадварот, даспадобы часам атрымаць асалоду ад густога моцнага прыгожага напою, які мае вінаградна-дубовы настоены пах і пакідае алейныя сляды на шклянцы. Але ўрэшце і ён адчуў сябе перасычаным салодкім бурштынным віном. Каб не прахалодныя дзянькі, больш за пару шклянак яго было увогуле б не агораць. Гэта віно для мокрай восені, для халоднай зімы. Наліваць яго ў келіх, адчуваючы радасць, пяшчоту захаванага сонечнага прамення. Маючы перад вачыма мокрае ад дажджу або сцятае марозам акно.

Яшчэ цікавей пакаштаваць чым болей гатункаў з доўгага шэрагу з антычнымі назвамі і малюнкамі. “Перліна Арыстэя”. Восем год у дубовай барылцы. З самарэкламай на задняй налепцы — “Віно высокага майстэрства і традыцый мясцовых вінаробаў, выдатнай якасці, сапраўдная асалода для гурманаў”. Іх крыху смешыць, хутчэй бянтэжыць. Гэты старажытны грэцкі бог навучыў людзей вінаробству, а таксама вырошчваць аліўкі. Імя Эўрыдыкі, тым часам, вядомае лепей значна за імя Арыстэя. А менавіта ўцякаючы ад яго, яна наступіла на змяю і загінула: джала.

Фабіян калісьці вывучаў антычных аўтараў. Зрэшты, “у галопах па Эўропах”. Хаця старажытнае пісьменства вельмі прывабіла яго. Пакінула, прынамсі, жаданне некалі па-сапраўднаму пачытаць тэксты. Глыбока пераканала, што карані ўсяе літаратуры ў тых далёкіх часах, у пергаментах і папірусах, у гліняных таблічках. Што берасцяныя граматы — папросту мясцовая асаблівасць, каларыт.

Вывучаць недавучанае такім чынам — прыемнасць. Параіўшыся, спыняюцца на “Мускаце Арыстыя”. Сваіх ведаў недастаткова. На набярэжнай яны заходзяць у кнігарню ля высокіх

кіпарысаў. У антычным слоўніку знаходзіцца патрэбнае імя: належала старагрэцкаму пісьменніку. Ён напісаў паэму пра міфічны скіфскі народ, пра арымаспаў. Яны мелі толькі адное вока. А-ля цыклопы. Абставіна гэтая крыху бянтэжыць Сабіну і Фабіяна. Хаця, прычым тут цыклопы? Віно прысвечана аднаму з самых першых літаратараў. Мець такую пляшку на стале — гонар, прыемнасць. Фабіян падлівае Сабіне. Паварочвае бутэльку і летуценна зачытвае: “Віно пераносіць чалавека ў свет мрояў і кахання”.

Раніцай пахне цёплымі букаткамі. Суседзі за сталом — сужэнцы з вялікага прамысловага горада, дзе кепская экалогія. Праз некалькі дзён пры нагодзе яны прызнаюцца, што абодва — “супрацоўнікі”. Напачатку Фабіян з Сабінай адносна яго так і падумалі. Потым ён прыйшоў на сняданне ў расшпіленай кашулі, з праваслаўным крыжам на ланцужку. І яны крыху завагаліся. Напачатку ніякай размовы — “дабрыдзень”, “смачна есці”. Адно абмяняліся звесткамі хто адкуль. У яго напэўна язва ці гастрыт, бярэ дыетычныя стравы, аўсянку. У кухараў нестабільны настрой. То смажаная чырвоная рыба, прысмакі, то абы-што.

Кандыцыянер, якім сюды завабілі Сабіну і Фабіяна, нечакана не вельмі патрэбны. Надвор’е негарачае. Зусім неспадзявана яны прыехалі са сваёй паўночнай спёкі ў паўднёвую прахалоду. Ім сказалі, што прывезлі з сабой дождж і палёгку. На дарозе іх заспела гвалтоўная залева, сапраўдная пляга. Міні-аўтобус, які спачатку спяшаўся, парушаючы дарожныя правілы, пачаў рухацца амаль вобмацкам, каб не быць змытым воднымі плынямі з гор. Другім разам дождж заспеў іх на пляжы…

Каўчэг, адплываў каўчэг. Фабіян спрабуе уявіць сябе на борце. Адчуванне на мяжы вусцішы. Стрыманая радасць, што адарваўся ад берага. А таксама, што пакінуты бераг хутка знікае ў хвалях. Як падчас бедства: цунамі, выяржэння падводнага вулкана. Як знікае арда ў адмысловых шапках з чырвонымі зоркамі. Захлынаецца салёнай вадою. Вобмегам траціць сваю пагрозу, небяспеку, ваяўнічасць, бясследна трацячыся. Пекла, у якім нягорача. Фабіян ляжыць на пляжы з заплюшчанымі вачыма і бачыць, як вада ўзнімаецца, робячы горы каменнымі айсбергамі.

Радасць насельнікаў каўчэга і жах. Жах не дачакацца змяншэння вады, канчатку сусветнага патопу. Не дачакацца берага. Памерці з голаду. Са смагі, калі скончыцца або сапсуецца вада. У бочку пакласці срэбны сыгнэт, не забыцца. Святая вада, яна на

срэбры, яна гаючая. Урыўкі думак. Як кідаецца конь у ваду, плыве за гаспадаром, які, скочыўшы з сядла, узбег па трапу парахода. І стаіць ля борта, здранцвеўшы. Зрэшты, Фабіян гэта сабе толькі уяўляе пад уплывам кіно. Нічога заганнага мысліць крыху шаблонна. Хаця няма ніякага шаблону, адзін кінапрыклад толькі вядомы, іншых папросту не існавала. Іх выгналі, яны ўцяклі. Панічныя ўцёкі, казалі пра іх.

Самі сабе падпісалі прысуд. Прыблізна так, магчыма, думалі камісары, сціскаючы кулакі на беразе, які патануў толькі ў фабіянавых думках. Шкадавалі, што вымкнуліся з рук. Ці прабачылі, махнуўшы абыякава рукой? Наўрад. Паляўнічы азарт не знікае да самага апошняга зацкаванага звера. І нават часова потым. Дагнаць, застрэліць, выкурыць з нораў, з логвішча, з берлагу. Ад пагоні вочы заплываюць крывёй, віно перамогі тлуміць галовы. Хтосьці шкадаваў, што няма аэрапланаў, няма флоту, затопленага у 1918-м. Хаця б адную субмарыну!

Гэтае мора, яно ці не тое Чырвонае, праз якое ратаваліся ад егіпецкай няволі? Ад нявольніцтва, абвешчанага свабодай? Знарочыстасць параўнання. Мора было Чорным, а ўцякалі яны ад чырвоных. Фабіян расплюшчвае вочы... Клубы, грудзі. Фабіян служыў у “супрацьпаветранай абароне краіны” тут, блізка мора. Тое, што ў падобных да яго аматараў добрага року, напаўзабароненага тады, выклікала адно адмоўныя ўспаміны, пакінула ў ягонай душы досыць прыемных ўражанняў. Не само войска, якім ён таксама пагарджаў, а знаходжанне пад час службы на паўднёвых берагах субтрапічнага раю. Ніколі раней ён не бачыў мора. Ён яго палюбіў. Не хацеў з’язджаць. Яму жадалася не гэтулькі застацца, як папросту жыць ля мора. Хай нават халаднейшага, але якое значна бліжэй да ягоных мясцін.

Сабіна, яна нарадзілся ля іншага мора. З якога вылоўлівалі не толькі рыбныя касякі, але і бурштынныя пацеркі. Сярод дзюнаў, пад небам, у якім журботна крычаць мэвы. Побач з рэйдамі, занятымі ракетнымі крэйсерамі. З затокамі, як селядцамі бочкі, наладаванымі субмарынамі. І дзюнамі, за якімі хаваліся рухомыя краты радыёлакатараў і спараваныя цыгары ракетных комплексаў. Моры ў той краіне былі падобныя. Яны заўсёды лічыліся небяспечнай мяжой. Іх надзвычай пільна ахоўвалі. Публіка на пляжах старалася абстрагавацца. Ахова была падобнай. Адно радары, радыёлакатары і ракеты ў іншым разе хаваліся на вяршынях і сярод горных гаргараў, а не ў сасновых барах і выдмах. А падлодкі — у скалістых сховах. І птушкі над цёплым морам луналі вельмі буйныя і больш галаслівыя.

Горы над самым морам абаранялі пляжную стужку ад засушных стэпавых паўночных вятроў. Але гэта што датычыць геаграфічнай мапы. На штабных усё выглядала інакш. Генералаў мала займалі пляжныя радасці і ўжо амаль не цікавілі крыху кавовыя фігурыстыя харашунькі. Па генеральскай завядзёнцы іх нават не вельмі прываблівалі вінныя склепы ў горных сутарэннях. Генералам той арміі належала любіць гарэлку, не зважаючы на клімат. Незалежна ад яго. Тым, хто служыў тут, адно падабаліся дадаткова мясцовыя каньячкі. Але сапраўднай любоўю для іх былі штабныя мапы, у якіх яны плавалі, як рыбіны ў вадзе, то бок у моры. Адно, што пілі аднолькава шклянкамі, па-баявому.

Віно на тэрасе з марскім краявідам. Фабіян дзеля гэтага выцягвае з пакоя вялізны скураны фатэль з драўлянымі падлакотнямі. Скура тоўстая, у зморшчынах. З такой шылі калісьці крагі і скуранкі для авіятараў і аўтамабілістаў, сёньня — чаравікі для спецназу. Скураную гаргару яны называюць Сабакевічам, уладкоўваецца ў ёй зазвычай Сабіна. У талерцы марэлі, вінаград. Сыр. Залацісты, бурштынны або гранатавы струмень.

Смакаваць віно, назіраючы змены на моры. Рух караблёў. Марскіх аўтобусаў, якія спыняліся на кожнай самай малой прыстані, дастаўляючы пасажыраў. Яхты, рыбацкія траўлеры. Драўляныя шхуны. Адныя перапłывалі краявід злева направа або наадварот і знікалі. Іншыя шукалі сабе месцейка нанач. Часам нагадваючы ката, які пераборліва перакладаецца з боку на бок, зьмяняючы паставу, уперад як заснуць. Нарэшце кідалі катвігу. Калі пачынала цямнець, запальвалі ліхтары. Нейк па-хатняму. Сузіранне руху, прыгатаваннях да сну супакойвала. Так калісьці назіраў наступленне ночы ў пампасах славуты пісьменнік-авіятар з кабіны паштовага летака... Можа, яшчэ віна? Так, калі ласка. Ён адзначаў, пралятаючы над селішчамі і мястэчкамі, як запальваюцца агеньчыкі ў дамах, паўсюдзячы навокал у ночы цяпло камінка, сямейнага агнішча.

Увогуле Фабіяну пашанцавала са службай. Канечне, разам з астатнімі мусіў адбываць кухонны абавязак, хадзіць на варту і дзяжурствы па казарме і начныя баявыя, зрэшты, цэладзённыя. Змагацца са сном з навушнікамі на галаве. Але можна было паслухаць музыку, трапляліся і галасы. Шмат цікавага! Напрыклад: нават у нацыянальнай народнай арміі ГДР — можна піва, выхадныя — дома, віно, паляўнічыя каўбаскі. А пра армію ЗША і казаць лішне. З адкрытага мора добра было чуваць, яго люстра якасна адбівала,

ствараючы перашкоды толькі ў шторм. Хаця штарміла часам падоўгу, асабліва што датычыла восені і халоднага сезону наогул. Абы афіцэр не заспеў. Хаця і самі яны карысталі з магчымасці.

Дзяжурства на гары. Пячора з капэ. Бункер. Абеды дастаўлялі “газікам” з даліны, дзе казарма і сталоўка, склады, штаб і салдацкая чайная. Грэчка, кавалак смажанай рыбы. Яйкі і шматок масла, якое ўлетку заўжды растаплівалася, насычала хлеб, на лусту якога клалі, каб не змарнаваць. У ленпакоі Фабіян, адаспаўшыся, спрабаваў штосьці выдумляць прыблізна ў літаратурным рэчышчы. Паміж лістамі, пісанымі ў тым жа сшытку. Пасля першага года службы стаў даволі шмат чытаць. Часам нават сёе-тое купляў, калі трапляў у кнігарню ў звальненні. І ў гарнізоннай кнігаранцы знаходзіў зрэдку цікавыя кніжкі.

Адчуваць сябе геаграфічна дастаўляла задавальненне. Фабіян у сваёй казарме пасля адбою засынае, усведамляючы, што за гарою мора, цёплае, чорнае ноччу мора. Цэлая прорва глыбокай вады з медузамі і дэльфінамі. А дзесь за морам іншае жыццё. Ідэалагічна варожае. Зусім-зусім не такое, не падобнае. Як дзень і ноч. Яны адчувалі гэта фізічна, не бачыўшы таго жыцця і не меўшы нават надзеі ўбачыць. Іх так вучылі. Паказвалі старыя-старыя чорна-белыя падрапаныя кінастужкі пра Ізмаіл і Чэсму. Кніжкі з малюнкамі. Патрыятызму навучалі. За морам уяўляліся накшталт запарожскіх казакоў — вусатыя ў шараварах і з чырвонымі фескамі або ў чалмах страшныя людзі з крывымі шаблямі. Бармалеі з дзіцячага фільма.

Але баранілі яны не ад іх, не ад аматараў кальяна і ятаганаў. Баранілі не ад нашчадкаў янычарскіх, ад натаўскіх “Фантомаў” і “Б-52”. І ракетнай зброі амерыканскай. Дбайна вывучалі назвы і сілуэты — летакоў, караблёў, субмарынаў, ракет — падводнага ды іншага базавання. Авіяносьбітаў. Гонка ўзбраенняў, псіхоз. І штучнае іх узмацненне. Бясконцыя вучэнні, начныя. Навалы бамбавікоў. Стаі крылатых ракет. Як хмары вострых атручаных стрэл персідскіх лучнікаў на калясніцах. Баявыя сланы. Заняткі — уявіць лёт такой ракеты, ляціць нізенька па-над морам, узнімаецца, агінае гару і Фабіяну з хлопцамі капут. Амаль немагчыма збіць, увогуле заўважыць. А нейтронная бомба? Жах! А ўсякая іншая трасца? Хмары саранчы — каб знішчыць ураджай, выклікаць галадоўлю.

Смак да антычнай літаратуры, цікавасць да амфар, размаляваных жыццёвымі сцэнамі, захапленне героямі старагрэцкімі прышчэплены яму тут, сярод сапраўдных элінскіх краявідаў з вечназя-

лёнымі дрэвамі і вінаграднымі лозамі. Ён і паўночны кіславаты вінаград дробны потым таксама палюбіў… Як у кагосьці са старажытных? “Што рабіцьмем узімку? Слухай: агонь распалі, ды, не шкадуючы, у кубкі змяшчальныя лі хмель уцешны, ды ямчэй у цёплай бавоўне схавайся“. Фабіян не мог даць веры, калі выйшла вялікая кружэлка “Па хвалях маёй памяці”. Яе набыць было немагчыма, але адразу з’явіліся запісы. Штосьці зусім надзвычайнае, як на савецкія парадкі. Ніякага камсамола, ніякіх саладжавых тэксцікаў. Вершы Сапфо ды іншых класічных паэтаў. “Песня вагантаў”. Яе ён спяваў, хаця б у думках, калі не дазвалялі ўмовы.

“Ва французскай старане, на чужой планеце…” Уменне абстрагавацца. У казарменых умовах — гэта галоўнае. Каб не даць апанаваць сябе парцяншчыне, прыкрым армейскім завядзёнкам, ладу жыцця тупагаловых, якія як рыба ў вадзе пачуваліся. Кніжныя драўляныя салдаты. Сам Фабіян хутчэй заставаўся алавяным жаўнерыкам. Жыць унутраным жыццём. Мець уласны свет. Без ахвоты, без імпэту і пагатоў азарту выгукваць каманды і адказы, раўці ротныя песні. Нават не раўці, як іншыя, крыху падпяваць, калі побач прапар або яшчэ які-небудзь дзяжурны. “Плачце ж, мілыя сябры, горкімі слязамі…” Гэтак трымацца дапамагала райская мясцовасць. Яе гістарычны дух. Тая ж генуэзская крэпасьць — масток паміж напачатку антычным, потым скіфскім, затым надоўга — мусульманскім светам і сярэдневечнай Еропай. Можна было паразважаць на паперы наконт татараў, агульнай мінуўшчыны. Гедымінаўскі замак. Дзе пасялілі іхняга хана. Грунвальд, дзе знакаміта вызначылася татарская конніца…

Раніцы былі пазбаўлены гарадскіх гукаў, аўтамабільнага шуму, нядзельных царкоўных званоў. Сценаў і дахаў за акном. Выходзячы на тэрасу, Фабіян узгадваў, што насупраць павінен быў начаваць карабель. Увечары прыплыў і запаліў агонь. А сёмай ён яшчэ на месцы. Робіцца ўтульна. У думках успрымаецца, як амаль стары знаёмец. Але ўвагу міжволі забірае сонца. Як вадкае золата ў моры, што нібы патэльня вялікая з аграмадным мёдавым жаўтком. Іншым разам на ўсходзе ранкам у моры расплаўленае жалеза. Слепкае для вачэй. Глядзець немагчыма, можна толькі хуценька зірнуць. Ціхая, маўклівая раніца. Караблі прачынаюцца бязгучна. Толькі з усіх бакоў ад тэрасы крапае з трубак кандыцыянераў, якія гудуць, халодзячы паветра ў пакоях. Паступова там, на караблях, устаюць, мыюцца, чысцяць зубы, з’ядаюць сваю яешню і адпраўляюцца па справах. Мора для іх не адпачынак, праца. Не марнаванне часу, а заробкі хлеба.

Раней, гаворыць каляжанка Сабіны, не было паліва, яны калываліся ля берага, прыкутыя ланцугамі.

Каляжанка з’явіцца літаральна на наступны дзень, проста з мора, прыплыве праз адзін пляж, паўсюль уваход па пропусках, а яна добра плавае. Караблі разыходзяцца, а Фабіян і Сабіна спускаюцца стромымі лесвіцамі да пляжа. Жудасныя лесвіцы, сотні прыступак. Але яны значна горшыя, калі трэба назад. Фабіян іранізуе: другім разам трапіў у вучэбку. Але гэта ўжо пасля пляжа. А на пляжы іх расшукала Сабініна каляжанка. Сабіна паведаміла ёй, што едзе адпачываць у Таўрыду. Яна таксама прыехала.

Бадай самы рамантычны момант. Караблі ўладкоўваюцца на начлег, ствараючы на вадзе, у цемры часовыя паселішча — з выгляду такія ж, як на беразе. Толькі ў моры менш дамоў і меней жоўтых вокнаў. І няма вуліц, калі не лічыць зіхатлівы ходнік ад пражэктара, які на мачце траўлера. На тэрасе можна запальваць святло, але тады не відаць мора і прысутнасць яго часовых жыхароў, падарожных, якія спыніліся на начлег у сваіх перасоўных гатэліках, што быццам ліхтарні папярэджваюць аб уласнай прысутнасці. Распаўсюджваючы навокал жоўтае святло. Lemon juice. Альбо апельсінавы. Разліты на чорную марскую роўнядзь. Жоўтыя начныя вочы невядомых звяроў. Магчыма, загадкавых марскіх пачвараў, якія ўдзень хаваюцца ад сонца і ад людскога вока. Ах! Трэба класціся. Апошні глыток вінца, затрыманы ў роце. Быццам раздушыў паднябеннем ды языком і затым разжаваў даўкую паўночную вінаградзіну.

Фабіян заплюшчвае вочы. На чорна-белым экране па высокіх хісткіх трапах уверх спяшаюцца цывільныя буржуазнага выгляду пад капелюшамі з саквояжамі, трысцінамі, у пенснэ і акулярах, у скураных пальчатках панове, а таксама дамы, дзеці, гувернанткі. Мы не ведаем, а хутчэй здагадваемся, што сярод іх дактары, суддзі, адвакаты, універсітэцкія выкладчыкі, банкіры, купцы, стацкія ды іншыя дарадчыкі, дэпутаты, правадыры шляхецтва, земскія чыноўнікі, памешчыкі, паштовыя і тэлеграфныя службоўцы, чыгуначныя інжынеры, фабрыканты. Але фабрыканты без фабрык, інжынеры без чыгункі, паштавікі і тэлеграфісты без пошты і тэлеграфа, памешчыкі без зямлі і сядзібаў, земскае чынавенства даўно без земстваў, правадыры без шляхты, дэпутаты без Думы, стацкія дарадчыкі без міністэрстваў. А купцы без тавару, крамаў і параходаў, банкіры без банкаў, а калі з грашыма, то з абясцэненымі. Выкладчыкі, яны былыя, бо без універ-

сітэтаў, без мікраскопаў і глобусаў, астралябій, адвакаты без прамоў і падабаронных, суддзі без мантый, дактары без лекаў і шпіталяў.

У агульнай чарзе ўзнімаюцца на сваю, ва ўласных вачах, Галгофу гімназічныя настаўнікі, вучоныя, прафесура, прыват-дацэнты, філосафы, паэты і празаікі, газетчыкі, актрысы з акторамі, рэжысёры правінцыйных і сталічных тэатраў, піяністы, скрыпачы, дырыжоры, Божа ж мой, тэнары, басы і сапрана, нарэшце шахматысты і нават балерыны і танцаўшчыкі. Хтосьці трымаў з сабой Біблію, хтось пару Пушкіных, нехта, можа, бляшанку з попелам, жменю зямлі, а іншы бутэльку масандры. Фотаздымкі, лісты з маркамі больш няіснай краіны, марныя купюры з Раманавымі… Адбываліся вялікія пярэбары нават не народа, пярэбары адукаваных вяршкоў, адмыслоўцаў. Неверагодна: слізгалі па леерах спрытнымі рукамі жанглёры, акрабаты, хадуны па канаце, паглынальнікі агню, кінжалаў, утаймавальнікі звяроў, картачныя фокуснікі, але й шулеры і таксама, клоўны, як жа без іх? Яны болей не былі патрэбныя, прынамсі не адчувалі сябе дарэчнымі, паставілі крыж. Засталіся далакопы, іх чакала праца, праўда, за яе перасталі добра плаціць, што ні дзіўна.

Напруж думку: ці яна, флатылія, якая не вернецца, здавалася каўчэгам, каўчэгам-караванам на свабоду? Ці каўчэгам быў сам Крым? Часовым каўчэгам, як хутка высветлілася. Які ім давялося спехам пакінуць, ратуючы свае душы, істоты, свае гонар і годнасць, жыццё. Сваю рэлігійнасць, сумленне, як ні дзіўна, сваю любоў да радзімы, да зямлі продкаў, да айчынных святыняў. Але з разбітымі надзеямі, з раструшчаным як царкоўны звон шчасцем, са згубленымі радасцямі. Уласна кажучы, без веры, пагатоў без цара і зусім без айчыны. З пахаванымі марамі, учорашнімі непатрэбнымі поспехамі, стлумленымі жаданнямі, марнымі планамі, колішнімі пражэктамі, з недарэчнымі сёння памкненнямі, з пакінутымі ў іншым жыцці каханнямі, вянчаннямі, шлюбамі.

Не толькі мысленыя спробы сягнуць унутр, зазірнуць пад скуру, Фабіян працягвае сачыць за нямымі сёння падзеямі, за рухамі людзей, якіх больш няма, кінахроніка працягваецца. З берага, які робіцца небяспечна землятрусным, на — хай больш бяспечную, але не да рэшты дабранадзейную палубную паверхню дробнай салдацкай хадою кіруюць вайскоўцы: са сцягамі, пры пагонах, узнагародах, са зброяй — з шаблямі, рэвальверамі, са стрэльбамі і кулямётамі. Казакі, канечне. Жандары, паліцыянты, турэмныя наглядчыкі таксама. Бацюшкі з матушкамі, з крыжамі, абразамі і нават харугвамі, не пакі-

даць жа, але без святой вады, без царкоўнага кагору і прасвірак, толькі са свечкамі, з грамніцамі, яны лягчэйшыя і месца меней займаюць.

Глядзіш на тыя даўнія чорна-белыя паражэнскія пярэбары, ліхаманкавую пагрузку на караблі і стрэмкай адчуваеш нечаканую думку пра кінааператараў. Бо мы сёння толькі менавіта дзякуючы ім маем візуальнае уяўленне, прычым дакладныя веды пра тое, што тады адбывалася. Яны працавалі на прычале, яны грузіліся са сваімі грувасткімі апаратамі ў апошнюю чаргу. Ім неабходна было захаваць стужкі, знайсці ўмовы ў Стамбуле, каб праявіць кінахроніку. А калі гэта здымалі для ЧК? Таксама магчыма. Хто мог перашкодзіць, арыштаваць, застрэліць? Ніхто не звяртаў, напэўна, асабліва ўвагі.

Сцягі, якім больш ніколі не трапіць у бой, не стаць пагатоў пераможнымі, якім наканаваны моль і нафталін. У лепшым разе музейная вітрына для вузкага кола. Некаторыя, праўда, трапілі напачатку ў храмы, але ў ніякім разе не ў штабы, не ў казармы, не ў цытадэлі. Якая карысць ад іх у храме, сваім ваяўнічым прызначэннем яны супярэчаць яго духу, само знаходжанне ў царкоўных сценах — дысананс. Злашча, як паказаў час, яны, некалі баявыя, выветрыліся ад пораху, але па-ранейшаму вайсковыя, стваралі пазней небяспеку для эмігранцкіх цэркавак і святароў. Не заўжды, але даволі ў шмат якіх выпадках. Хай сціплыя, амаль сарамяжлівыя, згорнутыя, без прэтэнзій на большае, яны захоўвалі небяспеку сваімі арламі, божым тварам, крыжамі, сваімі “яцямі”, сваёй былой славай і нават, нават апошнімі і канчатковымі паразамі, сваёй біяграфіяй.

Калі быць бессаронннім, гэта не былі насамрэч панічныя ўцёкі, як абвясцілі адразу пераможцы, як ім хацелася лічыць да ўласнага здавальнення, дзеля славалюбства, умацавання свайго геройства, сваёй у рэшце рэшт выніковай перамогі. Не, гэта не былі зусім уцёкі, хутчэй адыход. Дай Бог любой іншай арміі адысці з пазіцый у шыхце з прымкнёнымі штыхамі, пакінуць зямлю, якую абаранялі з апошняй сілы, да скрайняй магчымасці, адысці гэтак жа пад сцягамі, з аксельбантамі, ганарова, і вочы не трэба было хаваць адным ад адных. Ганьба з гонарам напалам. На жаль.

Хто хацеў, той узышоў, нават хай няпэўным сумнеўным крокам, на апошні хісткі бераг радзімы, на карабельную палубу, як на каўчэг. Хто перамог ваганні, хто адчуваў фізічны жах да навалы, што імкліва сыходзіла з гор да мора. Хто не знайшоў ў сабе волі, не адчуў рашучасці, хто размяк, лічачы, што бацькаўшчына даражэйшая за паратунак, што ахвяруецца дзеля яе, хай рызыкуючы, што перамо-

жаных не судзяць, што ў рэшце рэшт не ўсім хопіць месца на борце. Прыгнечаныя, спустошаныя, здратаваныя маральна чырвонай конніцай, яны знябытыя, зняверанныя, зламаныя, знішчаныя ўнутрана і абыякавыя да ўласнага лёсу. Яны, хто рызыкаваў, хто застаўся нязрушна на месцы нібы камень, груваcтка, няўцямна, нічога не адчуваючы, нават страху. Хаця кожны ўглыбках душы меў дробныя жарынкі, жменьку прыску, які ледзь цьмеў, але захоўваў у сцюдзёнае лістападаўскае надвор'е рэшткі цяпла, рэшткі надзеі, што не загіне, што ацалее, хай нейкім дзівам, цудам, але павінен застацца жывым. Пашкадаваць павінны новыя гаспадары апошняга кавалка, архіпелага краіны, апошняга яе берага, з якога змыла марской хваляй усіх нязгодных, хто не скарыўся, не пагадзіўся, не ўтаймаваўся. Яны, хто застаўся, усе яны смяротна памыліліся, яны падкінулі ў паветра манетку, але не здолелі яе злавіць: раптоўна запанавала цямрэча. Заслона не апусцілася, упала. Як зрынаюцца знічкі ў густым крымскім небе.

У спешцы эвакуацыі, у атмасферы безнадзейнасці, фатальных настрояў, краху, у панічным страху ці пакінулі яны сваю агентуру? Генерал Клімовіч? Ці проста ў роспачы спалены ўсе масты, абрэзаны драты, спынена сувязь, адцяты як навостраным нажом альбо сякерай ад матчынай пупавіны. Сваіх прыхільнікаў, людзей з гартам, якія заставаліся свядома, каб рыхтаваць, але рыхтаваць што? Мяцеж? Ці вяртанне арміі, высадку на бераг, які яна цяпер пакідала? Але прыклад з гісторыі — высадка замежных войскаў, Крымская вайна, быў няўдалым, неператканаўчым, безвыніковым, не дазваляў спадзявацца. Праўда, гэта былі чужыя арміі, хаўрус ворагаў, што конча істотна. Але ці рэальна арміі, якая здала пазіцыі, адступіла з апошняга свайго поля бою, прычым не за дэмаркацыйную лінію, не засталася дзесь побач, адступіла за марскую нетру ў зусім чужынскі край, ці рэальна спадзявацца, цепліць кволую надзею, што яна не расцярушыцца, не змалее, не сыдзе ў пясок нібы абязрушаная хваля, сканалая, а набудзе новае дыханне, адчуе свежую кроў у жылах і нагэтулькі ўзмацнее, што рашуча наважыцца не проста вярнуцца назад, каб зрабіць адчайную спробу высадкі на заняты праціўнікам бераг, але каб замацавацца на ім, застацца, пераможцы? Не самагубчы чын здзяйсніць, не з мэтай памерці на крымскім беразе са зброяй у руках… Рытарычнае бадай пытанне. Ці магчыма зноўку ўвайсці ў ваду, якой болей не будзе? У жаху і болю, сцяўшыся, яны пакідалі небяспечны бераг у полымі.

— Генерал Клімовіч, ці не сваяк твой часам, Сабіна?

— Можа, але хутчэй аднолькавае прозвішча проста.

— Урангель успамінаў потым, як вельмі хутка Клімовіч вынішчыў у Крыме бальшавіцкую агентуру, нездарма паставіў яго контрразведкай кіраваць. Дый землякі, гэта не апошняй абставінай было, напэўна.

— Не, не, у нас дакладна не было паміж сваякоў такіх, такіх, карацей жорсткіх, генералаў увогуле тым больш, не было.

— Усё гэта толькі ў пэўным сэнсе настальгічныя моманты сёння, усяго толькі. Напрыклад вось: адзначаюць свята Беларускага гусарскага палка, генерал Урангель вельмі падбаў. Сказаў палымяную прамоўку перад конным шыхтом. Ён прайшоў па ўсіх эскадронах і выпіў у кожным па чарцы, а затым быў абед з афіцэрамі.

— Калі такое было?

— У 1917-м, на Румынскім фронце.

— Ты сказаў — ён падбаў тады…

— Ну, я чытаў, што ён паслаў да румынаў, каб набылі воз віна і ў кожны эскадрон выдалі па барылцы, каб узняць настрой гусараў, нашых, беларускіх. Добра, забудзем. Хаця, вось яшчэ: наш Ермачэнка быў ад’ютантам у генерала. Праўда, брахлівыя газеткі абзываюць яго вельмі дрэнным чалавекам, але ў іх усё выклікае нянавісць…

На суседнім пагорку, зусім побач са “Шчытом і мячом” музей савецкага пісьменніка: дом сярод дрэў і хмызоў з вокнамі кабінета на поўдзень, на бязмежную марскую прастору, нават балконік ёсць. Фабіяну крыху зайздросна: у такім месцы, у такіх умовах жыць і пісаць кнігі… Ці задумваўся той, ці ўзнікалі ў галаве яго карціны вялікага зыходу Белай арміі? Не маглі не ўзнікаць. Да слова, порт, месца адпраўкі апошняга Белага каўчэгу, ён справа, крыху далей, але таксама бачны адсюль.

Тэма, аднак, была хісткай, небяспечнай, навошта чапаць тое, што можа выбухнуць, апаліць, моцна параніўшы ці нават заб’е да смерці? Пісьменніцкія шэрагі й так прарэджвалі з дбайнасцю стараннага гаспадара. Вышукваючы, прасвечваючы, спрабуючы літаральна на зуб: ці не фальшывая манета, ці дакладна адмерана чырвонага золата, ці няма хібных нотаў, ці не праглядаецца скажонай перспектывы, ці не бляклыя фарбы або, наадварот, занадта змрочныя, чорныя, брунатныя, ці не чутно дысанансу, ці няма, не праглядаецца скрыўленне галоўнай лініі? Як з чужынскімі ўплывамі, з варожымі настроямі, папутніцкімі поглядамі? Ці няма неадпаведнага

прысмаку, непрыемных пахаў, заморскіх пернасцяў, шкодных поглядаў? Падазроных, здзеклівых, іранічных інтанацый?

Няпэўны шлях немалой грамады, насельніцтва даволі вялікага горада, якое апынулася на вадзе нібы ў чаканні біблейскага патопу. Ды што там казаць: насельніцтва крымскай дзяржавы. З усіх партоў адыходзілі ў мора перагружаныя судны, дзесяткі і дзесяткі, не касякі птушак у небе, а караваны з людзьмі па хвалях кіравалі ў вырай, каб не вярнуцца. Шлях такі ж няпэўны, як хісткай была цяпер палуба ў час абавязковых восеньскіх штормаў. Вагаўся абмежаваны свінцова-шэры краявід у вачах, безупынна вагалася само мора, хвалявалася, гушкаючы, змагаючы.

Фабіян у галаве, перад унутраным зрокам, пракручваў туды-назад кінастужку, з кожным разам атрымлівалася крыху інакш, з узмацненнем, выяўляючы першым разам някідкія, менш заўважныя моманты, на якія не звяртаеш увагі, бачачы на экране перш усё буйное, больш агульнае. Уласцівасць зроку, яго ўзаемадзеяння з мозгам, якому дасылае сігналы пра фіксаваныя візуальна аб’екты, дзеянні, рух.

Другі мясцовы пісьменнік жыў пад гарой, на якой пісаў свае творы той, першы, пра якога Фабіян узгадваў папярэдне. У гэтага быў дом больш шыкоўны, нагадваў хутчэй вілу на набярэжнай, на самым праменадзе, з шэрагам унушальных пальмаў перад фасадам. Таксама цяпер музей: груваcткі стол, груваcткая пісьмовая прылада з чарніліцамі, груваcткі драўляны гадзіннік на падлозе, накшталт трафейных, што з Нямеччыны прывозілі. Пішучай машынкай ён не карыстаўся, меў машыністку. А потым выдавецтва, рэдактура-карэктура, цэнзура і гэтак далей. І можа быць нават сталінская прэмія пры канцы адпрацаванага ланцужка. Зрэшты, ён і быў лаўрэатам.

Адзін пісаў пра тое, як конная чырвоная армія ачысціла Крым ад белагвардзейцаў, пра стварэнне калгасаў, барацьбу з засухай, ірыгацыю і ўраджай бахчавых. Другі, які жыў зверху і бачыў мора значна шырэй і на большую адлегласць, стараўся быць хоць крыху нейтральным, наколькі магчыма ў тыя часы, пісаў пра рыбаловаў, тутэйшых вінаробаў, у яго атрымліваліся някепска марскія аповесці і нават антычныя сюжэты на мясцовым матэрыяле. Той, які жыў у кідкім месцы, на шыкоўны дом якога заўжды зважалі адпачыннікі, зрабіў бяспройгрышны крок — напісаў эпапею “Чарназём”: як гераічныя савецкія людзі эшалонамі возяць чарназём у цэнтральны засушлівы Крым, каб ператварыць яго ў квітнеючы пладародны сад, у

сапраўдны, а не выдуманы зялёны рай, возяць адтуль, дзе тлустую глебу не ведаюць куды падзець.

Фабіян спрабуе думаць у рэчышчы, як яму хочацца патрапіць, у якім маглі разважаць уцекачы, спрабуе рэканструяваць чужыя думкі, настроі, пачуцці, але разумее, што гэта вельмі прыблізна атрымліваецца. Не можа ён, які ў другім пакаленні нарадзіўшыся ў новай краіне пераможцаў з сярпом і молатам, пражыўшы цалкам ва ўмовах, створаных імі, у гісторыі, якую яны прыдумалі, вартаваўшы тут, на скраі былой райскай зямлі іхні лад, іхнюю рацыю, іхнія погляды, заваёвы, іхнія ваяўнічыя паводзіны нарэшце, іхняе месіянства… Яму не надта прыемна, але ён разумее, што ў яго, аднак, лепей атрымліваецца мысліць у рэчышчы, уласцівым для тагачасных пераможцаў, а не ў рэчышчы думак вымушаных ўцекачоў.

Разбураны былы гарманічны парадак, дзе яны пачуваліся дома, у сваёй талерцы, гаспадарамі, знішчана мінулае суладдзе, зніклі лагічныя сувязі, адбыўся зрух у часе і прасторы. Ранейшы сусвет зруйнаваны да падмуркаў, люстэрка раструшчана, талерка разбіта. Ці магчыма склеіць хаця б разарваныя на шматкі старыя фотакарткі? Не, Фабіян не цешыць сябе вялікім спадзяваннем. Апынуцца ў шкуры адрынутых задача вялікацяжкая. Памежны стан паміж жыццём і смерцю, рэчаіснасцю і вар’яцтвам, надзеяй і роспаччу. Новая, нявывучаная роля, няма ніякіх тэкстаў, ніякіх падказак: адгэтуль і назаўжды — ні госць, ні гаспадар.

Міжволі ў галаве Фабіяна пачынае выбудоўвацца план: як варта было дзейнічаць Урангелю, як найлепей бараніць ідэальна абкружаны морам паўвостраў, злучаны з мацерыком вузкай пупавінай, ён быў нібы створаны Богам для абароны. Фабіян спрабуе адхінуцца ад думак: глупства гэта, недарэчна ўсё, гісторыю не перапішаш, старыя штабныя карты не перакроіш. Ён разумее, што Урангель бадай не мог замкнуцца ў Крыме, трымаць кавалерыю ў стойле, чакаць зімы. Яму трэ было даводзіць, перш Антанце, і сабе не ў апошнюю чаргу, што армія на нешта здатная, не толькі да абарончага хавання ў крымскім мяшку. Арміі патрэбны рух, перамогі. Асабліва пасля паразаў, уцёкаў, фатальнай эвакуацыі ў Крым. Хаця, як на цвярозую галаву, ён не мог не разумець, што бадай трэба ўмацоўваць свой амаль востраў з усіх бакоў, на самых небяспечных напрамках. Менавіта кругавая абарона найбольш можа працягнуць існаванне, як ён сам называў — апошняга берага свабоднай зямлі.

Крымская армія, выступіўшы вонкі, вымкнуўшыся часова на стэпавую прастору, не была здатнай, ніяк не магла доўга развіваць наступ, бясконца пашыраць фронт, бо ў любы час плеўка расцягнулася б і лопнула. Нельга бясконца дзьмуць у шарык. Гэта не кажучы пра бясспрэчны, няўмольны факт: яе напружаныя высілкі з поўначы гнялі адной толькі ўжо сваёй вагой, цяжарам, масай значна большыя чырвоныя арміі. І яна, крымская армія, неўзабаве сама, без ніякай каманды, адчула, што далейшы рух наперад самагубчы. Яна расцягнула лукавіну фронту да небяспечнай мяжы, калі ён неўзабаве пачне свіціцца нібы старое радно і стане зусім некантралявана ў самых нечаканых месцах лопацца, дзерціся і вызваленую часова тэрыторыю заліе як атрамантам чырвоная конніца.

Так-так, крымская армія ў рэшце рэшт адхінулася, адхапіла руку, як ад напаленага жалеза, як ад полымя, стала выдыхацца як адкаркаванае нават не віно, а хутчэй піва, самаадвольна адрэагавала, як рэагуе жывая губка ў небяспечнай сітуацыі. І пачала сціскацца чыгрыннай скураю, змяншаючы імкліва заняты раней абшар, грамадзячыся на ўваходзе, загушчаючыся, каб закаркаваць, запячатаць нібы сургучом бутлю. Але не выйшла, яна працягвала залівацца назад праз рыльца, як у пушчанай адваротна кінастужцы, у судзіну паўвострава. Атрымлівалася старая амфара з цяперашняй марачнай мадэрай. Яе разлілі па келіхах, але вярталі назад, не выпіўшы, не адсвяткаваўшы перамогі. Злівалі, каб захаваць да заўтра, проста каб не змарнаваць, пра новы прыдатны выпадак ніхто ўжо не думаў, спадзяваннеяў не заставалася нават у самых крамнёвых.

Сабіна з Фабіянам з цікаўнасцю разглядаюць вінныя вітрыны, чытаюць назвы і звесткі. Яны ўпершыню апынуліся перад крымскімі шэрагамі віна, якія нечакана вельмі разнастайныя. Так, бывае, апынаешся ў іншай краіне ў кнігарні, дзе ўсё табе цікава. Але як немагчыма набыць, прачытаць тым больш, столькі кніжак, так няма сэнсу марыць пакаштаваць вялікую лічбу вінных гатункаў. Адкаркоўваючы над морам бутэльку з бурштынным вінам, Фабіян задумваецца ўголас:

— А цікава: якое віно пілі яны тады, шмат пілі ці не? Ці былі нейкія абмежаванні? Лёгка яго было набыць, атрымаць?

— А можа ім у пайку выдавалі, такое немагчыма? — прапаноўвае Сабіна свой варыянт.

— А нявыключана. Можа, хіба не ўсім. А ў бронецягніках, у бронеатрадах, лётчыкам, канечне. На караблях, само сабой.

— Але такое, як мы з табой на вуліцы пакаштавалі, з бочачкі, як ты хацеў.

— Таннага, напаўдэсертнага? Вельмі верагодна. Хаця штабісты, контрразведка, яны мелі лепшае, напэўна ж.

— А ўжо матросы потым хапалі пад руку што трапіцца, што кепска ляжыць, ці не?

— Матросы — вядома ж. А вось да іх у розных палках, у розных частках магло быць сваё віно нумар адзін, свой гатунак. Мелі ж яны ўсе адметныя колерам фуражкі, шэўроны свае, штандары. Быў выразны падзел, захаваўся нават у эміграцыі: авіятары, кавалерыя, бронебатальён, карны, артылерысты, юнкеры і на палкі таксама паасобныя.

— Марскія афіцэры аддавалі перавагу рому, а медбраты — спірытусу, як ты думаеш?

— А мне думаецца, адным больш падабалася масандра, іншым магарыч, а некаму “Слёзы Учан-Су”, вось і ўсё, на што мне фантазіі хапае рэальна, хаця гэта ўсё цікава. Нам толькі застаецца ўспомніць пра іх за шкляначкай сёння.

Фабіян падсумаваў: які цуд — віно! Сонца, хмель, сокі вінаграднай лазы, але й здароўе таксама… Усхапіліся з-за стала, не паспеўшы дагаманіць, дапіць. За іх дапілі іншыя, не пагрэбавалі, паклаўшы побач на стале наганы. Каб тых, хто не паспеў эвакуявацца, не здолеў ці не пажадаў, як звяроў зацкаваць, выгнаць з нораў і абмыць удалае паляванне на тых, хто не аказваў супраціву, на бяззбройных і, захмялеўшы ад лёгкасці крыві, адсвяткаваць расстрэлы, учыніць баляванне пераможцаў, якім у рукі трапілі трафейныя гарматы, браневікі, бочкі з порахам і віном і ўчарашнія ворагі…

Прафесар антычнасці, які чакаў судна, трымаў у галаве выбітыя ў крымскім камені сентэнцыі, парады, эпітафіі, не зважаючы на ўсе навалы — захаваныя праз вякі, каб ён змог напісаць нечаканую дысертацыю, выступіць з бліскучым дакладам у імператарскім таварыстве аматараў старажытных тэкстаў, выдаць іх пад саф’янавай вокладкай, зрабіць фурор у вучоным свеце. Ён адчуваў сваю непатрэбнасць, чужацельнасць у іншым жыцці, часе, свеце, які гіганцкай хваляй насоўваўся з поўначы, з-за гор. Прафесар не дадумаўся сабраць калекцыю, проста занатаваць хуткай рукой сяк-так запісы папярэдняй царскай эпохі і самыя апошнія, якія адлюстроўвалі змену ўладаў, запісы, што згінуць пасля іхніх уцёкаў. Ён не мог таксама падазраваць, які своеасаблівы росквіт новых надпісаў чакае Крым

заўтра. Будучая ўлада жыць не магла без транспарантаў, плакатаў, заклікаў і пагрозаў. Сцены, вуліцы і плошчы павінны былі крычаць новай мовою, лаяцца, рагатаць, здзеквацца, у ніякім разе не маўчаць.

Фабіяну сёння вядома тое, чаго не маглі ведаць тагачасныя ўцекачы: дзясяткі газет, якія размножыліся пры Ўрангеле, будуць знішчаны, каб следу не засталося ад таго, няіхняга жыцця, ад страхаў, турботаў тых, хто не жадаў здавацца, не жадаў падпарадкавацца, хто ўсё што мага рабіў, каб не трапіць у жалезныя рукі, не апынуцца ў пад'ярэмным стане, каб вымкнуцца на волю, хай гэта абернецца беспрытульным лёсам, хай яны стануць бяздомкамі, але свабоднымі, што праўда стануць вымушана, гвалтоўна, бо — выгнаныя, сапхнутыя з берага пясчанай бурай, смерчам.

З жалезных абцугоў махіны, якая падрыхтавалася няўмольнадбайна разлічыцца з кожным, хто не паспеў эвакуявацца, не трапіў на борт уцякацкага каравана з караблёў: для яго не хапіла месца ці ў апошні момант у яго апусціліся рукі. Для махіны няважныя матывы, акалічнасці, яна — прылада помшчання тым, хто апынуўся паміж молатам і кавадлам. Так, рухаліся жорны гісторыі, пра якія пажадана максімум толькі пачуць часам, чымсьці трапіць у іх.

На думку Фабіяну міжволі прыходзяць згадкі пра хімію, фізіку. Вадкасці, судзіны, шчыльнасць адрозная, агрэсіўнасць. Карозія, іржа, кіслотнасць, растварае нібы скуры дубіць. Змешваюцца вадкасці, якія маюць супрацьлеглае паходжанне, не спалучаюцца, у прыродзе не існуюць разам. Якія магчымы вынікі? Алхімічная рэторта. Штучнае золата? Уяўны філасофскі камень? У рэчаіснасці чаго дасягнулі? Біблейскага міра, хіба, але без ладану й золата, дакладна.

Існуе мноства рэчываў, якія ніяк не рэагуюць паміж сабой, якія бяспечныя адносна сябе, каталізатар нічога не змяняе, ці хай акселератар, калі ўспомніць механіку. На справе існуюць таксама такія, якія не змешваюцца, не ўступаюць у рэакцыю, ператвараючыся ў нешта новае, але яны ўзаемна выцясняюцца. Агрэсія: хто каго?! Вынішчыць, масай выцясніць, выдушыць, перакрэсліць. Як жалеза выплаўляюць, ліюць у пясок.

Дагэтуль дзве сілы ўзаемадзейнічалі, шукалі пастаяннага кантакту, як паветра дзеля падтрымання тэмпературы гарэння. Так-так, яны прагнулі выкрасаць іскры, запальваць агонь, выклікаць выбухі, ствараць знішчэнні. У тую сцюдзёную фатальную восень ніяк белае не спалучалася з чырвоным. Сумесь атрымлівалася выбуховая. Крым зусім не нагадваў палітру мастака, не напамінаў шклянку з

вадой, каб змяшаць акварэлі. Відавочна: у лепшым разе выходзіла славэтная крывавая Мэры. Падзеі той восені нагадвалі звыклае механічнае дзеянне: адну вадкасць выпускаюць, закаркоўваючы дбайна дно. Можна выцерці рукі.

Калі яны адплывалі, стоячы спінамі наперад, не маглі не ўзнікаць у некаторых галовах цьмяныя, неканкрэтныя думкі пра Траянскага каня. Вось каб жа такое стала магчымым! Толькі не драўляная конская статуя, не. Вялізны танк з пачаткаў Першай вайны, жалезная гаргара, што спараджала паніку сярод салдат, нават калі ён рухаўся не насустрач ім, а ззаду, рухаўся ў адным з імі напрамку, з адной мэтай. Нібы аграмадная жалезная жывёліна-выкапень, злавесна павольны вусенічны монстр памерамі, выглядам, а тым больш рухам выклікаў сапраўдны жах, спараджаючы дрыжыкі ў акопах, якімі б надзейнымі яны не былі. Прымушаў людзей закопвацца ў зямлю, хавацца глыбей, шукаць нораў бы зверы й полазы. Танкі паўзлі ў гушчыні выбухаў і страляніны быццам перасоўныя фартэцыі з гарматным агнём. А можа Фабіяну так толькі здаецца і думкі наконт каня Траянскага — адно яго ўласныя фантазіі. Ці да антычных рэмінісцэнцый ім было, ці мог хтосьці ў тыя хвіліны складаць у галаве пражэкты хаця б таго, што пазней назавуць пятай калонай? Дый з сымболікай было б складана. Як вызначыць хто ёсць хто? Алена — гэта хіба Расея, якую выкралі чырвоныя? Ці Траянскім канём быў часова Крым, які не ўдалося ўратаваць? Як голка у вушка трапіла скрозь вузкі перакопскі калідор чырвоная конніца, разгарнулася, ашчэціўшыся тысячамі шабель, пік, штыхоў, скіраваных уперад, у бок уцякацкіх плоймаў. На пакінутым беразе засталіся каты і сабакі, і коні, якіх пагатоў забраць было немагчыма. Так пазбываюцца на паветраным шары ці ў шлюпцы лішняга баласту.

Узняць трап, аддаць швартовы! Абрыў, прорва, пустата. Сціснулася роспачна сэрца, перацяла паветра. Халодныя хвалі, штармавое мора, нізкае змрочнае неба, сцюдзёны вецер, ёдкія салёныя пырскі. Смак развітання на губах. Раны гояцца часам, гэта чакала іх яшчэ далёка наперадзе, не хутка, праз гады. А цяпер марская соль толькі пачынала яшчэ мацней іх развярэджваць.

Праз Чырвонае мора, каб выратавацца з палону егіпецкага і рассеяцца па свеце, вельмі ў значнай ступені растварыцца з цягам часу ў замежным асяроддзі. Але Чорнае мора страшнейшае. Яно сапраўды чорнае-чорнае, яно — прорва, бездань. Усё: прыцісні мацней здымкі людзей, якіх больш не ўбачыш — не толькі памерлых,

тых таксама, якія засталіся ў пастцы. Так і краявіды роднай краіны, яны цяпер толькі на фотакартках. Краіны, якая засталася ззаду, ва ўспамінах, у снах, у мроях, якая не знікла, але з'іначылася, стала супрацьлегласцю. Якая зрабілася забароненым плодам, экзатычным фруктам, каляровым, сяточным, але з чырваточынай, з нябачнай пагрозай атручанасці.

Эфект, адваротны фотапраяўцы: выява пачынае траціць выразнасць, абрысы спакваля раствараюцца, канкрэтыка знікае, берага болей няма, ёсць толькі цёмна-шэры краявід, суцэльная нежыццёвасць, брудная пляма, усё, краіна не існуе. Як ты для яе, зрэшты. Якісьці візуальны падман, міраж, брыдкія кепікі.

Каб напоўніць бурдзюк новым вінам, спачатку трэба выліць з яго сапсутую ваду, прынамсі застаялую, што задохлася, рэшткі. Каб спадзявацца на ўдачу, мець поспех, каб выйграваць, трэба дыктаваць свае ўмовы, правілы гульні, спрабаваць прынамсі, не адседжвацца на барыкадах, не марудзіць, не здаваць ініцыятыву ў чужыя рукі. Трэба не пушчаць праціўніка на сваё поле, да ўласнай брамы не дазваляць наблізіцца, бамбардаваць яе.

Можа быць ён забыўся, а можа проста часы не тыя, толькі калісьці абарона замка, горада за сценамі, фартэцыі былі звычайнай справай, будзённай практыкай і зусім неабавязкова безнадзейнай, не заўжды замкі заваёўвалі штурмам і аблогі былі конча выніковымі. Хаця без вонкавай дапамогі адкінуць ворага ад муроў сапраўды задача найцяжкая, хто б спрачаўся?

Але ж ён, генерал Урангель, якраз і схапіўся за безнадзейную, лічы, справу, разумеючы гэта, за справу, даведзеную амаль канчаткова да катастрофы. Ён пераняў яе ля самай апошняй тады рысы. Гонар афіцэра, нязбыўная прага славы, спадзяванне на шацунак, ледзьве не на цуд? Магчыма, але абавязак кожнага здатнага свядомага чалавека паспрабаваць зрабіць максімум што ты можаш і крыху болей, каб перасягнуць сябе, пажадана крыху болей, тады ў яго не будзе важкіх падстаў для раскайвання. Генерал Урангель гэта й зрабіў бадай, хутчэй за ўсё нават так, няма сумневу.

Фабіян не адчуў зусім сябе на месцы генерала, у яго ролі, не ўявіў сябе ім, а нібы мыслена прымерыў да сябе не яго абавязкі, а хутчэй нават місію, прыгледзеўся да становішча, прыслухаўся да гукаў гісторыі, бо галасоў, у яго не было ілюзій, пачуць было немагчыма. Рэальна толькі знайсці на больш бязлюдным беразе

марскую ракавіну і прыкласці да вуха. А пачуўшы роўны манатонны пошум, паспрабаваць уявіць.

Сёння Крым чыніўся ў фабіянавых мясцінах. Абуджаныя да свабоды, яго землякі з цяжкасцю пазбываліся летаргічнага сну, але вольнае паветра рабіла сваё. Яны — нашчадкі рыцараў, яны — рыцарская нацыя! Сцяг з конным рыцарам залунаў над краінай… Але каторы ўжо год краіну зноўку дратуе чырвоная конніца, паўторнай навалы якой не атрымалася пазбегчы. Што зробіш, няма рады, у наш час роля рыцараў — перамагаць маральна. Але гэта цяжкая перамога, не раўнуючы Пірава і амаль уяўная. Перамога-параза насамрэч, калі быць шчырымі.

Крымскага зыходу пасля забароны рыцарскага сцяга, аднак, не адбылося, рыцары вымушаны хаваць свае твары, каб не вельмі вылучацца натоўпу. Яны застаюцца белымі варонамі. Яны ператварыліся ў ордэн пераследаваных, уцісканых духоўна. Аднак ім не нашываюць прымусам нейкіх жоўтых зорак, свайго рыцара яны, часам прагнучы ўзняць забрала, чапляюць сабе самі — на берэт, капялюш, на штрыфель або пад ім — гэтак болей бяспечна.

А яны якраз адразу апынуліся ў аблозе, не маючы на большае сілаў, ці лічачы што не маюць. Яны самі, можна сказаць, замкнуліся ў сваім Крыме, у сваёй старой крэпасці, ужо нечакана радыя, што здолелі атрымаць цытадэль. Але яны не рабілі наступу падобна генералу Урангелю, яны самі сябе абмяжоўвалі, не ведаючы навукі ваяваць, не разумеючы сапраўднай кітайскай дыпламатыі, не знаёмыя з кампрамісам, з манёўрам, не разумеючы патрэбы хітраваць, не прымаючы закуліснай барацьбы.

Хто апынуўся на чале рыцараў, выявіўся або мяккарукім інтэлігентам, або няўжыўчывым жоўчным рамантыкам. З адкрытым забралам — гэтага аказалася недастаткова, замала. Каб спадзявацца на поспех, пагатоў у рэшце рэшт перамагчы па-сапраўднаму. Хто прэтэндаваў на першую ролю, дзейнічаў у адных выпадках наіўна, ідэалістычна, у іншых — тапорна, груба, непрыхільна, раздражнёна, адштурхоўваючы.

Сабіна згаджаецца з Фабіянам, але кажа, што справа была бадай безнадзейнай, тым больш з тымі выканаўцамі, якія далучыліся. Хаця яна зусім не крытыкуе, не: інтэлігенцыі перамагчы босых, голых, галодных немагчыма было ў 1920-м, немагчыма было й цяпер: па-рыцарску, з рытуаламі і рэверансамі, з гонарам і годнасцю. На жаль. Якія вузкія рамкі для чалавека насамрэч у жыцці! Мы нават не

задумваемся… Афіцэрства, “вяршкі”, што іх чакала на поўдні? Чайхана, караван-сарай, усюдыісны дэпрэсіўны голас муэдзіна?

Праз вейкі, амаль заплюшчыўшы вочы, Фабіян бачыць сілуэтныя цені пляжнікаў. Што робіць людзей агрэсіўнымі, варожымі, жорсткімі? Раптоўна, на голым месцы, сярод светлага дня? І вось адзін белы, другі чырвоны, апошніх нават два і робіцца ўсё больш і больш… Крым і цяпер тэктанічна нетрывалы. Дзесь у нетрах вулканічная актыўнасць не ўпала да нуля. Хоць вулканаў, хаця б спячых як быццам не відаць. Чаму? Калі ён вольны ад Расеі, Расеі-метраполіі, Расеі постчырвонай? Сакрэт полішынэля насамрэч. Фабіяну не хочацца адказваць самому сабе на маўклівае пытанне.

Фабіян узіраецца ў сіні далягляд. Сто дваццаць шэсць караблёў, і ў кожнага афіцэра ў кабуры “руская рулетка”. Колькі звернуцца да яе, каб аднойчы выпрабаваць сябе і, вельмі магчыма, вызначыць свой лёс? Рэвальвер ім больш не спатрэбіцца. Ён цяпер толькі “рулетка”. Для апошняга кроку, каб абараніць свой афіцэрскі гонар, толькі бадай жа наадварот. Не ў сэнсе апошні набой, каб не здавацца ворагу, а каб спыніць жыццё з іншых зусім прычынаў, адарваўшыся ад ворагаў, пакінуўшы іх далёка ззаду, уратаваўшы сваю свабоду, каб не ведаць потым што з ёю рабіць далей, як існаваць, што рабіць з жыццём, маючы апроч яго толькі рэвальвер.

Думкі пра рэвальвер неадчэпныя, варта толькі прасякнуцца небяспечнай тэмай. Барабанная прылада ў звычайных, небаявых умовах рэч для смяротнай гульні з самім сабой, або, скажам, гульні пад прымусам, ці ў азарце, п’яным альбо ў напружана-нервовым, халоднакроўным, у коле з іншымі ў ланцугу, у чарзе па смерць…У галаве гук барабана, некалькі спосабаў крутнуць яго. Ёсць яшчэ бінокль, але з турэцкага берага немагчыма ўбачыць свой. Ёсць штабныя карты з прайгранымі баямі, тэрыторыяй, зямлёй, краінай, імперыяй, што апынулася пад сярпом і молатам…

Міжвольныя параўнанні. Краіна Сабіны з Фабіянам сама сябе ў аблозе ізалявала. Апошні чырвоны востраў. Дзе чырвоныя сцягі і зоркі, дзе піянеры з камсамольцамі, дзе ставяць помнікі Іосіфу і Феліксу, рамантуюць статуі Ільіча.

Неадольнае вяртанне да гістарычнай драмы, да марскога зыходу ў замежжа на каўчэжным флоце, папросту нейкі самагіпноз пачынае нагадваць Фабіяну развярэджанне раны жменяй буйной марской солі, хай раны фантомнай, націсканне на балючае месца, трыманне сэрца ў роспачным стане, вачэй — на мяжы слёз. Хаця,

хаця косткі тых людзей даўно спарахнелі, падзеі перацёрлі жорны гісторыі, злашча яго ўсё гэта ніколі не датычыла нават яго родных. Аднак жа яны кранаюць, яскрава драматычныя падзеі, сцёртыя з аблічча гэтай прыгожай краіны: ніякіх слядоў сёння. Ты ведаеш, чаму так атрымліваецца? Сабіна толькі здагадваецца. Мабыць, прычына ў краявідзе. Калі зважаць пераважна на ландшафт, засяроджвацца на прыродзе, то яе вялікаснасць, відавочная старажытнасць, кідкая адметнасць, архаічнасць нават, усё гэта міжволі выклікае думкі пра мінуўшчыну, прымушае зазірнуць у старыя дзеі.

— Ты маеш рацыю сапраўды: глядзіш на горы, неба, на мора і нібы апынаешся ў антычных часах, зараз карабель Адысея пазначыцца белай плямкай ветразя на самым даляглядзе.

— Гэта накладаецца ў памяці: візуальная на кніжную. Бо калі ведаеш, што адбывалася калісьці, гэта ўплывае на цябе само сабой, незалежна ад твайго жадання.

— Напэўна ж так. А большасць не ведае і нічога не бачыць, не заўважае антычнага духу, не адчувае адметнага прысмаку. У большасці зусім канкрэтныя мэты, без…

— Без дадатковай лірыкі.

— Вось чаму ў хрушчоўскіх кварталах, а нашая радзіма — гэта шэрая забудова, карціны гісторыі не ўзнікаюць, думкі не сягаюць далей за афіцыйную гісторыю, за суцэльную тэлеайчынную вайну.

— А калі ў сценах кінатэатра ім завалодае якая-небудзь, хай нават рыцарская гісторыя, за дзвярыма кіназалы ён пазбудзецца яе як часовага зачаравання.

— Каб палюбіць коннага рыцара, нічога раней аб ім не чуўшы, трэба каб захаваліся кварталы, дзе гэтыя рыцары калісьці не здаваліся публіцы маскарадам.

— Так, канечне, адной прыроды замала, яна ў нас звычайная, сярэдненькая. А калі замест замка кароўнік, успаміны пра рыцарскія часы не ўзнікаюць. Сумна, калі так безвыходна і так безнадзейна.

Сабіна цікавіцца ў Фабіяна: ці хацеў бы зараз у звальненне, як тады?

— Двойчы трапіць нагамі ў тыя ж кірзавыя боты? Не, бадай не хачу, нават вельмі. Мне лепей з табой, цяпер і тут. І мора з балкона, і віно, і Вялікі зыход, і пакінуты рай ва уяўленнях.

— Але прысмак свабоды, калі трапляў з несвабоды, з-за плота ў “райскія шаты”?

— Усё роўна не хачу назад. Я рады, што тых часоў больш няма, што ракетныя шахты ў райскіх гарах цяпер проста як спыненыя і закрытыя назаўжды вугальныя.

— Які ты пацыфіст аднак у мяне.

— Гэта ўспомніць цікава, але толькі. Як чакаў, лічыў дні, як хацелася дахаты, але разам тут было лепей, прыгажэй, цяплей. Канечне, гэта была краіна, з якой не хацелася з'язджаць.

— Хацелася і не хацелася, ясна, зразумела. Гэта напэўна як і з Урангелем было і з усімі астатнімі: хацелася і не…

— Нам таксама будзе ў канцы: хацецца-не хацецца адначасова, мы не выключэнне. Райскія краіны дзеля таго ж існуюць: спакушаць.

— Спа-ку-шаць. Ты гэта прачула гаворыш, з веданнем.

— Гэта месца, дзе мне па-сапраўднаму захацелася захаваць свае ўражанні, пісаць, дзе я захапіўся гэтай ідэяй. Мне вельмі падабаўся прыклад Грына, мне здавалася гэта найлепшым выйсцем ў яго часы, вядома якія.

— Але ён быў падазроным бадай, што не рабіў як усе, белай воронай існуючы.

— Так, ён прыцягваў, канечне, непатрэбную увагу. Але ж і я прыцягваў, любы, хто не хацеў, спрабаваў быць сабой, хто хоць нейк супраціўіўся традыцыі: "малады-чарпак-старык". Нездарма гаварылі, што ў звычайны час людзей лепей уведаць у арміі — хто і што.

— І як гэта было?

— Звычайна, вельмі звычайна. Не ўсім даспадобы армейскія парадкі, калі адны прыгнятаюць іншых. Так, здзекуюцца, прыніжаюць гонар…

— І годнасць.

— І годнасць таксама, і толькі таму, што ім не забараняюць гэта рабіць. Прыніжае не проста той, хто помсціць за сваё прыніжэнне, а той, каму гэта ў асалоду. Гэта перамога плебса. Лёкай — вельмі небяспечны стан.

— Ты так гаворыш пра дзядоў і маладых, усё так і было?

— Гэта безупынная халодная вайна паміж сваімі. Толькі таму, што адзін раней трапіў у армію, ён з радасцю бярэ прылады ката, не можа нацешыцца роляй, якая выпала дзякуючы лішнім месяцам у казарме. Скідаючы рабскую шкуру, ён грэбліва кідае яе іншаму, але не робіцца рыцарам.

Назаўтра Фабіян з кубкам кавы ў руках глядзіць згары на ранішняе мора, у якім уяўляе жаўток сонца як адбітак лямпачкі ў

кубку увечары. Ён узіраецца і пачынае разумець, што не хоча вяртацца, што мог бы і абысціся без радзімы, такой, якой яна стала без рыцарскага герба, без грунвальдскага сцяга, страціўшы апошнія адзнакі шляхетнасці. Тут не дома, але дома ён быў ні свой ні чужы, не адчуваў сябе па-сапраўднаму патрэбным. Дома ўсё той жа безаблічны стан “насельніцтва”, агульнай масы, для якой ты незразумелы. Дый што такое радзіма? Калі яна топча твае ідэалы, пагарджае табой, дратуе сама сябе, не паважае сваю істоту, асобу, персону, страціла рэшткі гонару і годнасці.

Яна, радзіма, недзе там за спінай, адсутная, далёкая, нябачная. Яна нібы вечная мерзлата, голая халодная тундра, не прыстасаваная, больш за тое, не прызначаная для нармальнага жыцця, пазбаўленая сонца і надзейнага цяпла. Хай яна там і застаецца, у сваім адвечным летаргічным сне, у ганебным стане прынукі, пакоры, маральнага напаўпрыгону. Так, у непавазе да сябе, у несвабодзе.

Спакуса раптам прыдуманых уцёкаў, амаль уяўнай нібы-эміграцыі. Так проста: адмовіцца ад квітка назад, здаць. І твая краіна зараз з раздражняльнай рэальнасці ператвараецца ў нячасты сюжэт з тэленавінаў, якія можна не глядзець увогуле. Фабіяна абражалі подласць і крывадушнасць цяперашняга жыцця, нікчэмнасць людзей, якія спасылаліся на службовы стан, на абставіны, на часы.

Яны таксама ў 1920-м, хто чакаў да канца, узважвалі, круцілі ў руках, прыкладалі да вуха нібы марскую ракавіну, прыглядаліся да задумы, магчымасці эміграцыі — наколькі пэўная, наколькі лагічная, надзейная, якая няўмольна ператваралася ў пільную патрэбу, у непазбежнасць, у абавязкова кончае самаратаванне. Чым хутчэй ратаваць ногі, каб захаваць галаву. Гэх! Нічога такога Фабіян, аднак, сёння не адчуваў. Ён мог і павінен быў вярнуцца, яму канкрэтна пакуль нішто не пагражала, а вось яны тады, у 1920-м, такога лёсу не мелі, яны вярнуцца назад не маглі, яны маглі толькі ўцячы, выкарыстаць апошні шанц.

Памяць тут, як і ў фабіянавых мясцінах, заставалася ідэалагічным паняццем. Падручнікі гісторыі — нібы газетныя сшыўкі, з якіх павырэзвалі мноства артыкулаў. Ніякіх помнікаў, ніякага напаміну пра Вялікі зыход з абдоймаў егіпецкага палону, нявольніцтва. Толькі растыражаваныя канвеерныя манументы пераможцаў. Фабіян заплюшчвае вочы: на вуліцах, плошчах, на прычале ў порце пакінутая баявая тэхніка, зброя, рыштунак. Сухапутныя ўзбраенні, якія немагчыма было забраць, захаваць, не толькі з увагі на пасажыраў, пера-

гружанасць, на курс ў чужую краіну і проста бессэнсоўнасць, яна страціла патрэбу, яшчэ ўчора каштоўная, на вагу золата, вайсковая бранявая тэхніка, цяжкія гарматы, нават аэрапланы, нібыта прыдатныя для ўцёкаў, ніякай карысці, далёка не заляціш, пад табой мора. Жалеза, якое астыла…

Крымскія горы і даліны надоўга апанавалі чырвоныя. Дэмбельскія альбомы. Цэлае фотафальклорнае радовішча на тэрыторыі колішняе дзяржавы ў дзяржаве. Апроч дурноты, плюгаціны і кітчу, сама аснова не выклікала ў шэраговага Фабіяна грэблівасці. Экскурсіі — генуэзская крэпасць і гэтак далей. Пальмы, кіпарысы. Нават акторкі з кіначасопіса ў якасці аздобы. Ветразі, яхты. Беласнежныя лайнеры. Нібы-антычныя калоны. Супер-фота: яны ўзводна ў масоўцы на здымках севастопальскай абароны. Ад англа-французскіх інтэрвентаў. Незвычайнае адчуванне сябе не проста не ў сваёй вопратцы, а — царскім жаўнерам. На архаічнай вайне, у іншым жыцці, эпосе, у надзвычайных абставінах, з думкамі прапрадзедаў, іхнімі патрэбамі і ўяўленнямі пра свет і сябе ў ім. Хаця, напэўна, браты па зброі ягоныя ні над чым падобным не задумваліся. Прасцей кажучы, не ўскладнялі сабе жыцця.

Звальненні былі экзатычнымі экскурсіямі. Уражанні нагадвалі саган з усходнімі пернасцямі. Аднойчы пра янычараў пачаў пісаць. Зрэшты, не атрымалася. Што ён тады пра іх мог ведаць? Толькі што гвардыя, целаахоўнікі султанаў і пашаў. Адданыя і жорсткія, ваяўнічыя і бязлітасныя. Элітныя аддзелы турэцкага войска. Пра сапраўдны змест з’явы, пра янычарства бадай тады шэраговы Фабіян не здагадваўся. Яны цікавілі сваёй экзотыкай. А крымскія санеты? Загадкавыя каменныя гарады, недаступныя — на вяршыні гары. Як тыя сярэдневечныя замкі, але — цэлыя гарады. Высечаныя ў скалах на вышыні кляштары пачатковых хрысціян, калі яшчэ не падзяляліся на асобныя канфесіі. Хаця над апошнім фактам ён тады не мог задумвацца. Ды само неба начное было адметным. Як цёмна-сіняе покрыва з залатым зорным сяйвом. З тысячы ды адной ночы…

Не магло не прыгнятаць адно — груды смецця. Сабіну і Фабіяна яны вельмі раздражнялі. Пры Ўрангелі, у ранейшыя часы не магло быць так, здавалася ім. Тады прыбіральшчыкі не круцілі носам, не разважалі — колькі павінна каштаваць прыбіранне смецця, быццам гэта моцна кваліфікаваная праца. Засмецілі рай, занядбалі, засралі, трэба быць шчырымі. Забудавалі хрушчоўкамі, шпакоўнямі, складамі, казармамі, нагрувасцілі. Тут кожны дом павінен быў будавацца

інакш, як было калісьці, пакуль рай не пакінулі, ратуючыся ад пагоні вяршкі грамадства, думалася Фабіяну.

Але, не зважаючы на пляжы і віно, паўвостраў, не шкадуючы лішне, зрабілі бочкай з порахам. Якое супадзенне: ваенных будаўнікоў вучылі менавіта ў райскай краіне, славэтны будбат. Яны практыкаваліся сярод пальмаў і вінаграднікаў. Цэлае вучылішча — каб будаваць ракетныя шахты, сховішчы для ядзерных боегаловак, бункеры, камандныя пункты, базы падлодак, докі, аэрадромы. Па дапамогу выклікалі шахцёраў, прыцягвалі макшэйдэраў, метрабудаўнікоў. У райскія шаты! Яны ўпарта дзяўблі горы, бурылі іх, бязлітасна свідравалі, пракладалі сакрэтныя тунэлі. Сёння — гіганцкая, але шкодная, увогуле марная для райскага кутка праца, як падземныя заводы фюрэра. На хрушчоўках будбат адпачываў, у напаўп'яным стане вядома. Салдаты пасля заканчэння тэрміну не хацелі на дэмбель. Іх вучылі будаваць падземныя аб'екты, умацаванні, капаніры, ангары, штабы, казармы, астатняе — як атрымаецца. І яны не маглі ўжо будаваць як трэба, ды не ў райскіх лясах, ды без мадэры, на якую ў салдата будбата заўсёды былі грошы. Навокал недакончаныя санаторыі, вілы, дамы адпачынку, асобна — падмуркі атамнай станцыі, рай не паспелі перарабіць цалкам па-свойму.

Фабіян аднойчы трапіў на кэпэ глаўкама, ля самага мора. Будаўніцтва завяршалася: басейн, бункер, вінны склеп, афіцэрская рэстарацыя, ён усяго не бачыў, але здзівіла, што абшалявалі знутры дошчачкай без сучка, сібірская ліствіца, казалі хлопцы. Выглядала вельмі шыкоўна. У казарме ён пачаў сачыняць пра яблыкі Траянскага каня. Яго прывозяць цішком, уначы, выстаўляюць на прычал і невядомы карабель знікае. Гіпнатычны вобраз. Але гэта не запечаная качка з яблыкамі. Вантробы небяспечныя. Траянскі конь з трупамі? З гадамі, скарпіёнамі? Не, хутчэй у ім трупы памерлых ад чумы. Якісьці сумбур, няздольнасць будаваць празаічны твор. Фабіяна паслалі ў нарад, дапісаць ніколі не атрымалася.

Але думкі пра Крым, яны неадчэпныя. Як стварыўся рай? Адарваўся кавалак, як ад той Гандваны, прывандраваў на поўнач? Ці адламіўся, адсунуўся ад паўночнага берага, утварыўшы невялікае плыткае мора? Гэта што датычыць самой зямлі. А экзатычныя пальмы? Занесла шчодрай жменяй насенне, раскідала ля мора. Ветрам, які затрымалі горы. Па-за імі, на поўначы засталіся руды стэп, спякотнае сонца, сухмень, салёныя азёры, саланчакі. А калі Бог стварыў яго, скажам, дзеля адпачынку працоўных, як

атрымліваецца? Перш, народных камісараў, працаўнікоў цэка, саўдэпаў, камбедаў, абкамаў-рэўкамаў, чырвоных маршалаў. Творчых сілаў сацрэалізму, ідэалагічных кадраў, чырвонай прафесуры. Для іх таксама: перадавікоў працы, стаханаўцаў, стотысячніц. Для герояў бітвы за ўраджай, сталевараў-ударнікаў, адважнікаў вялікіх сталінскіх будоўляў камунізму. Для “будзь гатоў к труду і абароне”, варашылаўскіх стралкоў, для іх — ахоўнікаў бязмежнага ГУЛАГу.

Ці не памыліўся Бог? Хаця, спачатку плёнам яго працы пакарысталіся царская сям’я, фабрыканты, ліхвяры, банкіры, золатапрамыслоўцы. Купцы розных гільдый. Кадэты, акцябрысты. Графска-княская костка. Кавалергарды, правадыры дваранства, земскія галовы, генерал-губернатары. Жандары. Тайныя, сапраўдныя і стацкія саветнікі. Кавалеры ордэнаў на шыі і на грудзях. Дума з фракцыямі, свяшчэнны сінод з епархіяльнымі ўправамі. У Бога бадай не хапіла моцы, а можа жадання, адцяць, зрабіць яго востравам, перасунуць у мора, пакрыць суцэльна субтрапічным лесам, цалкамператварыць у квітнеючы сад. Гэткі вось Кіпр, але ў суседнім моры. Яблыкі спакусы ў райскім садзе сёння драўляныя, з ядлоўцу. Пахнуць ім, даўка — як пахнідлы ў паўднёвых цэрквах.

За кармой беласнежная сцяжына. Ззаду ноч. Зіма. Сцюдзёна і цёмна. Тут — зыркае сонца, сонца ў смузе. Лагоднае, пяшчотнае, супакойнае. Рай, які прымушалі пакінуць напярэдадні блізкіх Калядаў і Новага года. Свята нараджэння Хрыста. Мішура, серпанцін, канфеці. Атмасфера радаснага чакання, раптоўна-хвілёвага зрывання сэрца з рытму, быццам абрынулася ў прадонне і ўстрымалася. Прадчуванне незвычайнасці, сапраўднага свята. Святочная ёлка, падарункі. Шампанскае. У вядзерцы з лёдам. Мандарыны, шакалад. Хрыстос нарадзіўся! Ах! Шчымліва да слёз. Вясёлая язда ў тройцы з бомамі, іскрыцца снег, смех.

Спыніць! Адкінуць назад, трымаць на адлегласці хаця б гарматнага стрэлу. У ніякім разе не пусціць, захаваць старое жыццё. Стары лад. Звычаі і завядзёнкі. Традыцыі і каштоўнасці. Вера. Цар. Айчына. Трыяда, якая нядаўна выклікала трымценне голасу, шчымленне сэрца. Збэшчаныя святыні. Зробленыя пустым гукам. Ператвораныя ў нішто тры сланы, на якіх адвеку трымаўся звыклы свет. Нават альфабэт зняважылі. Новыя галодныя агрэсіўныя варвары. Нават альфабэт! Каляндар зыначылі. І ён ім чамусьці перашкаджаў. Абы на свой блюзнерскі капыл. Няма ні цара, ні айчыны, адкуль застацца веры? Але Бог — адзінае, што яны яшчэ мелі.

Цар, якога саслалі спачатку ў крымскія пальмы, чамусь не трапіў сюды. Няма цара, ён знік са сцягоў урангелеўскай арміі. З поўначы наступ вечнай зімы. Спаўзанне чарговага, раптоўнага ледавіка. Няўмольная навала. Арда. У шапках з сабачага футра, з крывымі шаблямі. З апантанымі вачыма, з крыважэрнымі ратамі. Дзікі стэп… Лейтэнант Джавані Дрога, які гадамі чакае ў генуэзскай крэпасці варожае войска з боку Татарскай пустэльні, думаецца Фабіяну. Страх ператвараецца ў патрэбу, у манію. Толькі ў рамане насельнікі крэпасці, загіпнатызаваныя няўмольнасцю уяўнай навалы, адмаўляліся пакінуць муры, у думках жадаючы, каб вораг конча прыйшоў. Зрабіўшы спакваля для сябе чаканне сэнсам жыцця.

Мы заўжды падспудна чакаем непрыемнасцяў, гвалтоўных зменаў, нейкай неакрэсленай пагрозы. Мы толькі не паказваем выгляду, што чагосьці баімся. Існаваць у лёгкім стрэсе — наш лёс. Хоць гэта не дае запабегчы здарэнняў, ліха. Такое не зусім утульнае існаванне не залежыць ад нашых жаданняў. Джавані Дрога чакаў памазахісцку. Частка афіцэраў Белай Арміі таксама. Яны засталіся, правадзіўшы вачыма белыя дымы, якія распусціліся ў моры. Каўчэг быў караванам з мноства караблёў. Яны стаміліся ад уцёкаў, зняверыліся, сталі абыякавыя да ўсяго, перш — да сябе. Яны не ведалі, што іх чакае. Маглі прадчуваць, але на нешта неакрэслена спадзяваліся, прынамсі стараліся ці спрабавалі спадзявацца. Эміграцыя здавалася катастрофай.

Час з’язджаць усё ж надышоў, яны з Сабінай, пакінуўшы ў рэцэпцыі рэчы, апошні раз на моры: месца хапае, раніца не пляжная, надвор’е нібы адмыслова змікшавана, каб яны не надта шкадавалі пра ад’езд. Пасля начнога дажджу з маланкамі халаднавата. Сонца заспалася, яго спачатку няма зусім. Уласна кажучы, па пляжы нечакана няўтульна, яны ўстаюць з драўляных лежакоў і ўзнімаюцца наверх, на “салярый”, што прасунуты ў мора. І нават тут не ўсё занята, як бывае звычайна, яны кладуцца плазам на прахалодныя дошкі і прыкрываюцца, бо апатычнае сонца раз-пораз зашморгваюць фіранкі шэрых хмарак, і ляжаць зусім не цёпла. Фабіяну ўзгадваецца рыцарскі турнір, што ў дзень іхняга ад’езду пачнецца на адлегласці — у горадзе з генуэзскай крэпасцю. Некалі рыцары, кавалеры крыжоў мусілі адплыць з паўвострава, пакінуць райскую мясціну, дзе вынішчылі затым усё рыцарскае, шляхецкае. Ці атрымаецца вярнуць сякі-такі дух? Штучныя прышчэпкі ці заўжды даюць вынік? У Фабіяна няма адказаў, ёсць толькі пытанні. Яны ляжаць з Сабінай

моўчкі, размаўляць няма асаблівай патрэбы, хочацца адно надыхацца на астачу марскім паветрам, наслухацца хваляў, каб хоць на бліжэйшыя дні крыху захаваць адчуванне мора.

— Ты ведаеш, парушае пазней маўчанне Фабіян, выбітыя, выгнаныя з Ерусаліма крыжакі пагрузіліся на караблі і апынуліся ў моры. Яны заставаліся вайсковай сілай, як і армія генерала Урангеля, яны высадзіліся на Кіпры і заснавалі сваю рыцарскую дзяржаву.

— Але ж гэта быў востраў, ім пашанцавала.

— Можна й так сказаць, на пэўны час, зрэшты яна праіснавала трыста гадоў…

— Яны з вялікімі стратамі ўпарта заваёўвалі горад з Дамавінай Гасподняй, але бясконца ўтрымліваць яго не маглі. Іх акружала чужароднае ваяўнічае мора. Мне ўвогуле здаецца гэта вар'яцкім: рыцары ў жалезных даспехах у распаленых сонцам пясках. Я думаю, Кіпр стаўся для іх лепшым месцам, думаю, нават раем, калі ўлічыць, што сёння гэта суцэльны курорт, прынамсі нетурэцкая частка.

— Абрысы Кіпра нагадваюць відавочна відарыс крымскі. Але Бог не зрабіў Крым канчаткова востравам, штосьці яго стрымала, прымусіла пакінуць аднолькавую магчымасць і абараняць з поспехам вузкі уваход, і прайсці скрозь яго ўнутр. І нашым, і вашым. Тое, што чырвоныя прайшлі цераз гнілую затоку ў халады, перакрэсліўшы перакопскую абарону, не навіна. Імператарская пяхота рабіла тое ж самае, калі Перакоп абаранялі туркі з татарамі, я чытаў калісьці. Рускія некалькі разоў уваходзілі ў Крым, але пакідалі яго, некалькі разоў, нават дзіўна. Гэта каштавала столькіх жаўнераў, столькі пораху. Крым быў напэўна для іх накшталт Ерусаліма: і хочацца, і колецца…

— Толькі што яны не бачылі ў ім нічога свайго, не адчувалі сваіх правоў. Гэты пісьменнік, які потым стаў пісаць па-англійску, ён таксама трапіў за мяжу праз Крым, ён яго здзівіў, пісьменнік не адчуў рускага духу, як ён пісаў потым. Крым здаўся яму чужым краем, дзе ўсё было нярускім: пахі, гукі, рык асла, крык муэдзіна.

— Калі падумаць: рай і не павінен быў выглядаць інакш. Рай, гэта заўсёды незвычайна, гэта замежная тэрыторыя, экзатычны куток.

— Як у рэкламе "баўнці"?

— Сапраўды. Рай не мог выглядаць будзённа, як звычайная вёска: саламяныя стрэхі, пахіленыя парканы з парэпанымі збанамі, напрыклад.

Яны зноўку ляжаць моўчкі. Ляжаць, часам расплюшчваючы вочы ў неба, дзе сонца ніяк не можа вызначыцца, і глядзець не слепка, нават прыемна, усведамляючы, што бачыш неба над морам, над Крымам. І неадчэпная думка: апошні раз бачыш. А над галавой часам у абсяг зроку трапляюць чайкі, якіх кідае нібы ў хвалях у паветраных плынях, вецер трывае парывісты.

Бог ім нарэшце пасміхнуўся, дазволіўшы сонцу апоўдні ўлагодзіць Сабіне з Фабіянам апошнія марскія ванны. Аднак змыць соль аказалася не так проста, як ім здавалася напярэдадні. Платны душ, які яны даўно прыгледзелі, спыніў сваё існаванне менавіта ў патрэбны дзень. Ім паспачувалі, далі параду, і вось яны па чарзе ў змрочнай старой кацельні сярод іржавых трубаў, вентыляў здолелі за грошы пастаяць некалькі хвілінаў пад апатычным цуркам з друшлячка.

Апошняя ежа з півам на цяністай тэрасе пад каменным мурам у “Раі” на набярэжнай. Гэта віла для новых рускіх побач з морам, яны ў жэзлонгах загараюць у лоджыях. Ад віна перад дарогай Сабіна з Фабіянам адмаўляюцца, апошняя пляшка выпіта ўчора ўвечары наверсе з морам як на далоні. З морам, якое апынаецца спакваля пад цёмным небам, якое не паспявае зрабіцца суздром чорным, бо нябачная рука жменяй раскідае наўсцяж россыпы залатых зораў. Апошняй пляшкай было ружовае, інкерманская “Гераклея”, Фабіян не вялікі аматар ружовага, але назва спадабалася вельмі. Яго не пакідае думка пра вінныя склепы ў горных пячорах. Штосьці Урангель, канечне, пагрузіў на караблі. Але колькі засталося яшчэ! Малаверагодна, што выбівалі коркі з бочак, білі бутэлькі, каб крымскі нектар багоў не дастаўся ворагу. Напэўна, матросы адчулі культурны шок, трапіўшы ў склепы з мадэрай.

— А што ты думаеш пра гэта? — пытаецца Фабіян, агучыўшы свае думкі пра віно.

— Я? — Сабіна робіць здзіўленыя вочы. — Я пра гэта не думала. Каб пры адступленні заўжды знішчалі тое, што немагчыма забраць, замест трафеяў пераможцы атрымлівалі толькі ламачча. Але, здаецца, з трафеямі звычайна бывала ўсё нармальна. Урангель не знішчаў жа свае танкі і самалёты? Вось ты, ці здольны быў бы выліць запасы марачнага ў мора?

— Я — не.

— Вось бачыш.

— У мяне ўжо нейкія думкі пад заслону, тэма не дае пераключыцца на іншае. Ці не была белая эміграцыя вылушчаным па восені

плодам, зернем, ядром сваёй змучанай, скатаванай бацькаўшчыны? На беразе засталіся асцюкі, плеўкі, шалупінне. Ці не была менавіта знятымі вяршкамі, якія знесла хвалямі, нібы марское белае шумавінне?

— А мне, знаеш, калі фантазіраваць, хочацца параўнаць іх бадай з ікрой рыбіны: з успоратым брухам засталася на беразе кінутай дзюбам на спажыву. Як уяўлю, што ў сярэднім на палубах, у каютах і ў трумах кожнага карабля было больш за тысячу чалавек, робіцца ніякавата. Гэта цяжка ўявіць нават. Параўнанне з селядцамі ў бочцы не прыдатнае. Тут менавіта пра лічбу ікрынак у слоіку хутчэй падумаеш.

— Так, магчыма, сапраўды гэта больш дакладна будзе. Але я пра сваё: плод саспеў і адваліўся, нібы какосавы гарэх, да яго кінуліся галодныя і прагныя, ды зубы зламалі.

— Хутчэй міма рота пранеслі.

— І гэта праўда. Але, але насенне расцерусілася і без роднай нівы не дало і не магло даць асаблівага плёну. Яно трапіла ў чужую глебу і кволая рунь была заглушана пустазеллем. Сэ ля ві.

Вядомы сёння факт: генерал Урангель забраў паштовых вайсковых галубоў з Севастопаля ў Еўропу. Праз паўтара года яны вярнуліся. Галубы вярнуліся. Яны не разумелі нічога, тут размаўлялі цяпер не так іншай моваю, як іншымі словамі, з іншай інтанацыяй. Прыгаломшаныя, яны кружлялі, прыляцеўшы ў свой дом, які стаў чужым, калі не з Парыжа, дык з Бялграда. Зрэшты, яны нядоўга пакутвалі, іх зжэрлі, так-так, зжавалі моцныя чырвонафлоцкія сківіцы, як белагвардзейскіх паштовых сувязных. А як жа?!

Галубы ў клетках на палубе — чым не каўчэг сапраўды? — думаецца Фабіяну. Яны ратаваліся ад патопу, ад чырвонага патопу, ад шабельнай навалы. Не выключана, што нейкую іншую дробную жывіну разам з харчовымі прыпасамі ўзялі таксама, шлях да чужога берагу для некаторых забраў дзесяць нават дзён. Так, зусім не выключана, хаця пэўна невядома, бо дзе падрабязная справаздача пра гаспадарчы бок марскіх пярэбараў? Няма яе.

Пазней гэты прыклад натхніў можна сказаць чырвоную ўладу. НКВД, пасадзіўшы ў турэмныя цягнікі крымчакоў, вывезла іх з райскіх лясоў ў тартарары праз вузкі перакопскі перашыек, дарога заняла і месяц, і два. Паўтарылі так з іншымі: арыштаваўшы пагалоўна за ноч, падрыхтаваўшы закратаваныя каўчэгі на колах, прызначаныя раней для быдла. Каб учыніць гэта з зашуганымі старымі, дзе-

цьмі, жанчынамі, у высокіх кабінетах і штабах распрацавалі паводле ўсіх вымогаў стратэгіі і тактыкі, а затым хутка і жорстка ажыццявілі свае буйнамаштабныя вайскова-карныя аперацыі. Стварыўшы цэлым народам незагойную рану на ўсё астатняе гістарычнае жыццё.

Што праўда, у 1920-м перасяленне белага народу адбылося ў незвычайна прымусовых абставінах, але добраахвотна, ніхто нікога не вывозіў сілком, у кайданах, і што яшчэ больш істотна — гэта быў зыход ад зыркай агнёвай, маланкавай пагрозы нявольніцтва, гвалту, арыштаў, расстрэлаў, ад смерці.

Тыя, іншыя пярэбары — не на караблях цераз Чырвона-Чорнае мора, не да цяплейшага краю на паўднёвым беразе, а ў замкнёных вагонах, пад збройнай аховай, у быдлячых умовах, адбываліся раптоўна, гвалтам і на ўсход, у стэпы і пустыні, на пагібель і ажыццяўляліся з больш-менш людскіх умоў, з родных котлішчаў. Першыя ўцякалі, ратаваліся ад варожых шабляў і штыхоў, ад чужынскай улады. Другіх акружалі, бралі ў жалезныя абцугі, хапалі яжовымі рукавіцамі нібы карнікі ў нядаўнюю вайну, арыштоўвалі родныя нібыта войскі з пяшчотнымі васільковымі пагонамі. І гэта пасля вызвалення з-пад акупацыі і па загаду роднай жа рабоча-сялянскай улады. Але ж лёсы! Жорны, напраўду.

Аніводзін карабель не загінуў у моры ў час Вялікага зыходу. Усе пазней дайшлі да далёкага порта, да месца сваёй апошняй стаянкі. Кабператварыцца паступова ў жалезнае ламачча. У карабельныя могілкі. Але спачатку ў мёртвую эскадру, у лагер на вадзе з афіцэрскім сходам, шпіталем і школкай, з капліцай, штабам, пральняй і гарматамі. Урангель ад самага пачатку ведаў чым закончыцца ўсё. Як толькі прыняў камандаванне, ён загадаў рамантаваць караблі, рыхтаваць флот. За паўгода да эвакуацыі. Але таксама стаў умацоўваць армію. Каб даць час быць гатовымі каўчэгам да адплыцця.

У апошнія хвіліны, ужо ў маршрутцы, Фабіяну думаецца: урангелеўскія караблі сталі казармамі і жытлом на вадзе для афіцэрскіх сем'яў, гэта не быў ужо флот, з якім можна было спадзявацца на вяртанне, на паўторнае заваяванне Крыму. Але ён найдаўжэй заставаўся наколькі магчыма баявым фармаваннем, прычым флот не пацярпеў паразы, як армія генерала на крымскім мацерыку, флот выратаваў яе ад поўнага разгрому, але ён згас як агонь, як цяпельца, у якое не падкідаюць дроў. У афрыканскім моры, у Бізерце на Куццю 1924-га над урангелеўскімі караблямі быў спушчаны сцяг, назаўжды. Флот каўчэгаў спыніў існаванне…

Уцекачы адплывалі, стоячы на карме па-афіцэрску: пагоны, шэўроны, аксельбанты, узнагароды, пры шаблях і пісталетах, зняўшы фуражкі. З баявымі штандарамі. Хто застаўся — праводзілі іх вачыма, закапаўшы ці знішчыўшы дакументы, пагоны, медалі, нашыйныя крыжыкі. Нават фатаграфіі, дзе яны ў мундзірах, пры рэгаліях. У баявым шыхце, у конным, пры зброі. Каля браневіка, гарматнай батарэі. Пад трыкалёрам. Забыць сваё мінулае, выкрэсліць усё, што папярэднічала цяперашняму дню. Заплюшчыў вочы да болю, да каляровых плямаў. Расплюшчыў — навокал рабаціць. Чырвоныя сцягі, транспаранты, плакаты. Зоркі на шапках... Тых, хто застаўся, закапаюць у рудаватую зямлю, рэшткі якой засталіся на падэшвах уцекачоў.

***2002, 2008***

## РАЙСКІЯ ЯБЛЫЧКІ

*Рэпарцёрскае апавяданне*

Штармавое папярэджанне. У рачным горадзе, які злучаны пупавінай з морам, ад якога адцінае мяжа. Шторм на рацэ? Хацелася б убачыць. Не, гэта так толькі гаворыцца. Доўгі нудотны дождж. Шэры гранітны бюст паэткі пачарнеў ад вады. Рачулка побач ператварылася ў горную. У каламутную імклівую плыню. Каб чым хутчэй утапіцца ў набрынялай свінцовай рацэ, якая плыве ў накірунку вялікай вады.

А сёння ўвогуле снег. Замест бабінага лета. Зноўку я не паспеў пафарбаваць вокны, усё чакаў зручнага моманту, нават фарбу падрыхтаваў гэтым разам. Але: або спякота, або дождж і халадэча. Халодна зрабілася раптам. Крыху ліхаманкавы стан. Ад рэзкай змены надвор'я. Журавінавы лікворчык вельмі дарэчы. Але таксама таблеткі. Каб не захварэць па-сапраўднаму.

Райскія яблычкі за вокнамі. Нечакана аснежаныя, быццам здзіўленыя. Упершыню напаткала зіма. Часовая, восеньская, але снежная як мае быць. Яшчэ ўчора-заўчора ты ішоў праз стары парк, засыпаны жоўтай лістотай. Трымаючы над галавою шырокі парасон. Растаптаныя каштаны пад нагамі выглядалі жаласна. Сваёй марнасцю выклікаючы неакрэсленую шкадобу. Як слівы, якія заўжды непазбежна пачыналі гнісці пад дрэвам у суседнім двары, казытліва пахнучы браджэннем. Дарэмныя сокі.

Яблычкі райскія пад самымі вокнамі Рамана з Вандай. Вокнамі безжыццёвымі, абыякавымі. Сляпыя вокны. Свінцовы бляск шыбаў. Шчыльна зачыненыя форткі. Ніколі шыбы не робяцца ўвечары або ранкам цёплымі жоўтымі простакутнікамі. Ніхто не п'е кавы ці гарбаты, не гатуе вячэру. Застаецца спадзявацца, што гэта толькі часова. Хаця — што будзе лепей для іх — невядома. Дакладней, вядома толькі ім самім, але яны далёка. І вядома стане яшчэ не сёння. Яны самі яшчэ не ўпэўнены. Стрэс пасля пералёту. Скрозь некалькі часовых пасаў запар. Наперад часу. Туды, дзе няўлоўны маньяк-снайпер расстрэльвае на вуліцах мінакоў. Туды, дзе страх. Адтуль, дзе зніклі некалькі вядомых людзей. Дзе нават у паветры адчуваецца, лунае безнадзейнасць.

Пад вокнамі непатрэбныя нікому чырвоныя райскія яблычкі. Крамяныя, прыгожанькія, але дробныя-дробныя. Болей нагадваюць

нават чарэшні, а зусім не яблыкі. Дрэва расце ля ганку старой камяніцы, дзе мастацкая школка. Яшчэ нядаўна дзяўчаты-падлеткі спрабавалі нарваць яблычкаў, якімі сёння абсыпаны дол. Ты першы раз, дзівячыся сам сабе, заўважыў, што на дрэве райскія яблычкі, а не проста дзічкі. Увёсну яно прыцягвала буйной квеценню. Але немагчыма было сабе ўявіць тады яго абсыпаным дробнымі чырвонымі пладамі.

Дождж, дождж. Бляклае неба. Няма чаго ўспомніць. Не, усё было больш-менш пакуль, толькі часам здаецца, што балансуеш на мяжы. Абы не было горш, як той казаў. Стары чырвоны “Ікарус”. Трасецца да мяжы. Повен пенсіянерак. Інтэлігентных і звычайных. З табой побач вясковая бабулька. Сціплая і добрая. Хавае ўсю дарогу тандэтныя цыгарэты, дробныя пакуначкі. Прызнаецца, што вязе таксама кілё цукру і паўкіля пернікаў. Грашовыя заробкі. Мінулым разам замежны мытнік адабраў у яе кілё пернікаў. Бо дазваляецца толькі палову.

Перад самым шлагбаўмам выходзіш. Падае дождж. Ты самотны пад парасонам. Як вартавы пад “грыбам”. З будкі выходзіць памежнік: што ты тут робіш? Клеіш на твар падабенства ўсмешкі. Тлумачыш, размаўляеш лагодна, вымаеш з кішэні пашпарт. Ніякіх чэргаў, патрэбных табе, тут няма. Няма ўвогуле машын. А з другога боку паглядзець немагчыма. Табе гэта было вядома наперад, але ты павінен зрабіць рэпартаж з мяжы. Мусіш, хаця выразна ўсведамляеш хісткасць уласнага становішча. “Уезд і ўваход у памежную зону забаронены”. Парушэнне памежнага рэжыму — і гэтак далей.

Гэта не іншая мяжа, дзе кіламетровыя чэргі, сотні людзей, цэладзённае жыццё. Дзе нікому ты не патрэбны. Калона жыве жыццём рухомай вёскі. Адбываецца рознаякі гандаль, робіцца гешэфт. Людзі спяць, ядуць і наведваюць прыбіральню — як звычайна. Тут мёртва. Тут ты — аб’ект пільнай увагі. Спяшаюцца гэта пацвердзіць два маладыя афіцэры, якія накіроўваюцца да цябе з нейтральнай зоны. Межы бываюць розныя…

Мёртвая дарога. Калісьці вельмі ажыўленая. Яе журботнасць падкрэслівае, узмацняе восеньскі краявід, золкае мокрае надвор’е. Безжыццёва выглядае прыдарожны касцёлік без вокнаў, які рамантуюць. Калісьці гэта была дарога жыцця, дарога гурманаў, дарога па каўбасу. На водны курорт. У еўрапейскія кавярні і рэстарацыі. У іншамоўнае асяроддзе. Без пашпартаў і візаў.

Гэта была субота. У нядзелю ты мок пад дажджом ля вясковая аселіцы. І не ты адзін мок. Поплеч стаялі вясковыя дзядзькі, цёткі,

бабулькі. І публіка гарадская. Парасоны былі не ў кожнага. Вяскоўцы, асабліва старыя, увогуле рэдка імі карыстаюцца. Ці грошай не маюць і звычкі, ці лічаць гарадской завядзёнкай. А можа іх папросту не завозяць у сяльпо.

Толькі што зацэментавалі вялікі дубовы крыж. Яго неслі каля дваццаці мужчын. Паставілі ў зямлю метры на два ці болей углыбкі. Закідалі каменнем, залілі растворам, умацавалі гранітную дошку. Спачатку ў ганаровай варце пасталі былыя акоўцы. Затым іх замянілі рыцары. Лунalі сцягі. Над ксяндзом трымалі парасон, як у кіно. Калі асвячэнне крыжа і палявая імша закончыліся, дождж раптам знік, на свінцовым небе намалявалася бляклая сонечная пляма. Потым улады будуць патрабаваць спілаваць яго. (І спілуюць уначы). Але гэта будзе потым…

Каля статуі, — вялізнай амаль непраўдападобна, на гарадскім пляцы стыхійны мітынг. Пад вокнамі ў начальства, яго чакаюць, упарта не разыходзяцца. Чаканне зацягваецца. Выходзіць са світай крыху болей сярэдняй рукі чыноўнік. Нечакана з мегафонам, які трымае як недарэчную прыладу. На твары ўсхваляванасць, абуранасць і падспудны страх. Яму выпала стаць аратарам, весці недазволены мітынг. (Раптам зробяць ахвярным казлом?) Ён так і паведамляе публіцы: гэта — несанкцыянаваны мітынг. Катэгарычна, жорстка, безапеляцыйна. Але ўмыць адразу рукі не атрымліваецца. З яго роляй парламенцёра.

У першыя шэрагі праплішчваюцца жанчынкі. Ты стаіш наперадзе з прышпіленым мікрафончыкам, з дыктафонам у кішэні. Папросту насупраць мегафона, які перадаецца з рук у рукі. З чынавенскіх у чынавенскія. Яны тлумачаць, спрабуюць давесці нейкія інструкцыі, пастановы, загады. Ніякавеючы перад абураным натоўпам. Адчуваючы сябе ў чужой дзеі, у не сваёй ролі, выцягнутымі з кабінетаў на вольнае паветра, як рыба з вады. Ім яшчэ адпавядала б гаварыць агульнаслоўныя святочныя прамовы да працоўных калектываў на афіцыйных мерапрыемствах. “Ды пачакайце! Не ўсе адразу! — зрываюцца яны. — Дайце дагаварыць да канца…”

Ты пачынаеш усведамляць, што знаходзішся ўжо менавіта ў натоўпе, а не на мітынгу. Кабеты, кожная са сваім енкам міжволі старалася прабіцца наперад, бліжэй да начальства, каб выгукнуць у вочы, у твар. І ты з першых шэрагаў апынуўся раптам ўсярэдзіне, не рухаючыся, стоячы на месцы. Усчаўся галас, не раўнуючы як на кірмашы. Адначасова гаварылі, крычалі, абураліся мабыць дзясяткі ча-

лавек. Адная жанчынка ажно ўзвісквала, гучна вылучаючыся, прыцягваючы ўвагу большасці з астатніх. “Я так разумею! —абурана лямантавала яна. — Што мы — залатая курыца. Вой, што я кажу, — курыца, якая нясе залатыя яйкі. І яе хочуць зарэзаць!” “Правільна!” — згадзіліся навокал і падтрымалі воплескамі. “Я тры пенсіянеры забяспечваю. У мяне яшчэ свая сям’я ёсць. Колькі можна падвышаць падаткі!!!”

Мужчына ў цывільным непарушна рабіў аператыўную відэаздымку. Фільмуючы цябе, мітынговак, асабліва якія не маўчалі. А таксама завадатара, які прывёў іх на пляц, выклікаў на размову начальства. Мажны, хутчэй нават гладкі, даволі высокі і з выгляду больш-менш лагодны, вонкава дабрадушны. З крыху пракудніцкімі вачыма. Ніякай абуранасці і злосці, ніякага адчаю. Мітынг пачынаў нагадваць шторм у шклянцы з вадою. Ажно начальства не вытрымала кірмашовай атмасферы і, тэатральна-абражанае, апусціўшы мегафон, пакінула пляц са статуяй і непаслухмяным незгаворлівым натоўпам.

Людзі ў плямістых мундзірах павялі завадатара ў сваю “мянтоўку”. Гэта недалёка. На гутарку. Хоць ясна, што — пратакол складаць. Якія з ім могуць быць гутаркі?! Увесь натоўп рушыў следам, ператварыўшы стыхійны мітынг у шэсце, амаль у дэманстрацыю. Накшталт: уладу — саветам без камуністаў, фабрыкі — рабочым і г.д. Асучаснены варыянт: прэч касавыя апараты, сертыфікацыю, штрафы і падвышэнне падаткаў!

Завадатара завялі ў камяніцу ў стылі мадэрн з лічбай “1912” на фасадзе. З разбяных высокіх старасвецкіх дзвярэй адразу выбеглі ў зухавых берэтах амонаўцы. Публіка запоўніла прастрань паміж пастарункам і управай “кэй-джы-бі”, якія стаялі насупраць — праз вулічку. Перад міліцыяй стаялі машыны, таму публіка згуртавалася пад вокнамі абрэвіятурнай установы, што выглядала надзвычай кашчунна. “Кэй-джы-бі”, крыху меней, але традыцыйна баяліся як агню вось ужо гадоў шэсцьдзесят мінімум. Прынамсі ў гэтым горадзе. Сітуацыя чымсьці няўлоўна нагадвала пляц Бастыліі, перад яе штурмам.

Час зацягнуўся. Ажно нарэшце завадатар з нетраў пастарунка паведаміў па мабільным тэлефоне (музычны званок чула ўся вуліца), што яго паабяцалі неўзабаве выпусціць. Натхнёная публіка знянацку пачала скандзіраваць прозвішча завадатара. Нават шыбы затрымцелі. Сустрэлі яго радасна-стыхійным пераможным галёканнем. Два грузавікі спецвойскаў, якія напагатове грэліся ў пастарунку, атрымалі адбой і каманду ў сталоўку.

Назаўтра на пляцы каля статуі начальства задавальняла гурманскія патрэбы жыхароў. Пляц кірмашаваў. Страйкуюць рынкі? Няхай людзі купяць ежы на мітынговым месцы. Лепей есці, закусваць, адпачываць, чымсьці бунтаваць. Учорашні мітынговы дзень надарыўся сцюдзёны, вятрысты, шэры. Цяпер з апошняе восеньскае сілы грэла, цешыла сонейка, нібы ўлады разагналі хмары. Часовыя вулічныя шынкі былі зроблены з фальклорнымі падворкамі — з вясковымі платамі і збанамі зверху, з вялізнымі гарбузамі, кашамі з бульбай і буракамі. Са сланечнікамі толькі з гарода. З лавамі, на якіх уладкаваны натуральных памераў лялькі вяскоўцаў. З кавунамі замест галоваў. Гарманісты гралі прыпеўкі і кадрылі. Народ піў гарэлку ды піва, закусваў піражкамі і кулябякамі. Шынкі і вяндліны, смажаніна смачна кідаліся у вочы. Па кірмашы хадзіў, ацэньваючы — ці добра весяліцца публіка, учорашні начальнік з мегафонам у руках перад мітынгоўшчыкамі. Ты пасміхнуўся сам сабе, ледзьве не сутыкнуўшыся з ім. Яго твар, здаецца, не змяніў напружанасці за дваццаць чатыры гадзіны…

Праз дзень ці два вы сядзелі ў машыне на ростанях, ты і твае візаві — Алекс і Вальдэмар, старыя аматары рок-н-рола. Ззаду стаялі яшчэ некалькі машын. Чакалі амерыканцаў. На вуліцы халадэча, таму грэліся. Слухалі рок-дыназаўраў. Чакалі іншыя, вы хутчэй атрымалі сабе ролю назіральнікаў. Вы слухалі старыя мелодыі, час-часам абмяркоўваючы выканаўцаў. Сціслыя меркаванні на іхні конт, успаміны, звязаныя з маладосцю, калі слухаць такую музыку было амаль злачынствам лёгкай ступені цяжкасці.

Вялікі магутны аўтамабіль — сама моц, хуткасць — імкліва наблізіўся і рэзка спыніўся. Вонкі выбраліся замежнікі ў акулярах. Дэлегацыя з бацюшкам на чале, з абразом, з пірагом і букетамі рушыла да іх. Вы з цікаўнасцю назіралі. Бацюшка гаварыў прамову. Госці частаваліся, затым з іх счышчалі цукровую пудру. Вецер! “Замест хлеба з соллю яны пірог салодкі паднеслі”, — даволі скептычна пракаментаваў Алекс. “Увогуле гэта ўсё занадта. Навошта каравай, навошта кветкі? — азваўся Вальдэмар. — Дый абраз навошта з ручніком?”

Бацюшка падышоў да вас і растлумачыў свой план. Амерыканцы паедуць наперадзе, іх, як дыпламатаў, павінны прапусціць у мястэчка, да падмуркаў бацюшкавай царквы, якую перашкодзілі будаваць. А за імі прарвемся ўсе мы, — падсумаваў ён. Алекс, апусціўшы шыбу, выслухаў яго і асцюдзіў: нават калі нас прапусцяць, што вельмі сумнеўна, потым усіх паасобку конча аштрафуюць. А падтрымліваць

рэжым штрафамі супярэчыць нашаму жаданню. Дый амерыканцаў могуць не прапусціць, — і дадаў. — Яны ўсё могуць.

Вы счакалі, каб не апынуцца сярод удзельнікаў — у калоне. Каб заставацца назіральнікамі. Дарога ляжала ўздоўж мястэчка. Усе ўезды вартавалі міліцыя і вайскоўцы. Любую калюжную вулічку. Вы не хавалі іранічнага захаплення… Бацюшка, чарнеючы расай, жэстыкуляваў, штосьць тлумачачы ахове. Калона рассыпалася. Машына дыпламатаў стаяла каля будкі дарожнага паста. Уезд на цэнтральную сядзібу калгаса вартавалі быццам браму сакрэтнага аб'екта.

Важданіна цягнулася вельмі доўга. Вы назіралі з адлегласці. Амерыканец нервова хадзіў вакол і размаўляў па спадарожнікавым тэлефоне. Каля вас спынілася машына, поўная мужчын. Яшчэ дзве стаялі абапал уезда ў мястэчка. Пазней выявілася, што гэта адна каманда. Машына, якая вартавала вас, рушыла за амерыканцамі. Астатнія дзве адначасова пакінулі варту і паехалі ў бок райцэнтра. Алекс зірнуў на гадзіннік: васемнаццаць, канец працоўнага часу.

Так-так, амерыканцаў прапусцілі, калі скончыўся рабочы дзень. Яны хацелі каб усё па-людску: і з вернікамі сустрэцца, якіх уціскалі, і з начальствам мясцовым паразмаўляць. А ў начальства ўжо рабочы дзень закончыўся і яно не абавязана. Можна было падумаць, што тут надзвычай стаміліся ад замежных дэлегацый і дыпламатычных візітаў. Амерыканцы, аднак, усё не вярталіся. “Можа іх арыштавалі? Не можа быць!.. Хаця ў нас усё можа здарыцца… І з замежнікамі таксама, і з дыпламатамі. Вунь павыганялі з дыпламатычнага пасёлку, каналізацыю пракладаць будзем новую, знайшлі прычыну…”

Паўз мястэчка чарнела аўтастрада. Вы чакалі на раздарожжы. На стаянцы побач прадавалі не гарачыя сасіскі і каву, а дзіцячыя цацкі — вялікія надзіманыя і плюшавыя. Пад няўтульным шэрым мокрым восеньскім небам такі гандаль выглядаў яшчэ больш марным і бязглуздым. Ты ні разу не заўважыў, каб нехта спыніўся і зацікавіўся дзіцячымі звяркамі. Цацачная крамка выглядала быццам сумны маскарад.

Пачало шарэць. Гандлярка згарнула сваю крамку, пацягнула вазок з цацкамі ў бок мястэчка. Наперадзе йшла дзяўчынка з сабачкам, які вымыкаўся ў яе з рук, саскочыў на асфальтоўку, дзяўчынка пабегла, каб злавіць яго. Вазок з плюшавымі звяркамі нагадваў балаганчык перасоўнага цырка. Знянацку адная цацка адарвалася і ўпала ў гразь. Здаецца, малпа. Гандлярка панура цягнулася, не заўважыўшы страты. Алекс адчыніў дзверцы і, секундна памарудзіўшы, крыкнуў: “Бабуля, звера згубілі!” Яму давялося паўтарыць. Яна пачула, спынілася і

падабрала малпу. Нейк маркотна. Вы паспелі заўважыць, што жанчына зусім не старая, адно па-старэчы захутаная ў хусціну. Алекс зніякавеў.

Амерыканцы не вярталіся. Гэта ўсё болей рабілася дзіўным. Няўжо іх усё ж арыштавалі?.. Успомнілася, як год таму, такім жа восеньскім часам у мястэчку асвячалі падмуркі будучай царквы. Эмігранцкі святар, які з памылкамі чытаў тэкст і гаварыў з моцным акцэнтам. Дыпламат, які чытаў паперу на замежнай мове, незразумелай нікому з цётак і бабулек. Але спачатку ён падрыхтаваў уступ на беларускай, старанна вывучыў націскі.

Зусім сцямнела, зрабілася папросту чорна. Думалася пра тое, што ўладам не давала спакою царква, на якую ў іх ніхто не прасіў грошай. Пра тое, колькі высілкаў яны змарнавалі, каб перашкодзіць яе будаваць, каб, нарэшце, разбурыць храм. Па-варварску. А тут, на ходкім раздарожжы, дзе павінна стаяць аўтазапраўка, дзе падарожны шынок павінен заваблівац гарачай кавай і прынамсі хот-догамі, дзе усё павінна асвятляцца ліхтарамі і міжволі прымушаць аўтападарожных спыніцца, тут было цёмна, няўтульна і мёртва.

І вельмі маркотна. Вы сядзелі без святла, моўчкі, нават музыку ўжо не хацелася слухаць. І, галоўнае, не ведалі што рабіць далей. Уначы штосьці магутнае з моцным святлом раптоўна і хутка праляцела міма. Як балід, як метэор з альбома (машынальна падумалася табе) “Fireball” Deep Purple. У вас амаль не было сумневу, што гэта амерыканцы. Яны не спыніліся, на што спадзяваліся вы…

Вы вярталіся бязлюднай дарогай. Прытармазілі ў цемры, калі трапілі ў зону дзеяння мабільнай сувязі, каб перадаць паведамленне. Што дыпламатаў не пусцілі да вернікаў, не падпусцілі да царквы. Затрымалі і склалі пратакол, пра што вам удалося даведацца. З рухавіком змагаліся рок-дыназаўры. Вы слухалі старыя хіты. Размовы засталіся ззаду. “Вы збіраецеся ў сталіцу на Nazareth?” “На жаль, не”. “А я днямі ганарар атрымаў — на білет якраз. І за дарогу яшчэ трэба столькі ж. Яны ўжо другі раз прыязджаюць, нечувана. Мне спадабалася: Дан Макафэрці сказаў п’е толькі мінералку”. “Яны пасталелі, яны ўсе прайшлі праз наркотыкі. Хтосьці загінуў, хтосьці ацалеў. Усяго паспрабавалі”. “Ён захаваў голас. Такі высокі і рэзкі. Астатнія асіплі”.

Бацюшка аказаўся рамантыкам: у краіне яжовых рукавіц трэба любіць ярмо, не свабоду, не самастойнасць выяўляць, пакору. Яму хацелася не залежаць ад іерархаў, якія служаць уладзе, звяртацца да вернікаў на роднай мове. Нішто не прамяніста: кволы іерарх, які ўратаваў беларускае слова ў сваёй каплічцы ў далёкіх Штатах, амаль

пазбыўся паствы, бацюшкава царква была шанцам вярнуцца на дахаты духоўна, каб прымірана адчуваць у руцэ крыж перад абліччам блізкай смерці. Была…

Першы снег, як першая закаханасць, нетрывалы. Ён распускаецца на непрамерзлай яшчэ зямлі, на траве, на пакуль даволі цёплым асфальце, нібы духмяная пена ў ваннай. А потым доўга і нудотна, з перапынкамі, падае маркотны і ёдкі восеньскі дождж. Райскія яблычкі, быццам здзіўлены абыякавасцю да сябе, нават птушак яны пакуль не цікавяць. З цягам начных прымаразкаў паступова абсыпаецца лісце. Яблычкі галеюць чырвоным россыпам. Як аздобленыя гірляндамі на навагодні час вулічныя дрэвы. Потым яблыньку спляжаць…

Бацькоўскі садок каля рэчкі, якая праз некалькі кіламетраў трапляе ў Нёман. Лета атрымалася спякотнае. Для вінаграднічка бацькавага найспрыяльнае надвор'е. Але потым неабходна ўпільнаваць, каб вераснёўскія прымаразкі не знішчылі ўраджай ці, прынамсі, каб не папсавалі. І вы з бацькам па тэлефоне пачалі ўмаўляцца. Каб разам паехаць і пазрываць гронкі. І табе, як звычайна, кожнага разу будзе штосьці перашкаджаць. У выхадныя таксама трэба працаваць, інакш можна апынуцца ў апошніх шэрагах. У цябе не атрымалася, і бацька паехаў з суседам. І той яму дапамог абсячы вінаградную лазу. Бязлітасна, як ты потым змог перакаанацца. Чым яна яму перашкаджала? Абвіла сцяну, сягнула да вільчыка? Гэта ж вінаград! У цябе рука не ўзнялася б.

Сумны настрой спараджаюць восеньскія садочкі. Пусты дом з мансардай. З астылым агменем. З пыльным сеннікам. З плеценымі матамі на масніцах. Праз плот прапануе жоўтыя вераснёўскія плады лімоннік. Абцяты вінаград з апошнімі гроначкамі сярод рэдкай лістоты. Сіне-чорныя ягадзіны ў пажоўклай траве. Пад абцяжаранымі ўраджаем дрэвамі яблычныя паляны. Вы з бацькам выбіраеце ў траве самыя вялікія і найлепей захаваныя яблыкі. Немагчыма ўстрымацца, каб не ўзяць прыгожы жаўтаваты — нібы парафінавы з вітрыны — і не адкусіць, не зважаючы, што адваротны бок ужо згнілы. Адзін такі яблык выгрызены са споду. Ты бачыш, што ён ляжаў на кратовай норцы, і кладзеш на ранейшае месца.

Старая сумная позневосеньская казка. Пра дзяўчынку Цалёўку, сляпога крата, з якім яе пашлюбілі, цёмны падземны лабірынт. Пра надзею, ластаўку, вырай і далёкую вабную краіну, дзе заўжды лета. Стаіш наверсе перад расчыненым акном. Падаюць яблыкі. Чуеш, як

скрозь лістоту абарваўшыся ляціць яблык. Глухі стук. Наступны не толькі чуеш, бачыш, як падае на зямлю. Трэба з’яжджаць.

Райскія яблычкі не абсыпаюцца, трымаюцца моцна, учэпіста, самааддана. Як усе вы, большасць, але пачынаюць гнісці. У рэшце рэшт не сарванае і не знесенае ветрам лісце ападае, творачы жоўта-рудаватую палянку пад дрэвам. Каляровая пляма на шэрым абліччы восені. А яблычкі застаюцца на дрэве. Што такое, па сутнасці, змяніць краіну, горад? Свой пакой, вуліца, сцень дамоў. Змяніць няўтульную сумную познюю восень на вечнае гарачае лета. Ананасы, гранаты на вулічных дрэвах, цытрусавыя, вялізныя крамяныя яблыкі з бананавым прысмакам.

***2002***

## ФАБРЫКА СФІНКСАЎ

*Апавяданне з бюстамі багоў*

“Яны выглядаюць як сфінксы, якія смяюцца”,

*Іва Андрыч*

Часам я адчуваю ўласнае падабенства са сфінксам. Чалавек як сфінкс. Здранцвець і маўчаць. Адно працягваць думаць, часам лянотна, ледзьве. Летуценіць. Мроіць. Апынуцца ў нірване. Мне добра, мне нічога болей не трэба, я нічога не хачу цяпер. Хаця чалавек усё ж хутчэй нагадвае тады мумію. Як гэта не крыўдна і не вусцішна, магчыма. Бо калі чалавек у спакоі, адпачывае, ён часцей ляжыць. Ляжыць на спіне, ці на баку. Але болей на спіне, склаўшы рукі, як нябожчык або выцягнуўшы іх, як менавіта мумія. Большыя за людзей сфінксы, канечне, каты. А некаторыя з нас адчуваюць сябе катамі. Зайздросцяць іхняй паставе, мудраму спакойнаму абліччу.

Наш Гартэн своеасаблівы. Пра такія гарады звычайна гавораць, што яны — месца сутыкнення разнастайных уплываў. Культурны саган. Магчыма. Але тады звычайна ўсё ў рэшце рэшт апаноўвае нейкая адна татальная, найбольш агрэсіўная, наступальная, імперская. Нават не культура, лад жыцця. У лепшым разе жуйка з кока-колай, у горшым — серп з молатам, ятаганы, маладзік. Як гуны, як манголы ці іншыя, яна апаноўвае з поўдня на поўнач або наадварот, ці з захаду на ўсход. Але часцей, значна часцей — з усходу. Варвары заўжды апаноўвалі нашу Еўропу менавіта адтуль. Усе навалы, найбольш бязлітасныя і гвалтоўныя. Найболей незлічоныя, тысячы тысячаў, цемры цемраў. Безліч. Усходняя небяспека. Берберы, сельджукі, мангола-татары. З раскосымі і вузкімі, само сабой, вачыма.

— Ты хочаш штосьці сказаць?

— У якасці рэплікі.

— Ну, давай, чаму не? Кепікі строіць будзеш?

— Я хачу толькі крыху ўтаймаваць цябе, тваю фантазію.

— Навошта? Ты ж ведаеш, я чалавек без фантазіі. Гэта тое, чаго мне заўжды бракавала.

— Не нагаворвай. Зрэшты, можаш працягваць. Я пачакаю з заўвагамі.

Навокал разбураліся каменныя і цагляныя муры, руйнаваліся Бастыліі, высозныя платы і калючыя агароджы. Засыпаліся воўчыя ямы, процітанкавыя равы, ракетныя шахты. На запасных аэрадромах сеялі збажжыну. І толькі мы старанна працягвалі чысціць зброю, абнаўлялі парахавыя сховы. Падфарбоўвалі чырвоныя зоркі на самалётах і танках. Прышывалі пагоны з сярпамі і малаткамі, жаўнерскія спражкі даводзілі да бляску.

— Але ж ты з платамі. А як жа ў Ізраіле?

— Што ў Ізраіле?

— Ты сам ведаеш што.

— Хіба Ізраіль варты прыклад?

— Сам факт.

— Сам факт я прызнаю. Больш за тое. Я адрозніваю ўмовы, месца. Гэта трэба тлумачыць.

— Вось і патлумач. Не спяшайся. Выпі кавы, потым яшчэ зробім.

— Ты ведаеш, я пражыў у прыгарадзе некалькі гадоў — таго горада, які падзяляў бетонны мур. Так, яго зруйнавалі цяпер. І я супраць новых муроў. Але, як бы гэта сказаць: у мяне засталася настальгія па тым часе і тым горадзе. Яна ніколі не пройдзе. Яна назаўжды.

— Настальгія па тым горадзе, які тады быў падзелены мурам. І ты любіў яго такім...

— Ён быў тады такім, а не іншым. А ці любіў я яго? Гэта сантымент. І гэтага дастаткова. Як лёды, напалову шакаладныя, напалову сметанковыя. Не чорна-белы горад. А шакаладна-сметанковы. Я памятаю тыя лёды з Александэр-пляц.

— Цябе сёння цешыць, што горад, у якім ты жывеш, таксама падзелены быў калісьці. Ён і сёння падзелены ракой. Але яна падзяляла яго не проста на Ленінскі і Няленінскі раёны, а як часткі розных дзяржаў.

— Розныя зоны акупацыі.

— Хай. Як табе больш падабаецца.

— Горад, падзелены ракой надвая. Файна. Ракой часу, калі перакладаць з антычнай мовы. Так, гэта мае нейкую таямнічую моц, энергію. Натхненне... Так-так, горад быў падзелены на сектары паміж чужымі войскамі. Як Горад Мядзведзя. Я сам пра гэта нейк не падумаў. Гэта цікава. Гэта наканаванне жыць ў такіх месцах. І вось Ерусалім. “План абароны” Ерусаліма.

— У цябе стаўленне неадназначнае?

— Не ведаю, як сказаць.

— Не падабаецца, што мур пабудуюць праз увесь Ерусалім, але не да канца не падабаецца?

— Гэта вельмі складана. Гэта сапраўды саган. Палесцінцы запалохалі, што абвесцяць горад сваёй сталіцай. Калі пабудуюць мур, Ерусалім застанецца ў межах адной краіны.

— Берлін таксама заставаўся ўвесь час абкружаны адной краінай. Ён заставаўся ў межах адной краіны таксама. Хаця сам ёй не належаў цалкам.

— Менавіта. Ідэя мура, у ёй штосьці ёсьць, штосьці застаецца са старажытных часоў. Той жа сэнс, свая філасофія. Як і ў вежы. Абарончае прызначэнне. Гэтага нельга адмаўляць, гэта па-ранейшаму прываблівае.

— Яны таксама пабудавалі Берлінскі мур, каб абараніцца.

— Але яшчэ болей, каб адгарадзіцца. Што і ў нас сёння.

— Адгарадзілі немцаў ад немцаў. Нонсэнс, канечне. А палесцінцаў ад яўрэяў — гэта ўжо, мабыць, нешта іншае? У сагане зробяць сценку, каб не варылася ўсё разам. Але горад застанецца ізраільскім. Як Новы Ёрк разам з усімі кітайскімі і яўрэйскімі кварталамі застаецца амерыканскім.

— Я згодны, гэта складанае пытанне. Зараз яны яшчэ пабудуюць плот паміж сабой і палесцінцамі. 135 кіламетраў, цяжка нават уявіць. Але ж гэта будзе плот на мяжы. Як на штатаўска-мексіканскай. Часам страшнейшы плот ці мур — уяўны. Не хочацца, каб ён існаваў паміж намі і той часткай, у межах якой хочацца жыць самому. У гэтым сутнасць пытання.

— Добра, давай далей пра сфінксаў. Чытай. А я пап’ю кавы.

— Пра сфінксаў? Што табе сказаць? Я люблю іх. І гэтым усё сказана.

— Не, ты прачытай. Ты ж нешта напісаў там.

— Так-так, прабач. Зараз. Ну, вось. Не, лепей я перакажу табе сваімі словамі. Блізка да тэксту, гэта ж я сам пісаў. “Сфінкс я, сфінкс кот, сфінкс сабака. Толькі ў мяне няма сабакі. Але кот ёсць. Ён вельмі нагадвае сфінкса. Мудрага, апанаванага думаннем. Нетаропкім і грунтоўным, як мудрасць стагоддзяў, старых манускрыптаў, папірусаў і берасцяных грамат”.

— Брава. З тваім катом я таксама знаёмая.

— Ведаю. Ён такі ж твой, як і мой. Але ж я пісаў для іншай публікі, для чытачоў. Далей чытаць?

— Чытай. Сваімі словамі неабавязкова.

— “Фабрыка па вырабу сфінксаў. Гучыць не вельмі зграбна. Фабрыка бюстаў... Яшчэ горш! Фабрыка мастацкіх вырабаў. Афіцыйная назва. Самавіта, але цьмяна. Хацелася б большай пэўнасці, нейкай канкрэтыкі. Фабрыка серыйных бюстаў ці, прынамсі, помнікаў. Або, хаця б, тыражаваных твораў. Скульптурных альбо манументальных”.

— Пакуль што сам твой тэкст гучыць цьмяна. Людзі пра бюсты пачалі забывацца ўжо. Успамінаюць хутчэй пра “Мілавіцу” або конкурсы прыгажосці.

— Альбо пра Памэлу Андэрсэн. Згодны. Але ж гэта толькі прэлюдыя. “Фабрыка манументальнага мастацтва. Раней рабіла бюсты і статуі — серыйныя, сапраўдны шырспажыў... Начальства раптам зацікавілася каранямі. Што нашыя продкі, ці продкі продкаў прыбылі сюды з антычных краін, прывезлі з сабой культуру, рэлігійныя культы, металёвыя прылады, вінаградны шчэп і г.д. А таксама сфінксаў. Пачалі шукаць у археалагічных раскопах. Знайшлі шахматныя фігуркі з падабенствам. У каменных ёлупах заманулася вышукваць агульныя рысы. Жаночыя аздобы, — каб сфінксы, Неферціці, пірамідкі. А як пахаванні кінуліся вывучаць! Мумій каб знайсці, курганы пахавальныя, абавязкова пірамідападобныя”.

— Мы — нашчадкі аматараў мумій?

— Чаму б і не? Але слухай далей твор: “Фабрыка сфінксаў” выпускала правадыроў і народных герояў, карыфеяў сацрэалізму ў камуністычныя, само сабой, часы. Ляпілі перадавых даярак, тэкстыльшчыц, стаханаўцаў. Акадэмікаў, лётчыкаў, стратанаўтаў. Герояў сацыялістычнай працавітасці і сацыялістычнай доблесці. Знатных бавоўнаводаў, кукурузаводаў і жывёлаводаў. А сто тысяч жанчын — на трактар?!

Часам выконваліся асобныя замовы — на мануменеты больш экзатычныя — тытуневоды, шаўкапрадцы. Чабаны, народныя ашугі. Аксакалы. Заваёўнікі Арктыкі і Антарктыкі, абодвух полюсаў. Аленеводы — асабліва калі “увязу цябе я ў тундру” была моднай.

Для ўсяго сацыялістычнага лагера рабілі. Таварышаў Броз Тыта, Энвера Ходжы, Берута, Кім Ір Сэна і асабліва шаноўнага таварыша Мао Цзэдуна — правадыра самага колькаснага ў свеце народа. А іхнія перадавікі-стаханаўцы! Таварыш Ісмаіл Бушаці — найлепшы албанскі

мураль 1952 году! Муравaў дзоты і бункеры. Супраць блізкіх імперыялістаў. А потым і супраць усіх, улучна з блізкімі еўракамуністамі.

Часы ўсяеднасці аднойчы мінулі. Эканамічныя сувязі разарваліся, як згнілая аборка. Рынкі збыту здрадзілі агульным ідэалам і разваліліся. Рабочыя засталіся без працы. Вельмі высокай кваліфікацыі. Таксама скульптары-лаўрэаты. Рэшткі найбольш каштоўнай сыравіны, найперш каляровыя металы — зніклі праз мяжу за грошы. У горадзе сышліся трывалыя шляхі перакідкі каштоўных металаў. Гучныя крымінальныя справы... Нават чыноўнік загінуў не абы-які, пад гарачую руку трапіў”.

— У каралеўскія часы таксама воўчыя ямы здараліся, той жа Тызенгаўз...

— Тызенгаўза зжэрлі, можна сказаць, за кепскі маркетынг. Выраблялі болей, чымсьці прадавалі. Гэта яго загубіла. Сацыялістычнае планаванне — болей, болей, болей — штораз болей! Ворагі найлепшай зачэпкі не здолелі б вымысліць. А якраз фабрыка помнікаў працавала з прыбыткам. Асабліва добра прадаваліся а-ля антычныя статуі. Попыт знайшоўся на блізкім рынку ўсходняй імперыі. Капрызлівы, зменлівы, як заўжды. Пакупніцкія жадункі, новамодныя павевы. Сёння гэтага не ўлічваюць, гоняць шырспажыў на ўсход, як раней. Любіце нас, якія мы ёсць...

— А там народ пераборлівы. Хто мае грошы, абы-што не хоча. А грошы яны маюць. І маюць выбар сёння тым больш.

— З гэтым і Тызенгаўз не разлічыў. Унутраны рынак быў сціплы.

— Канкурэнцыя.

— Так, канкурэнцыя. Статуі прадаваліся пасрэдна. Палякам прасцей было прывезці з Нямеччыны. Або адразу з Італіі.

— А касметыка, кажучы па-сучаснаму, трапляла хоць у Санкт-Пецярбург, хоць у Маскву напрасткі з Парыжа.

— І, скажам так, дэмпінгавыя цэны.

— Што цэны для сапраўднай дамы, галоўнае — якасць.

— А слуцкія паясы тым болей расейцаў не цікавілі. На жаль. Хаця жаль тут ні пры чым.

Тызенгаўз увогуле імкнуўся задаволіць пакупніц, жаночыя прагнасці. Усякія выраблялі модніцкія, нядаўна экзатычныя тканіны. Адамашкі, муслін, аксаміт, кітайку. Затым — гарсэты, муфты, каптуры. Аздобы. Касметыку. Бялілы-чырванілы. Пудру, парфуму, алейныя пахнідлы. Масці. Веееры, пудраніцы, куфэркі.

— Дамы малявалі на руках блакітныя жылкі, прыклейвалі на твар мушкі.

— А ягамосці, з прыкрасці ад мужчынскіх парыкоў і фальбонак, панчохаў і стужак, карункавых манжэтаў, гузікаў з адамантамі, пастарашляхецку абкручваліся слуцкім поясам і прывешвалі шаблю.

А Тызенгаўз. Гэта цяжка ўявіць сабе, як на той час разгарнуўся ён. У нашым увогуле каралеўскім, але не моцна вялікім горадзе. Больш-менш значным ён і зрабіўся пры ім. Вялікая будоўля. Паўсюдна мураваныя камяніцы ставяць, палацы, мануфактуры. Млыны. Медыцынская акадэмія, музычная, тэатр. Кадэцкі корпус. Аўстэрыі. Людскі мурашнік. Карэты. Маленькая Галандыя.

— І скульптурная мануфактура. Антычныя ўзоры. Апалоны, Афрадыты. Чалавечныя, хаця ідэалізаваныя. І побач загадкавыя копіі егіпецкіх статуй. Сфінксы, Неферціці, Тутанхамон.

— Знаеш, па-мойму формы гэтыя захаваліся.

— У склепах краязнаўчага музея?

— Ну, не зусім захаваліся. Там недзе ў іх, у Піцеры. Яны ж усё вывозілі. Што магло ў гаспадарцы прыдасца. Некаторыя захаваліся, часткова. Ляжалі без ужытку. Запас бяды не чыніць.

— І пераможцаў не судзяць.

— І на гэтай, сучаснай фабрыцы іх выкарысталі паўторна, некаторыя. Інакш, адкуль гэткае падабенства, супадзенне? Тыя ж самыя сфінксы.

— Сфінксы заўжды аднолькавыя.

— Як сказаць. Ты думаеш, тыя адміралцейскія сапраўды з Егіпта вывезлі?

— Думаю, што так.

— А я не. Давязі паспрабуй. А галоўнае, яны не такія.

— Твая версія.

— Па Нёмне — да мора, а далей зусім недалёка. І танна, і добра.

— Cheap and nasty, як у песеньцы. Але ж яны каменныя. Адкуль такія камлыгі?

— Можна знайсці, прывезці. Але самае цікавае, што сёння лічыцца, што яны не каменныя, яны з бетону адліты, вельмі моцнага.

— Ой-ля-ля.

— А можна падумаць ты ніколі не чула, што ў старавечныя часы праз Бурштыннае мора сюды трапілі людзі адтуль. Прынеслі сваё ўмельства, сакрэты свайго майстэрства. І што на месцы Каложы калісьці стаяла піраміда.

— І дзе ж яны дзеліся, твае егіпцяне?

— Сышлі ў пушчы і зніклі.

— А сакрэты вырабу сфінксаў захаваліся? Можа, на папірусах, ці бяростах?

— Нейкім чынам. У рэшце рэшт у тыя мясціны траплялі нашы. Пілігрымы, падарожнікі. Радзівілы. Але ж мы адхіліся. Мода, канечне, вярнулася. Такая ж самая, як на грэцкія і рымскія статуі. На мастацтва ўвогуле, на міфалогію. Рымэйкі ў літаратуры, у тэатры. У тэатры Тызенгаўза таксама такія рэчы ставілі. Другі, сучасны тады ўзор сфінксаў — саксонскі.

— Гэта такія, як на замкавай браме?

— Такіх якраз на мануфактуры зрабілі найболей.

— А захаваліся толькі два. Ахоўвалі ўезд у каралеўскі палац, а што там потым было? Дакладна невядома? Можа, губернатарскі палац? З канцылярыяй. Потым — шпіталь вайсковы. Штаб. Абкам. Кнігазбор, музей.

— А ў музеі поўныя вітрыны манет. Адно тызенгаўзаўскіх няма. Малавядомая гісторыя. Версія, пабудаваная на ўскосных звестках. Тызенгаўз. Фальшывыя грошы. Падпольны манетны двор. Цьмяная справа. Дакладна вядома, што існавала такая мануфактура. Паўтара года існавала, людзі атрымлівалі заробкі. Спісы вядомыя. Толькі грошай няма. Нідзе ніякіх звестак пра манеты такога паходжання. Версія — друкавалі падробныя грошы. Расейскія прынамсі. Між іншым, у тыя і ранейшыя часы — даволі распаўсюджаная з’ява. Гэта якраз таксама магло ўскладніць становішча Тызенгаўза. Магло яго загубіць. Магло. Грэх не схаваеш у мех. А горад кішма кішэў шпіёнамі. Прычым, відавочна дамінавалі імператрыцыны. Яе амбасадар нябачна кіраваў тут усім.

— Штосьці мне нагадвае гэта пра сённяшняе таргаванне: дзе паставіць грашовы варштат… Дый не толькі. А нядаўняя страляніна?

— На Савецкай?

— На Савецкай. Кіно. Машына з амонаўцам на даху. Хуткая язда. Я сама бачыла. Праўда, крыху здалёк. Джып заехаў на тратуар, збіў жанчыну, чакала на прыпынку. Уцекача выцягнулі — на асфальт — кайданкі. Збываў даляры соценныя — афсетны друк.

— Традыцыі не знікаюць. Фальшываманецтва жывучая рэч. І заўваж, усё гэта перад палацам адбылося, перарobленым у гатэль. Які дачыненне да нашай тэмы мае. Гатэлік “Еўропа” за буржуазным урадам. Нязменная “Дружба” — у камуністычныя часы, у простамоўі.

Каб не блытацца. Назву некалькі разоў улады змянялі. Каб адпавядала палітычнай дружбе. “Тыранай” адзін час называўся. Калі ляпілі на фабрыцы албанскага героя ўсіх часоў Скандэрбега. Кіно тады круцілі пра яго. Пальмавая галіна ў Канах. Palme d’or. Неверагодна.

— Дарэчы, некалі амаль усімі албанскімі землямі ўладаў шляхецкі род Бушаці. Стаханавец Бушаці. Здзек лёсу.

— У нас таксама. Ягела. Сапега. Распаўсюджаныя прозвішчы. Рабочы, прыбіральшчыца.

— Бушаці былі галоўным родам, астатняй Албаніяй валодаў нейкі Паша. Цікавая краіна. Першы прэзідэнт, адчуўшы смак, абвесціў сябе каралём! І яшчэ доўга кіраваў. Так спадабалася, што захацеў каралём. Прэзідэнт рэспублікі. Узяў ды падпісаў указ аб прызначэнні сябе каралём. А каралём — значыцца пажыццёва. Каб не акупанты італьянскія… Спрадвечная гісторыя. Першыя дэмакраты не ўтрымаліся. Іх скінулі, разам з кіраўніком ураду. Яго прозвішча Нолі. Ён потым пісьменніцтвам, здаецца, займаўся. Здаецца.

— Таксама нядрэнна. Дарэчы, магчымасць напісаць пра такія метамарфозы.

— Усё, што адбылося далей, таксама не меней абсурдна. Узорная самаізаляцыя. Усё магчыма ў гэтым свеце. Пасярод Еўропы, на паўднёвым беразе.

— Здаецца, мы за палітыку пачынаем.

— Ды якая тут палітыка! Гавораць, немагчыма такое сёння. Інтэрнэт, талеркі сатэлітарныя. Мабільныя тэлефоны… Тады таксама гаварылі.

— Можа й гаварылі. Маглі гаварыць. Не выключана. Але ж сапраўды не было інтэрнэту. І мы транзітная краіна. Вечны рух. Прахадны пакой.

— Няма нічога немагчымага. Як тады было: абразіліся, што ў СССР крытыкуюць Сталіна і скасавалі дыпламатычныя адносіны. А потым на кітайцаў за нешта пакрыўдзіліся. Вось табе поўная ізаляцыя. Усё сваё. Мора, карысныя выкапні. Свой правадыр і настаўнік.

— І ты пра тое ж.

— Якая гэта палітыка? Жыццё… А сталінская статуя, цікава, ці стаіць у Тыране той? Назва-то якая!

— Здаецца, доўга яшчэ стаяла пасля камуністаў. Тамака, у грузінаў і ў нас у Збойску. І мястэчка пад назвай Сталін існуе, райцэнтр. Накшталт Шкленска.

— Гэта дзе?

— У Албаніі. Не Сталінград або Сталінабад, а проста так... Леў, які перад домам прафсаюзаў, леў албанскі насамрэч. Два, абапал. Перад імі хацелі Каліноўскага паставіць.

— Хацелі, ды адхацелі.

— Хацелі, але так, не-сапраўднаму. А львы гэтыя самыя праўдзівыя. Выкапаныя рымскія. Падарунак ці бартэр, хаця раней такога слова не ведалі. Братэрскія гарады і раёны. Вы нам Леніна, мы вам звяругу.

— Ты ведаеш, а я сабе выразна уяўляю, як сфінксаў вязуць па рацэ з Каралеўца. Гэта калі аўтэнтычных. А так, можа нават з поўдня. Спачатку па Дняпры. Верагодней за ўсё, падробных, аднекуль з Бахчысарая.

— Такіх цяжкіх, гаргары?

— Не, навошта? Пакаёвыя сфінксы, настольныя. І для караля — самых вялікіх.

— Думаеш, гэта іх закапалі, і яны сёння ў зямлі, дзесь у Старым горадзе?

— Ва ўсякім разе, з сабой у высылку, у “паўночную Венецыю” ён іх не забраў.

— Таямніц і сакрэтаў хапае, канечне. Хоць бы з пірамідай, якая ў падворку каралеўскага палаца была. Ёсць жа зьвесткі. І што калона з крылатым ільвом або са сфінксам стаяла на ратушным пляцы. А, між іншым, пра шлях з Каралеўца. Ці памятаеш лета 92-га? Гарачыня якая здарылася, як Нёман змялеў? Ніколі больш такога не бачыў. Заходзіў і сядаў сярод ракі. З сухімі нагамі. Там каменныя кубы ляжалі хаатычна. Побач з Крэйдавымі гарамі. Я бачыў на баках раўчукі. Дзяўблі ці свідравалі, каб здабыць.

— І табе здаецца, што хутчэй камяні везлі з Каралеўца, а не наадварот?

— Відавочна. На замкі або на касцёлы і цэрквы, на ратушу. На манастыры і кляштары. Варыянты два. Або караблямі са скандынаўскіх каменяломняў. Або аднекуль з Карпатаў, прычым значную частку сухапуццем, што вельмі мала верагодна...

Сёння фабрыка выпускае сфінксаў, жаночыя скульптуры для новых рускіх. Анёлаў, надмагільныя помнікі. Раней выраблялі серыйныя бюсты для райцэнтраў, мястэчак. Скульптуру — у масы! Кабінетныя бюсцікі ФЭДа, які ў кожным кабінеце на Савецкай, на Тэльмана, Карбышава на стале перад вачыма альбо на сейфе.

А бюсты і бюсцішчы ў дамах культуры і клубах — ад гарадскога, чыгуначнага, тэкстыльшчыкаў, хімікаў да калгасных, да чырвоных куткоў на фермах. Раней працы хапала і плацілі своечасова. Дбалі не толькі аб правадырах. Пушкіна рабілі з бакенбардамі. Славутага аўтара “Ваша слова, таварыш Маўзер”. Ніхто не быў пакрыўджаны. А бюст Чапая адзін толькі чаго варты? Перад будынкам судовым? Да якога, праўда, Васіль Іваныч, нават пры намаганнях, не меў ніколі ніякага дачынення. Хіба што ваенна-палявыя суды былі пры кожным палку, расстрэльвалі налева і направа.

Скрынкі з паэтамі, кантэйнеры з касманаўтамі, эшалоны з фізкультурніцамі і правадырамі. Ва ўсе бакі дымныя паравозы расцягалі ідэалагічна-скульптурны скарб з гартэнскай фабрыкі. Якасць была рознай. Залежна, напрыклад, ад цэменту, якога заўжды не хапала. Часам помнікі рассыпаліся ад атмасферных уплываў. Пакаёвыя захоўваліся лепей. Калі толькі не зачэпіць прыбіральшчыца швабрай. Падчас апошняй рашучай адлігі некаторыя галовы зламалі, кінулі на сметнік. Але багата засталося: каменных, гіпсавых, бетонных, нават бронзавых выкапняў з нядаўняй класавай гісторыі.

Два такія стаялі перад дзвярыма Ленкама. Людвіг і Густаў. Дзве аграмадныя галавы. Колькі ў іх было калісьці ўсяго-усялякага, цэлыя капіталы! Маніфесты, 18-я брумеры. Майнэ кляйнэ. Я-я, яволь! Капут!

Колькі галоў, бюстаў з плячыма, помнікаў з рукамі да жывата, з нагамі руйнавалі, закопвалі, кідалі, зрынуўшы з пастаментаў, пад плотам. Як змяняўся курс, партрэт на дошцы Палітбюро, як галоўнае крэсла займала іншая попа, з гемароем поўным або толькі на пачатковай стадыі. А дзве галавы стаялі заўжды. Пры ўсіх рэжымах, пры любых абставінах. Яны былі бяспечныя. Гэта яны, іхнія колішнія ўладальнікі некалі напісалі відушчна, што будучыя людзі, паслядоўнікі, стануць далакопамі. ДАЛАКОПАМІ. Як гэта спадабалася, як натхніла! Надало моцы, энергіі, імпэту! Радасцю раздзімала грудзі. З’явіўся сэнс жыцця, смак. Найвышэйшая мэта. Закапаць.

Што гэтыя дзве галавы? Чым яны былі некалі нафаршыраваныя? Абстрактнымі жаданнямі, марнымі намерамі ўсіх ашчасліўіць. Альтруісты, летуценнікі. Лагодныя тэарэтыкі. Ніхто з іх, здаецца, не марыў асабіста пра захоп улады, дыктатуру далакопаў. Хай кухаркі кіруюць дзяржавай. Яны асабіста — не. Ім падабалася папросту пісаць трактаты, рабіць тоўстыя кнігі. Тамы, фаліянты. Возьмеш у руку — маеш рэч. Інтэлігенцкае жаданне. Яны, мабыць, не ўсведамлялі небяспечнасць заклікаў да жыццястваральнай працы

далакопаў. Ім папросту падабаліся метафары, нечаканыя параўнанні. Літарацкія асалоды.

Яны не імкнуліся да ўлады. Іхнія нашчадкі-землякі, усведамляючы місію, паспрабавалі ажыццявіць. Увасобіць тэарэтычныя працы. Маніфесты, трактаты. Але ў іх было замала рыдлёвак. Потым іхні фатэрлянд перагарадзілі мурам, з аднаго боку якога жылі далакопы, з другога тыя, каго яны прагнулі закапаць.

Дзве каменныя, жудасна барадатыя галавы. З выгляду нібы Санта-Клаўсы. Яны брукавалі добрымі намерамі дарогу ў пекла. Заўтрашняе пекла заўсёды здаецца лепшым ад сённяшняга. Яны любілі добрыя рэстарацыі, якаснае віно, смачны біфштэкс. Адрознасць толькі ў тым, што Людвіг падабаў крывавы, а Густаў добра ўсмажаны. Ці наадварот. Адзін аддаваў перавагу мозэльскаму, другі — рэйнскаму. Галовы гурманаў. А, так, сапраўды, і яшчэ адзін з іх жудасна пакутваў на гемарой.

Іх дазвалялася рабіць максімум да пояса. Як выключэнне. На поўны рост — ніколі. Яны прызнаны асноватворцамі. Але не былі правадырамі. Ім ставілі помнікі, як па сутнасці пісьменнікам, аўтарам аб'ёмных раманаў, збораў твораў. Тыражавалі, як калісьці Біблію.

— А ці ведаеш: на фабрыцы грошы не даюць..

— Затаварыліся сфінксамі?

— Накшталт таго. Але не толькі. На Ўсходзе не плоцяць. Толькі абмен, бартэр. Рабочым статуэткамі выдаюць заробкі. Альбо бюст на двох-трох чалавек.

— Вясёла. Хоць на мяжы яшчэ не адбіраюць, як цыгарэты і спірытус. Або як творы мастацтва. Абразы царкоўныя.

— Значыцца, не лічаць за мастацтва. Ужо. Вязі куды хочаш. Уяўляю блышыны рынак у горадзе, дзе быў мур. Калісьці тамака прадавалі фуражкі, кукарды, кіцелі савецкія, гэдээраўскія — усё, што засталося ад братэрства па зброі. Уяўляю бюсцікі там.

— У тым горадзе калісьці існаваў адзін з самых буйных музеяў старажытнасцяў егіпецкіх. Можа й цяпер ёсць?

— Калісьці немцы на вяршыні піраміды Хеопса адзначалі ўгодкі прускага імператара. Шампанскае ці, можа, шнапс. Сцяг з чорнай птушкай. Фатограф. І — "Дойчланд, Дойчланд — юбэр алес..."

— Так, незвычайна. Як сцяг бел-чырвона-белы на Эверэсце.

— А ўсё ж ён там ёсць. Ці быў, ва ўсякім разе. Яны самі сабе збудавалі Эверэсты сярод пустэльні. Замкі на пяску. І сфінксаў для аховы. "Убачыў я ў пустэльні маладзёна Сфінкса..."

— Што гэта?

— Борхес. Працягваю: “Які толькі што створаны быў. Няма нічога старога пад сонцам”.

— Тады я таксама. Пачакай, зараз вазьму знайду. Дзе гэта стаіць Норвід?

— Вунь там. Але ты лепей не бяры. Як на цябе, будзе запыльны, пачнеш чыхаць. Давай я сам. Што знайсці?

— Не памятаю назву. Таксама пра сфінкса.

— Зараз. Гэта? “Сфінкс заступіў мне дарогу аднойчы/Каля скалы, як ліхвяр ці забойца...” Уайлд, здаецца, таксама нешта такое напісаў.

Сфінксы паўсюль. Масты, лесьвіцы, уваходы ў будынкі — тэатр, дом піянераў... Галовы. Піўзавод — казліныя. Перад царквой арліныя — парныя. Аграуніверсітэт, дом досыць вядомай пісьменніцы, банкі, рэстарацыі, оптыка — Замэнгоф у акулярах. Інстытут навуковы з галавой вядомага свяцілы, які працаваў пры каралеўскім двары. Пажарныя ў шлемах. Цырульня — модныя лысыя. Пошта. Аптэка — Францыск-Георгій, доктар лекарскіх навук і каралеўскі батанік. Заапарк. Чыгуначны вакзал — Заслонаў з гранатай. Паркавая брама: работніца і сялянка. Мянтоўка, кантора. Металічны Фелікс з казлінай бародкай. Саюз звёнзкоўцаў з бюстам пана Тадэвуша. Саюз літаратараў — два тутэйшыя сфінксы — Кастусь ды Янка. Новы аграмадны псіханеўралагічны дыспансер і голаў Скліфасоўскага. Венера і Апалон —скурвен. Турма — Цэрберы. Вайсковыя могілкі — Сувораў на паўкані. На камунальных — тэарэтыкі далакопства. Радыё — голаў Паповіча. Рэдакцыя — Ленін плюс Нахамкес, ён жа Сцяклоў. Аблсельгасхарч — Сталыпін і тав. Бровікаў.

Пракуратура — Мардашоў-вешальнік, кананізаваны царквой. Мясакамбінат — Мінін і Пажарскі, зменшаная копія вядомага манумента. Адзін з іх, як вядома, быў рэзнікам. Перад музеем гармата і Станіслаў Аўгуставіч Панямунскі з гусіным пяром. Дамскі залётнік. Аўтар путрышкаўскага трактата і паэмы “Кацярынамахія”. Гаўптвахта — сфінкс з галавой ці то Аракчэева або Бенкендорфа, ці гэтага, як яго, генерала Далакопчыка. Якога суседзі патрабуюць выдаць, як путчыста і злачынцу.

— Не хочаш кавы? Давай яшчэ зраблю?

— Можна, па кубку.

— Толькі спачатку кату падкладу корму. Базыль, хадзі. Які ты... як сфінкс.

— А памятаеш свята нацменаў? Шэсце?

— Суполку егіпцян? Канечне. Персанажы старажытнай гісторыі, мастацтва, міфалогіі. Людзі-каты. Дзіўныя вялікія маскі-галовы. Муляж муміі.

— А мы стаялі на ганку кнігарні. Выйшлі прадаўшчыцы, усім радасна махалі. Мы ўпершыню трапілі ў задні пакой, зроблены як пячора Алі-бабы, поўны кніжак. Па гісторыі, міфалогіі, антычныя аўтары. Адзін археолаг назваў Егіпет краінай мёртвых і небяспечнай жывёлай.

— Жывёлы каменныя. Яны маўчаць нерухома.

— Мабыць, ён адчуў, што гэтае царства мёртвых заваблівае. Паўсюль пяскі, сярод якіх чорныя студні, піраміды, часта напаўразбураныя, храмы, усыпальніцы, высечаныя ў скалах некропалі. Косткі, муміі. Проста так можа вытыркацца з пяску аграмадная галава сфінкса або быка Апіса ці нават Анубіса — бога смерці. Шакал або сабака, які ляжыць.

— Або чалавек з галавой сабакі ці шакала?

— Па-мойму, ён быў накшталт галоўнага муміфікатара. І быў яшчэ адвакатам нябожчыкаў. У падземным судзе распавядаў пра кожнага — хто і што.

— Даволі жудасна гучыць. Але бач, страх не вечны. Самі егіпцяне рабавалі магілы і прадавалі скарбы. Пачакай, я зараз пагляджу… З яго падземных лабірынтаў выцягнулі самога Апіса. Жанчыны калісьці па чарзе сядалі на яго ў спадзяванні перамагчы сваю бясплоднасць. Яго таксама прадалі.

Радыё-Крок: “Галава сфінкса Рамзэса II важыць тры тоны. Яе знайшоў у Егіпце жыхар краіны. Шукаюць астатнюю частку. Вышыня сфінкса была адзінаццаць метраў. А зараз — пра надвор’е”.

— Ты ведаеш, а мне гэтыя зграмаджанні сфінксаў, статуй, нагадваюць цяперашнія музеі таталітарнай скульптуры пад адкрытым небам. Яны страцілі моц. Іх ніхто не баіцца. Дарма што богі.

— “Дзеці чыгунных багоў” — памятаеш? Дык хоць чыгунных. А тут — гіпс, цэмент, зусім тандэт. А, успомніў! Кароль жа прымаў егіпецкага пасланніка. Падворак адзін час быў, егіпецкія купцы жылі. Ядвабы, фарбы, папірус. Сфінкс невялічкі, само сабой. Недзе на Савецкай, дзе прыблізна падворак егіпецкай нацменшасці на свяце быў.

— Мабыць, ты ўжо выдумляеш?

— Наконт паслоў? Не, якое выдумлянне?

— Я ведаю, што сапраўды паслоў прымалі. Шведскіх, турэцкіх, нават ад брытанскай каралевы.

— Так і ў Егіпце кіравалі пашы. Потым, ты падумай, у парку Жылібера абеліск з надпісамі — зусім па-егіпецку выглядае. Гэта іхняя завядзёнка — пакрываць усе каменныя паверхні піктаграмамі, каб максімум інфармацыі захавалася. На мурах, калонах, абелісках. Каменныя кнігі. Яны не вельмі спадзяваліся на папірусы.

— Буслы нашыя зімуюць дзесь у Егіпце. Пралятаюць над пірамідамі, Нілам, над сфінксамі. І потым успамінаюць пра іх. Як узгадваюць тамака пра Нёман. Будуць потым пралятаць над ізраільскім плотам. А пазней над нашымі калючымі дратамі... Мур у Ерусаліме пад назвай “абарона Ерусаліма”. 135 кіламетраў агулам. 135! Гэта ж колькі цэглы.

— Плот паміж ЗША і Мексікай яшчэ даўжэйшы. А з кітайскім не параўнаць увогуле. Гэта назалдівая думка, але я не магу яе пазбыцца. Што праз усе гэтыя платы, муры ўцякалі і ўцякаюць толькі ў адзін бок, у адзіным кірунку. Ніколі — у адваротным.

— У гэтым іхняя сутнасць. Глыбінны сэнс.

У Гартэне цагляны мур замяняе рака. Яна падзяляе горад надвая. Прычым на ўсходнюю і заходнюю часткі. Пасля дзяльбы здаралася, што яны належалі розным краінам. А пра войны й казаць няма чаго. Рака падзяляла вайсковыя аддзелы, варагуючыя бакі, цэлыя арміі. Рабілася лініяй фронту. Напалеон распачынаў сваю ўсходнюю кампанію з фарсіравання ракі. Паўзіраўшыся з заходняга берага ў падзорную трубу. Кайзераўскія дывізіі. Армады “Барбаросы”. А таксама кавалерыя панская і рабоча-сялянская. Не кажучы пра даўнейшыя часы. Калі на другім беразе атабарваліся крыжацкія загоны з рознамоўным рыцарствам. Ягайла і Вітаўт, брат на брата. Аляксеі Міхайлавічы, захапіўшы замак на гары, пакідалі вымушана другі бераг вольным, не здольныя перасячы водную перашкоду.

Памежны мост. Цягнікі пераязджалі мяжу ў паветры — па-над ракою. Яе называлі ракою часу, пазначаючы на мапах лацінскімі літарамі на старажытнагрэцкі лад. Ты едзеш, уяўляючы пад сабою прорву. Вышыню з вадой у доле. Але нічога агульнага з лётам. Хутчэй як спыняецца кола агляду, а ты — угары. Крыху хісткае адчуванне. І раптам цягнік напраўду спыняецца. Пашпартны кантроль. І службоўцы з сабакамі. Што яны шукаюць ці — каго? Нелегалаў? Наркотыкі? Спірытус? Улёткі? “Свабоду”?

У замежным часопісе “Напшут” — сэнсацыя! Што ў нас сабраліся тысячы афраазіятаў, што ўлады іх згодныя прапусціць праз мяжу на Захад. Каб не мець сабе лішняга клопату. І што адбудзецца гэта ўначы на Каляды каталіцкія, калі палякі будуць святкаваць. Наце вам на лапаце. Нашыя ўлады — правакацыя! Ноты пратэсту. А на сайце часопіса — спрэчка. Адныя —пабудаваць мур ад Эстляндыі да Турэччыны, дык каб вышынёй шэсць метраў. І поле міннае — шырынёй пяцьдзесят метраў з калючым дротам — як у Ізраілі. Іншыя — лепей службу памежную прывесці да прытомнасці. А то — толькі на джыпах фарсіць могуць.

Афраазіяты ідуць! Агромністай грамадой! На плячах, у рукзаках бюсты, статуэткі, бажкі індакітайскія, з берагоў Тыгра ды Еўфрата, Брахмапутры. Пал-Поты, Мао Цзэдунчыкі, Мушарафы, Дэн Сяапіны, дзядулі Хо і Чайбалсаны. А колькі зухавых Садамаў, Мухамедаў, Ібрагімаў! Хунвэйбіны, талібанчыкі, бін-ладункі.

Буды, Гогі і Магогі, Мардукі, Крышны. Богі — нібы сіямскія блізняты: дзве галавы, мноства рук і ног. Безліч вачэй. Змеі, драконы, драпежнікі, крылатыя львы. Зусім ужо фантастычныя жывёлы. Нашэсце драўляных азіяцкіх катоў і чорных афрыканскіх статуэтак на абшары, доўга апанаваныя матрошкамі. На рынках, прылаўках, у вітрынах. Прадаць, зарабіць на чорны хлеб. А ў кішэнях самыя экзатычныя тугрыкі. І амулеты, абярогі. Маленькія цацачныя бажкі. Уцёкі з егіпецкай няволі.

Яны рушылі праз цёмныя абшары, снежную змерзлую мяжу з шэрагамі калючых дратоў. Праз густыя лясы. А тамака, на другім баку Каляды. Калярова, святочна, сытна й цёпла. Снег, мароз за вокнамі, а ўнутры —падарункі пад ёлкай. Ілюмінацыя звонку і ў дамах. Шопкі з маленькім Хрыстом — на пляцах, у дамах, кватэрах і храмах. Хрыстос нарадзіўся!..

Гэта мне сніцца, ці я мрою. Я бяру кніжку і чытаю пра жанчын, якія нагадвалі сфінксаў. Яны стаялі чацвярыцай у рачной вадзе і мылі бялізну. А калі праходзіў цягнік, яны з цікаўнасцю ўзнімалі да яго галовы. На пагорку над чыгункай, непадалёк ад моста праз раку, пра які ўжо гаварылася, старая вежа. У ёй майстэрня скульптара. У майстэрні з выгляду егіпецкія рэчы, зробленыя ім. Чорная дрэва, залатая фарба, загадкавыя погляды. Ён прызнаўся мне, што раней багоміў грэчаскае мастацтва. Але з часам адчуў прэснасць на вуснах, аскоміну. Ён усвядоміў, што карані, падмуркі сённяшняга мастацтва ўвогуле — тамака — у егіпецкіх лабірынтах у скалах, пад пірамідамі. А

я цяпер думаю: кнігі, пачаткі літаратурных тэкстаў — у каменных летапісах з нільскай даліны. І сам я, мае думкі, мае тэксты… Мудрыя вочы, погляд каменнага чалавекажывёлы. Sphinx never cry.

***2002-2003***

## КОННЫ ПОМНІК З ПАП’Е-МАШЭ

*Кастрычніцкае апавяданне*

Мокры чарапічны дах, пахмурнае надвор’е. Кастрычнік, але ўсё яшчэ цёпла. Люблю такія дзянькі, адчуваю асалоду, каб не дыскамфортная абставіна. Шкада сабаку, які скуголіць ля суседняга пад’езда. Кавалеры мадзеюць без балонкі, яна жыве на апошнім паверсе. Яе больш не выпушчаюць і водзяць — нябачная дагэтуль навіна! — на павадку. Каб перапыніць бясконцае, як здаецца, сабачае вяселле. Шкада аўцабыка, як мы яго называем. Ён нагадвае менавіта якогасьці канадскага аўцабыка. Мяшаная парода. Ён пачынае гэтак жаласна прасіцца, што немагчыма трываць. Я вызіраю ў акно. Аўцабык, стоячы на задніх лапах, пярэднімі адчайна перабірае ля ручкі дзвярэй, марна спрабуючы расчыніць.

Асноўная падзея меланхалічнай нядзелі: памылі у ваннай ката рэшткамі шампуня, прывезенага калісьці ажно з Англіі. Мокры, ён зусім не такі мажны, а разгублены і вельмі мілы. “Твайму мілачку спадабаўся б віскас”, — фраза з пражскай рэкламы. Ах, калі ж яна была, тая Злата Прага ў тваім жыцці! Як заўжды, спадзяешся ледзьве не наступнага года зноўку пабываць тамака, дзе так спадабалася і было гэтак добра. Але гады пачынаюць чаргавацца, круціцца вавёрчына кола. З’яўляюцца непатрэбныя раней візы, змяншаецца колькасць аўтобусных рэйсаў, а галоўнае: жыццё пачынае неспадзеўкі строіць дрэнныя кепікі. Чым ты угневаў Бога? Тым, што не хадзіў на наіўна-фармальныя споведзі? Няўжо за гэта можна так бязлітасна караць? Даруй за блюзнерства…

Галава караля нашага, з бронзы пазірае зверху, з калоны ўнутры катэдральнага касцёла побач з купеллю ў нагах укрыжаванага Хрыста. Ногі з чырванаватымі пацёкамі, нібы ад памады, сляды якой наслойваюцца. Гэта ў царкве, куды ты аднойчы трапіў, бацюшка непрыхільна у вочы адхвастаў жанчыну на памінальным набажэнстве: тут вам царква, а не танцы, напамадзілі сабе вусны, як нейкія гуляшчыя! У царкве жанчынкі ў хустках закручаны, вочы пакорлівыя. Як у мусульманак. Але я часам дальбог узгадваю пра забарону царкоўную маляваць вусны, калі мінуючы каралеўскую галаву апынаюся перад распяццем з рэшткамі памады на нагах.

У апошні вераснёўскі дзень цёпла-цёпла, можна ўявіць, што лета не скончылася зусім. Такі лагодны-лагодны пачатак восені рэдка здараецца. Калі ласка, адпачні на астачу. Пасля спякотнага нервовага лета без возера, без мора, толькі з каламутнай ракой пад асфальтным мостам. Лета без лецішча, без лесу, без прыроды, лета на распаленым бруку пад цагляна-чарапічным дахам, пасярод аўтамабільнага чаду. Верасень маленькі дарунак, падабенства палёгкі. Каб не зусім ужо адразу са спёкі ў мокрую золкую халадэчу, без дня сапраўднага адпачынку. Пара куфляў піва пад ценем парасона — не ў лік.

Пражскі помнік нагадваў віцязя, магутнага асілка ў латах, якісьці кітайгародскі стыль. Ваявода Хаванскі вершна вырушыў на крымчакоў. Мода тады існавала ў мастацтве: былінна-легендарныя вобразы, казачныя, дэманічныя постаці. Славяншчына, магутная купка, матывы паганства. Помнік вялікаму князю з жалезным воўкам у нагах зусім іншы. Памкнёны наперад, і конь не цяжкавагавы, і сам князь не ацяжэлы. Але горад з помнікам апынуўся за калючым дротам. Дакладней, мы за калючым. Толькі першую хвілю цяжка скеміць — каму лепей: хто дасылае паветраныя пацалункі з вагоннага акна, ці хто застаўся стаяць на запляваным, засмечаным семкамі пероне. Конныя каралеўскія помнікі, на жаль, на другім баку.

Калі я быў там апошнім разам, у горадзе з нечаканай гарой пасярэдзіне, быццам гузак на галаве, на якой вартавая вежа і сцяг, які лунае свабодна і годна, я сфатаграфаваў каралеўскі помнік, каб у рамцы павесіць на сцяне, але не зрабіў дагэтуль. Хіба ад падсвядомай зайздрасці? Жалезны воўк. Вядомая летапісная гісторыя... Князь сасніў воўка, які быў жалезным, і той жалезны воўк загадаў ці параіў яму пабудаваць на гэтым самым месцы горад. Горад пераходзіў з рук да рук, з адной моўнай стыхіі трапляў ў іншую, апынуўся за калючым дротам і даволі надоўга, але захацеў дыхаць вольным паветрам, прыехалі танкі, была кроў, але кайданы ўпалі, горад уцёк з-за калючага дроту. Вымкнуўся на волю. А жыхары паставілі помнік заснавальніку сталіцы — князю і яго воўку.

Нашага караля называлі чалавекам з жалезным позіркам, якога баяліся хаванскія загоны. Нямецкі падарожнік пакінуў апісанне: кароль выязджае ўрачыста са світай з замка на гары і калідорам вуліцы рушыць да касцёла на набажэнства. Абапал месцічы, сярод якіх немец, якога так уразіла працэсія, сама атмасфера, што ён неўзабаве сеў з паперай і чарніліцай, узяў пёрка і напісаў пра

ўбачанае. Пра дрыжыкі, якія выклікаў міжволі грос кёніг, які здаваўся жалезным.

Не дасягнуўшы катэдры, кароль спыніўся і стаіць дагэтуль на пляцы ў гайніку. Конь, напэўна, шчыкае траўку, апошнюю восеньскую, якая чэзне навідавоку, неўзабаве буцьвее, жоўкне і пятрэе на марозе. А кароль не з'язджае. Уся яго світа даўно пахавана на цвінтарах і ўнутры храмаў, у лёхах. Ад апошніх захаваліся часам магільныя пліты, напаўсцёртыя надпісы. Хто апынуўся ў зямлі, зніклі дазвання. Няма даўно крыжоў, багародзіц, анёлаў, няма надмагілляў. І саміх могілак няма. Ані следу. А косткі ператварыліся ў глебу. А кароль запыніўся у одуме, не кранаецца з месца.

У горадзе з вольнай ад калючага дроту часткі мапы якія хочаш помнікі. Маршалкі, кардыналы, каралі... А не толькі чыгунныя богачалавекі — правадыры, наркамхарчы, людзі з маўзерам пры баку. Вольны вецер, вецер зменаў заблытваецца незразумелым чынам ў калючых дратах, у сеціве "сістэмы". Людзі неабазнана лезуць напрасткі цераз драты. Скрозь калючыя агароджы чалавеку працярэбіцца амаль немагчыма. Наважваюцца толькі тыя, хто ў сваіх азіяцкіх стэпах і пустэльнях не ведае пастак і суцэльнага драцянога сеціва, хто паняцця не мае, што трапіць у вольны свет з нявольнага — надзвычай складаная і вельмі небяспечная справа. "Сістэму" рабілі і ўдасканальвалі доўгі час, каб ніхто не мог уцячы адсюль. Працавалі дбайна, адбіўшы не толькі ахвоту, але самыя нават думкі пра ўцёкі... Даўным-даўно "сістэма" працавала адно супраць звяроў, якія не ведалі абмежаванняў і не падазравалі пра межы. А тым болей пра людскую падэсць, падрыхтаваную для іх, лясных насельнікаў, якія, адрозна ад людзей, захоўвалі сваю свабоду, наколькі атрымлівалася.

Непрыемныя словы "візавы рэжым". Падобныя на спружыну або на гумовы эспандар. Шархоткае сцябло асоту ці чаратовае, вострае як лязо. І штосьці ад замкнёнасці: вокны з кратамі, дзверы, тэрыторыя, абгароджаная калючым дротам. Рэжым. Зона. Уваход па пропусках. Уезд па візах. Кантроль. Падазронасць, непрыязнасць, адсутнасць усьмешкі. Падзел на людзей двух гатункаў. Абразлівыя словы, якія выклікаюць прызабытыя думкі аб Місісіпі ў агні і аб нядаўняй Паўднёвай Афрыцы.

Кароль здранцвеў. Разам з канём. Можа гэта міраж? Здань караля. Што ж, мабыць, гэта найболей праўдападобна. Беспрытульная постаць, якая растане як туман, як дым, як смуга. Скрозь якую пройдзеш, нічога не адчуўшы. А большасць нават нічога не

заўважыць. Бо заўважаць у гэтым разе, значыцца ведаць, любіць, адчуваць піэтэт. Мець пашану ў душы, ганарыцца і пакутваць. Наяўнасць нябачнай оптыкі? Кантактных лінзаў? Ці можа, вочы нармальныя ў меншасці, здольнай бачыць не толькі вонкавае. Меншасці, якой не паспелі ці не патрапілі кропнуць атрапін, каб змянілася рэзкасць зроку, бачанне навакольных рэчаў.

Жывыя статуі. Людзі не ведаюць што ім яшчэ вымысліць. Ім чагосьці ўсё карціць… Ім замала быць самімі сабой, бачыць свой твар у люстэрку, яны стаміліся ад сябе. Ім патрэбны не пластычная аперацыя, а маскі. Ім хочацца вылузацца з уласнай скуры, скочыць вышэй галавы, укусіць сябе за локаць. Быць людзьмі, хома сапіенс ім ужо нецікава. Гэты стан ім здаецца прэсным, без смаку. Ім заманулася стаць манекенамі. Ператварыцца ў маўклівую постаць, у статую, у камень. Яны прагнуць быць акторамі, выконваць ролі, іграць. Нават калі няма звычайных здольнасцяў, не кажучы пра талент. Уласнае імя ім непрыемнае. Ім хочацца кідкіх гучных прозвішчаў, артыстычных мянушак.

Усе квіткі дашчэнту разабраны, каб паспець у іншую краіну да “дня ікс”, да візавага рэжыму. Доўгая чарада машын перад шлагбаўмам, у бакі ад якога разыходзяцца шэрагі калючага дроту. Золкая шарая нервовасць у нейтральнай зоне. Падрыхтаваныя да неспадзевак і каб выконваць любыя каманды. Нявыспатыя і скалелыя трымаюць пашпарты напагатове кожную хвіліну. У акенца ў разгорнутым выглядзе, толькі ў разгорнутым. Каб не ўзлаваць. Тварам у анфас, вочы ў вочы, нікуды не паварочваць галаву, не глядзець убок. Спраўджанне ў якіхсьці зашмальцаваных сшытках. Пячатка. Лясь! Можна у “фры шоп”, чаму б і не? Ці будзеце вы што-небудзь браць? Не-не. Адказаў па прывычцы. І адразу пашкадаваў — апошні раз да візавага рэжыму… Буду! У цеснай крамцы ажыятаж, гармідар: ваш фрышопны талён, тры хвіліны на выбар. А вось пляшка палінкі, мадзьярскай палінкі, якую піў кароль, асабліва ў маразы. Ён не толькі падабаў віно, віно сваёй радзімы, у тваім горадзе, які таксама палюбіў, атабарыўшыся ў Старым замку на гары над самай ракой.

У пабе у вольным горадзе з вальяжнай публікай, за вокнамі бронзавая статуя Ягамосці. Ганаровы погляд, шляхецкія вусы, крывая шабля-карабэля пры баку. Бараніў ад хаваншчыны, фундаваў храмы, друкаваў кнігі. Піва ў пабе, дата на фірмовым куфлі — “1790”. Так-так, тут шануюць традыцыі, тут памяць маюць не абцятую. Табе не хочацца лішнім разам нават не прыніжацца, а звыкла крыху

наракаць, твой прыяцель канечне ўсё зразумее, ён ставіцца да вашых праблемаў спачувальна... Але як стрымацца, як не сказаць, калі тут старанна адшукалі ў архівах першыя ўзгадкі пра бровар яго мосці і старанна з гонарам напісалі дату на піўных бутэльках і бляшанках. Яшчэ горада ніякага не было, адно палац з паркам і дзве-тры брукаваныя вулічкі. Але сапраўдны палац, міні-Версаль, згодна тадышнім друкам.

Ну й што, Веслаў? Мой горад даўным-даўно у “Сівітатэс орбіс тэрарум” названы быў сярод найгалоўных гарадоў свету. А ў наступным новы кароль пацвярджае ранейшыя прывілеі жыхарам і вызваляе саладоўні і бровары ад падаткаў, якімі абцяжарыў іх папярэдні манарх з нагоды зацягненай і знясільнай вайны з кітайгародцамі. Хаця вайна працягваецца. Але піваробы прызвычаены на ўсім эканоміць, яны падмаладзілі гарадское піва, пазбавілі моцы на трыста год. Ах, кароль, ах каралеўскія прывілеі! Яны зніклі ў кітайгародскіх архівах, трапіўшы туды ваеннымі трафеямі разам з касцельнымі званамі, са штандарамі і гарматамі.

Ты вяртаешся, вы паступова мінаеце шэрагі калючых дратоў, нейтральную тэрыторыю, падазрона-пільную варту, шлагбаўмы, зноўку драты. Каралеўская сталіца, нарэшце! Вітаю цябе, замак апошняга манарха! Цытадэль на гары. Па-за дротам, канечне, добра, але тут дом. Мост высока па-над ракою, якая гэтак моцна шырока плыла ў каралеўскія часы. Кава дома. Памежны трафей — вялікая бутэлька палінкі. Палінка — гэта, ведай, — “драй эпрыкот брэндзі”. Цымус! У каралеўскім замку падзея: успомнілі пра караля, якога скульптуры займаюць нечакана цэлую залу — з тулавам і без, на кані, на манаршым пасадзе, бюсты, галовы, барэльефы, з вырабленым тварам і — без вачэй, носа, з рукамі без далоняў, бронза, медзь, чыгун, гіпс... Аўтар — адзіны. Якісьці здранцвелы, ці папросту засмучаны. Ён прызвычаены да майстэрні, да самоты, цэлыя гады рабіў у чатырох сценах каралеўскія скульптуры. Пасярэдзіне макет коннай статуі, на сцяне фотапанарама гарадскога пляца. Штосьці незвычайнае! Вяршыня каралеўскі помнік. Скульптар прыклеіў яго выяву на фоне гайніка. Ён сціпла прызнаецца, што марыць, калі-небудзь на пляцы убачыць сапраўдны помнік.

Густыя гукі сярэдневечнай музыкі, камерны аркестр ажыўляе мелодыямі мёртвую скульптуру. Віно ў кілішках нагадвае пра каралеўскія склепы. Калі ён памёр, у замкавых лёхах знайшлі пяцьдзесят адную бочку з віном, якое ён не паспеў выпіць. Кулуары. А

ці ведаеце, ён сапраўды баяўся атруты. Нездарма дагэтуль спрачаліся: ці не быў атручаны? Бо надта хутка і дзіўна памёр. Ён выпісваў з замежжа сродкі ад атруты і нават сам імі карыстацца рыхтаваўся. На каго толькі не думалі! А найперш — што жонка. Так, яна была старая, яе матка любіла атруты. Ён уцёк сюды не проста, каб паляваць аленяў, якія бадзяліся за гарадскімі мурамі, дачка палясоўшчыка мела ад яго сынка пазашлюбнага. Напраўду? Трэба не баяцца архіваў. Калі ён памёр, сам Папа Рымскі прыслаў удаве залатую ружу…

Непазбежнасць надыходзіць з нуля гадзінаў ночы, кажучы па-вайсковаму. Трэба ўставаць у цемры, званкі з кішэннага тэлефончыка, сонныя апатычныя галасы. Язда на няблізкую мяжу, якая спатыкае неспадзявана пустатой перад шлагбаўмам. Сумныя шапікі, у якіх зрабіліся непатрэбнымі пісьмовыя машынкі, на якіх адстуквалі пашпартныя дадзеныя ў ваўчарах. І танна, і хутка — можаш праязджаць цераз шлагбаўм. Ніколі болей. Званок з далёкай радыёстанцыі, паведамленне ў жывым эфіры пра першыя гадзіны візавага рэжыму. Вяртанне з выпадковым падарожным да гарадской ускраіны. Паўгадзіннае калыванне ў перапоўненым аўтобусе з потнымі шыбамі, з цяжкім паветрам, з заціснутымі апатычнымі пасажырамі, збольшага — жанчынамі, я агледзеўся: прывабнымі часцей маладымі спадарынямі, якім бы крочыць на подыумах, аздабляць вокладкі модных часопісаў, здымацца у вядомых рэжысёраў.

Гаспадар вялікага, але старога мерсэдэса, з якім вяртаўся з мяжы, наракаў на памежныя парадкі, дакладней на падзел сваіх на звычайных і прывеліяваных, перад якімі нават мытнікі — як служкі. Для якіх усё па-за чаргой, усё хутка, якія з памежнікамі запанібрата, у якіх усё куплёна. Спыніліся на чыгуначным пераездзе, чакаючы амаль пусты нетаропкі цягнічок. У памежную зону шмат пасажыраў не бывае. А памеранцы? Паназірайце, калі яны працуюць самі па сабе і калі прыязджае іхні камендант. Звычайна са сваёй будкі не паказваюцца, а тут — праштампавалі пашпарты і чакаюць наступных, напагатове. А калі няма начальства іхняга, чакаем мы немаведама чаго. З немцамі, ды з астатнімі, ездзілі ж людзі далей, — гэтак паспрабуй толькі працаваць. Усе гавораць: нашая мяжа самая брыдкая, яны паводзяцца як паны, не ведаю… Мы сябе адчуваем людзьмі другога гатунку… Прастукалі колы цягнічка, выклікаючы званкі на пераездзе, узняўся шлагбаўм. Я дапяў, што ён перавозіць паліва праз мяжу, хуценька здае і вяртаецца. Таксама бізнэс. Сказаў,

што як кошты павялічыліся, даводзіцца мяшаць салярку з газаю. Такі вось бізнес.

Атрымаў і-мэйл з краіны, якая не ведае, што такое калючы дрот. Яны двойчы на год адпачываюць: цёплае мора, горы. Апынаюцца часова пасля дарагой краіны ў таннай, дзе ўсё “вэры чып”. Але гэта іх не пазбаўляе ад традыцыйнага спліну. Яны змагаюцца з ім штовечар у пабах з “Гінэсам”, у сяброўскім коле, на частых каляжанскіх пагулянках. На возеры у фітнэс-клубе, пабудаваным з дрэва у скандынаўскім стылі. Унутры — нібы апынуўся на дракары вікінгаў. Басейн, саўна, джакузі. Аднак усё гэта не ўратоўвае ад дэпрэсіі. Яны мусяць наведваць сваіх псіхааналітыкаў, якія “вэры экспэнсыў”. Што ж тады нам казаць, што рабіць мне? Без мора і гор, без пабаў і псіхааналітыкаў? Набыць пляшку таннага французскага віна з-пад крыса і вельмі дарагога “кіце-кэту”, паслухаць добры рок і палашчыць свайго ўлюбёнага ката: мур-мур-мяў.

Калі ўчора не было візаў, а сёння яны ёсць, гэта як раптоўныя маразы пасля цёплых дзянькоў, але маразы, якія надыйшлі натрывала. Можа й не навечна, але вельмі надоўга. У душы штосьці сціснулася, як абуджаны страх, шкадоба да самога сябе, клубок непрыемных думак, пачуццяў. Учора іх не было, а сёння яны — непазбежнасць, дадатковая перашкода на шляху па-за калючы дрот. Як не было спачатку жалезнай заслоны, халоднай вайны, а потым яны на дзесяцігоддзі вызначылі існаванне з вечнымі страхамі, падазронасцю, варажнечай. З падзелам на два светы.

Не паспеў вярнуцца, як лопнулі мяхі набрынялых хмараў, разам з дажджом пасыпаліся на галаву каляныя каштаны. Зырка-жоўтыя кляновыя, барвовыя каштанавыя лісты хутка страцілі сваю мастацкасць, намоклі і паплылі, брукаваная вуліца утанула ў вадзе. Рачулка як звочыць набрыняла, узнялася на выбрукаваныя берагі і памкнула пад мост, побач з якім дождж бязлітасна хвастаў гранітны бюст паэткі. Больш не будзе цяпла, надоўга не будзе лета. Немагчыма ўхапіць яго за хвост, як дзяўчыну. Мокне на рацэ плывучая рэстарацыя “Каўчэг”. Ніхто не хоча больш піва. Яе завядуць у затоку, прышвартуюць, каб увёсну не сарваў крыгалом. Не будзе больш і вулічных рок-канцэртаў ля бара “Піўная бочка”. Актор, які выканаў ролю караля, нягегла і непераканаўча, спрабуе перад люстэркам апанаваць ролю, і пакуль яшчэ ён не задаволены сабой.

Гэта цяжкі крыж, але гэта і пячатка абранніцтва. Гульня, свавольства. Ніякага канвеера, ніякай установы. Спі, чытай, ездзі па

грыбы. Вечаровая праца, праца дзеля прыемнасці і задавальнення натуральных амбіцый. Калі толькі роля табе адпавядае. Калі не другарадная і калі лепшую не атрымала табе непрыемная асоба, якой ты не так зайзросціш, але папросту не любіш яе, у горшым разе пагарджаеш. Ці мала за што можна пагарджаць? Канечне, могуць сказаць, што гэта не па-хрысціянску. Але тэатральная трупа — не дванаццаць апосталаў. Зрэшты, часам можна ўбачыць аналогію з апошняй вячэрай. Можна, але параўнанне будзе занадта моцным, перабольшаным. Часцей здараецца накшталт: чаму ён ідальга, а я служка? Чаму Дон Кіхот... Ну, тут больш складана, справа густу, асабістых переваг. Але чаму, чаму ён кароль, а я толькі блазан, га?!

Пашэнціла стаць каралём. Але як пераўвасобіцца на вулічным свяце, калі навокал смажацца шашлыкі, а ў цябе на сняданьне быў бутэрброд з сырам, калі побач нязрушна стаіць Вялікі Правадыр, як статуя Камандора, навокал салдацікі зухава спяваюць "цыганку-малдаванку", парабкі з бярвення будуюць першую гародню, а спецназ радасна ламае аб галовы некандыцыйную цэглу і не жуючы глынае айчынных жаб, каб не трапілі ў рот французам? Каралеўскі маналог прагучаў праз сіпаваты мікрафон зусім непераканаўча, сам адчуў. На караля адразу забыліся, і ён, спусціўшыся з вулічнай сцэны, прысеў пад парасонам і папрасіў выпіць, але гэта было на свяце забаронена.

Апаноўваць ролю без грыму цяжка: у люстэрку звычайны твар з натоўпу. Штораз накладаць грым — ты не жанчына, каб кожны дзень мазацца. Грым трэба эканоміць, у тэатры гэта — адвечнае. Скура пачала за столькі часу рэагаваць алергічна. Хіба што браць маску альбо каралеўскае адзенне хаця б да пояса. Не-не, усё адно цяжка. Цяжка паспрабаваць уявіць, што ў цябе... Што жонку цябе прымусілі ўзяць у якасці "нагрузкі" да каралеўскай кароны, і ёй значна больш гадоў, чымсьці табе. Што яна за жанчына — невядома, удава ў жалобе. Матка яе была атрутніцай, і ты пабойваешся, каб здольнасці ды імпэт не перадаліся старой дачцэ. Ты замаўляеш у замежных краінах сродкі ад атруты, асабліва добрыя, кажуць, у гішпанскіх алхімікаў. Але гішпанскія алхімікі мусяць хавацца ад вельмі руплівых "дамініканскіх сабак".

Каб пераўвасобіцца ў ролю па-сапраўднаму, трэба уявіць, што ў цябе трафічная (але ж слоўка!) язва нагі, што ў цябе велізазныя ныркі, як у вала, амаль як у спакладанага барана. Так напішуць прыдворныя лейб-медыкі у справаздачы, якую надрукуюць кніжкай пад псеўданімам. А яшчэ, яшчэ ў жоўцевым пухіры знойдуць камень, а

пратоку закаркуе другі — памерам з мускатны гарэх. Канечне, сам кароль гэтага не ведаў, яму папросту было кепска, вельмі кепска. Але ж актор ведае і не можа адмовіцца ад гэтага ведання. Паміж ім і каралём у гарачцы фаліянты наступных — за некалькі стагоддзяў падзеяў, цяжар пражытых гараджанамі гадоў.

Паспрабаваць легчы і ўявіць. Але дзе? У цеснай грымёрцы на прыстаўленых усутыч крэслах? Дома на канапе? Ці пайсці і легчы цішком на сцэне, каб ніхто не бачыў, у цемры, быццам у сутарэннях? Што ў цябе зроблена лекарамі "апектура" — дзірка на назе, цераз якую сплывае гной з раны, якой не наканавана загаіцца. (О, як жа яна брыдзілася тваёй смярдзючай нагой, нашчадніца вялікага італійскага роду, каралеўская ўдава і паўторна —каралева пры каралю з нагой, якая не перастае гніць). Сабака ўкусіў, звычайны, не "дамініканскі". Мабыць цякучая рана болей вызначыла штодзённае жыццё будучага караля, чымсьці што іншае. Ён заўжды адчуваў яе, яму ўвесь час балела, ён ніколі не мог забыцца на яе, ягоны адвечны праклён. Спачатку яе загаілі. (Каралеўскія медыкі найлепшыя!) Яе, але не агнішча інфекцыі. Пачало пруцянець цела. Рану ўзрэзалі скальпелем і прымацавалі пас з жалезнай шпількай, каб вярэдзіць рану, каб сыходзіла дурная матэрыя.

Так-так, актору няпроста ўявіць сабе падобныя пакуты, ён спрабуе хадзіць з вялікай канцылярскай кнопкай на назе. Атрымліваецца кепска, ці праўдзівей зусім не атрымліваецца. Але, мабыць, дарэмна шкадаваць караля, у каралеўскія часы былі распаўсюджаны вярыгі, і для яго, як для добрага верніка, адна шпілька гэта зусім не гіена агнёвая. Хутчэй адзнака боская. Бо Ён жа таксама цярпеў за нас і быў укрыжаваны пры Понцкім Пілаце... Для актора тут складанасць. Уявіць рэлігійную экзальтацыю нябожчыка магчыма, адчуць — хутчэй не. Пайсці пабыць у храме — гэта можна. Але каб маліцца... Актор дагэтуль не вызначыўся. Нібыта Бог ёсць, павінен быць, прынамсі. Але ў сталых гадах пайсці пахрысціцца, наведваць набажэнствы? У царкве барадатыя дзячкі, мноства бабулек, жанчыны, і не прысядзеш каб пра сваё падумаць. Увесь час нібы ў чарзе ці на мітынгу. У касцёле цікавей, музыка, але ксяндзы выглядаюць занадта па-замежнаму, занадта па-ватыканску ці што.

Магу сабе уявіць, як актор стаіць у музеі перад своеасаблівай мадэллю каралеўскай коннай статуі: драцяны каркас. "Шкілет, на які засталося нарасціць мяса", — фраза на адкрыцці выставы, як мог пачуць і ён. У тэатры я толькі глядач, як астатнія. Да пастаноўкі

дачынення не маю. Яны звычайна любяць п’есы мёртвых аўтараў альбо вельмі далёкіх, каб не плаціць ганарару. Мая п’еска патрапіла да гістарычных угодкаў. На прэм’еры я сяду на балконе, каб разгледзець уяўнае анатаміраванне уяўнага трупа. Мне таксама цікава, як усё будзе адбывацца, як увасобяць усяго толькі словы на паперы ў руxі, дзеянні, у відовішча. Я таксама часам прагну відовішчаў, тэатральнай гульні, умоўнасцяў. Якія не падобныя да жыцця, аднак пад уздзеяннем якіх часова на жыццё забываешся.

Запануе халодны снежань, як і ў тыя далёкія ад нас часы, у тыя дні і гадзіны, калі Ягоная каралеўская мосць пасля не зацягненых пакутаў памёр. Я апрануся, выйду з дому і пайду праз Стары горад, дзе калісьці ён жыў і дзе заўчасна памёр. У тэатры я з школьніцкай цікаўнасцю буду назіраць згары, што адбываецца на сцэне. Мне добра вядома наперад, што ён павінен двойчы апынуцца на анатамічнай лажніцы. З яе пачнецца дзея і ёй жа скончыцца. Невялічкае псіхалагічнае выпрабаванне для выканаўцы галоўнай ролі. Якія там у іх нажы ў тэатры? Лязо знікае ў тронку? Кроў? Не, мабыць, крыві быць не павінна, ён скалеў, пакуль яны спрачаліся, пакуль не дайшло да скальпеля.

Я уяўляю, як сяджу на балконе на прэм’еры і думкі мае снуюцца ад выканаўцы ролі да самога нябожчыка. Я выйду з дзвярэй і ўбачу танк, які так і не дачакаўся дэмантажу, як і наш Вялікі Правадыр, і стаіць руляй насустрач аўтамабільным калонам з-за мяжы. Але пакуль я не бачу самога танка, а толькі ўзгадваю пра яго. Я бачу на сцэне таго, які пажадаў быць пахаваным там, дзе памёр, бо любіў тут жыць. Растлумачыць гэта цяжка: любіў ды ўсё. Ён не мог ведаць, не мог чакаць, што яго труп зрэжуць нажамі эскулапы. Не мог нават уявіць, што спачатку зробяць, як схацеў: забальзамуюць і пакінуць на спачын у касцельных лёхах. Але з вясной выцягнуць на свежае паветра і сонечнае святло, паставяць дамавіну у катафалк і з аховай вырушаць у бок цяперашняй мяжы, якой тады не існавала.

Каралі павінны быць пахаваны з каралямі, нават калі ён быў замежнікам і не размаўляў па-іхняму. Нябожчыкі аднолькава маўчаць. Мне зробіцца смешна ад думкі пра візу: сёння патрэбна віза, каб выехаць адсюль туды. А каб вывезці нябожчыка? Дазвол консульскай службы і процьма папер. А бюракратычная важданіна? Ён мог бы і застацца назаўжды тамака, дзе хацеў спачываць з уласнай волі. Што вязеце? Караля. Альбо — дамавіну з нябожчыкам. Такое аднойчы было. Іншага караля, які таксама рэзідэнцыю меў у нашым

файным, але не сталічным горадзе, вярталі праз калючы дрот: візы альбо, скажам, дыпламатычныя працэдуры. Пагрузка, чыгунка, перачэпка вагонаў. Атмасфера сакрэтнасці. Вайскоўцы, урадоўцы, памежнікі, шпегі ў цывільным. Калі дамавіну даставілі да канчатковага пункта і ўзнялі века, шкілет не ўбачылі, адно рэшткі ботаў, шпоры, тронак ад шаблі, акраўкі каралеўскага паланціну з гербамі і несапраўдную тамбаковую карону.

***2003***

## ГАЗЕТНАЯ СЦЯНА

*Апавяданне на Дзень друку*

Ну вось, што вы тут пішаце: “А найболей мне запомнілася, як нас вучылі трапнасці газетнай мовы нябожчыка-правадыра. — “Уся вашая пісаніна, гаспада, сяўружына з хрэнам, а самі вы — палітычныя прастытуткі, вы кладзецеся ў рыпучы ложак да газетных магнатаў за чачавічную поліўку!” “Інтэлігенцыя гаўно, усіх сумнеўных расстраляць к чортавай бабушцы!” Ну што гэта?

— Гэта не я, гэта ён гаворыць, вы самі мне параілі аўтарытэтнага журналіста. Ён што — мог выдумаць усё гэта? Альбо гэта — “Даражэнькі Фелікс Эдмундавіч, баюся, без вашай вэчэка нам з папамі ніяк не справіцца будзе! Паболей трэба расстрэльваць, не шкадаваць патроны, гэта — архіважна сёння!” Такога сам не прыдумаеш, па-мойму.

— Усё гэта не да месца гучыць, не па-святочнаму. Вы ж не пойдзеце ў джынсах падзёртых на школьны баль ці на вяселле? Хаця я супраць лакіравання рэчаіснасці, і часам трэба штосьці такое напісаць, што атрымае водгук у чытачоў. Ну, але ж не вашая “сяўружына з хрэнам...”

— Гэта ж дыскусійны стыль заснавальніка дня друку, які мы тут цяпер святкуем. На журфаку вывучалі.

— Можа і так, але навошта прыцягваць да гэтага увагу залішнюю? Што было, дык было. Ну, пляваўся ён ікрой чырвонай, калі яго Надзея Канстанцінаўна карміла. Ну й што? Ён жа тады ўжо з глузду з’ехаўшы быў. Ну, быў у яго трыпер нейкі і з галавой не ўсё ў парадку, але навошта ў свята пра гэта чытачам нагадваць?

— А што — у свята хопіць “чаркі і скваркі”? Дзень жа друку, вы самі прасілі, каб вуснамі нашых “акулаў пяра” расказаць пра яго, каб іхнія ўражанні, каб пачуцці, каб нічога не выдумляць.

— Але ж яны, напэўна, гаварылі, што гэта не для друку, прасілі не пісаць?

— Нічога яны не прасілі. Вы самі знаеце, што галоўнае толькі, каб нічога пра палітыку.

— Сёння ўсё палітыка: нават агуркі, калі пра іх напісаць не так як трэба — краіна агуркоў і ўсё такое. Усё гэта не бяскрыўдна, усе вашы флэш-мобы. Адкуль гэта пайшло? З Варшавы, ад “Салідарнасці”

іхняй. З туалетнай паперай на шыі хадзілі перад Цэнтральным Камітэтам. Ясна: тады паперы не хапала вострa, але цяпер ёсць колькі хочаш. Вось вы тут запісалі яшчэ аднаго “акулу”, а ён жа хадзіў па Савецкай, прапаноўваў кавалкі паперы туалетнай, гаворачы, што гэта замяняльнік нашых афіцыйных газет і самай буйной — “СовБез”. Начальства было вельмі незадаволена, Дар’я Макараўна з Гмаху кулаком стукала.

— Гэта ж пікет быў, накшталт флэш-мобу.

— Вось менавіта: што скажуць у ідэалагічным камітэце, калі мы яго думкі надрукуем? Альбо тут далей: “Газета павінна быць газетай, друкаваным выданнем, а не органам нейкім ці чэлясам”. Ну што гэта: якім чэлясам?

— Ну, ён жа гаворыць далей: газеты нагадваюць “давалкі”, толькі ідэалагічныя, а не валютныя, у сэнсе, — бясплатныя. Вось, гаворыць, тады казалі, што заходнія журналісты прадажныя, дык ім хоць плацілі па-сапраўднаму, а нашых выкарыстоўвалі за капейкі, сёння плоцяць паболей, але ўжо і выкарыстоўваюць па некалькі разоў, напоўніцу.

— Не, мы гэта адназначна выкрэсліваем. З развагамі “пра другое месца па старажытнасці нашай прафесіі пасля вядома каго”, выкрэсліваем. Далей таксама “пра аднабокасць і тэндэнцыйнасць, якія раней мелі назву…” выкрэсліваем.

— Але ж гэта “тры кіты”, вы ж таксама вывучалі — партыйнасць, народнасць, класавасць, ці ў якім там было парадку? Гэтага ж і не хапае сёння, відаць. Галоўны “Совета Безопасности” ва ўсіх інтэрв’ю наракае: самая вялікая праблема сёння — слабая падрыхтоўка нашых журналісцкіх кадраў, вось раней, маўляў… А што раней? Класавасць, партыйнасць. А як галоўны любіць нагадваць: газеты — гэта калектыўны арганізатар, прапагандыст і агітатар. На палітзанятках у галаву ўбілі калісьці.

— Вы тут ўзгадалі пра аранжавую рэвалюцыю. Не дай бог! Гэта ж самая страшная палітыка сёння. Вы ж памятаеце: ніякіх “фінікавых” рэвалюцый у нас не будзе!..

— А таксама кішмішавых і урукавых, — ясна. Нам экзотыкі не трэба. У нас усё закончыцца “бульбяным бунтам”. І потым: чаго гэта ў нас раптам рэвалюцыянераў разлюбілі, лаянкай зрабілі, вось нядаўна яшчэ столькі замілавання пры расказах пра іх было. А тут: ніякіх імпартных рэвалюцыянераў мы не пашкадуем!.. Берэтка Чэ Гевары ніколі не выйдзе з моды, хай не спадзяюцца.

— А наконт нашага тэлебачання што ў вас тут напісана? З тэлеканалаў дагэтуль чуеш “пасць парву, маргалы выкалю, рага пасшыбаю!” Нават калі гэта праўда, пісаць пра гэта не варта, тым больш у свята.

— Але самі “акулы пяра” гавораць пра гэта!

— Нават “акулам” у наш час не ўсё дазволена. І потым гэта яшчэ не 37-ы год, з чым вы параўноўваеце. Яшчэ няма ў газетах таго, што раньш было, яшчэ па тэлеканалах ніхто не заклікае “раздавіць гадзіну” ці “расстраляць як шалёных сабак”, а “галовы паадрываю” — гэта ж можна расцэньваць як крэпкі жарт, нікому ж яшчэ, здаецца, не адарвалі, як абяцаюць. І потым, тады за газету з партрэтам у туалеце можна было трапіць у турму, сёння гэтага няма. Адчуваеце розніцу?

— Ну вы ж самі сказалі, што цяпер паперы туалетнай нарэшце стала хапаць, хіба што на вёсцы яшчэ газеткамі карыстаюцца.

— Гэта афіцыйнае свята, на дзяржаўным узроўні. Вы прапануеце “Мужыцкую праўду” замест “Правадыркі”. Але ж нават невядома, дзе і калі канкрэтна яна друкавалася. Дый гэта не была сапраўдная газета. А газета “Перакоўка” на беламорскім канале? Ну, гэта ўжо занадта, самі разумееце. Эпатаж нейкі. Эвалюцыю трэба заўважаць. Раней нас называлі прываднымі рамянямі партыі, сёння ўсё інакш.

— Мне хацелася дыскусійна падаць: ёсць два дні — свабоды прэсы, міжнародны, і дзень друку, дзень газеты “Правадырка”, і хто які адзначае. Для каго што важней і хто што пра гэта думае. Таму цікава чытаць.

— Адное крытыканства атрымалася, эпатаж, ёрнічанне, невядома што, негатыў. Што ў Гмаху скажуць: Дар’я Макараўна, у ідэалагічным камітэце? Дзе “чалавечынка”, дзе сацыяльны аптымізм, гонар за прафесію?

— Дык гэта ж і ёсць гонар, адказнасць, калі яны выходзяць на Савецкую з вялізнай прасцінай, склеенай з газет, калі пратэстуюць супраць пабудовы новай Берлінскай сьцяны — ідэалагічнай…

— Ну вось, абмеркавалі, пагаварылі па душах. Карацей: у такім выглядзе матэрыял не пойдзе, трэба болей пазітыву, людзям хочацца пачытаць прыемнае. Ім надакучыла чарнуха-парнуха. Яшчэ сам правадыр напісаў у сваёй “Правадырцы”: “Калі пераможам, багатых больш не будзе, грошы таксама скасуем, зямлю будзем араць электраплугамі, кожны селянін атрымае курыцу на сняданне, а

туалеты мы зробім з чыстага золата”. Не глядзіце на мяне так: пра туалетную паперу там нічога няма. А далей ён піша: “Але спачатку нам трэба захапіць пошту, тэлефонку, тэлеграф, вадакачку і арсенал”, вось так, уелася ў памяць.

***2005***

## ІНСЦЭНІРОЎКА СТАЛІНГРАДСКАЙ БІТВЫ

*Тэатральнае апавяданне*

1 Удакладню: мова пра святочную інсцэніроўку, я не напісаў адразу, каб назву не рабіць задоўгай. Да ўдзелу прыцягнулі, зразумела, актораў драматычнага, а таксама лялечнага, ды нас, удзельнікаў самадзейна-народнага тэатра з Дому афіцэраў. Каб надаць прафесійны ўзровень дзеі і падтрымаць, так сказаць, дзеячаў мастацтва фінансава. Некаторыя прапаноўвалі, праўда, каб удзельнікі вулічнага спектакля працавалі бясплатна, у якасці патрыятычнага абавязку, але грошай на свята хапала, таму вырашылі не быць дробязнымі і хоць аднойчы не эканоміць на мастацтве.

“Донэр вэтэр! Хэндэ хох!” — рэпеціравалі мы нямецкія фразы, каманды і штосьці яны болей пачыналі падабацца, чымсьці раўці — “За родзіну, за Сталіна! Упярод — ура!” “Ні кроку назад — ззаду Волга-матухна!” “Для баязліўцаў і панікёраў — расстрэл на месцы!” “Эканом патроны, бі толькі ў цэль!” Праўда, немцамі па-ранейшаму не вельмі хацелі быць, прынамсі самадзейнікі: немцаў апранулі як валацугаў, беспрытульнікаў, — у рыззё, у лахманы, а нашыя байцы былі “красаўцы-удальцы”, як падкрэсліў рэжысёр з кінастудыі.

Ракі няма, але яе трэба мець, уголас разважаў рэжысёр. Найн! Рака ў горадзе была, але адсутнічала пляцоўка для сцэнаграфіі. Немагчыма было размясціць наш будучы Сталінград ля вады, ды каб з месцамі для гледачоў. Знаеце: па шырыні нашая вада амаль суадносная з “Волгай-матухнай-ракой”, але берагі пагорыстыя, нават добрым ладам не атрымлівалася зымітаваць штурм нашага замка, які сваімі напалову разбуранымі мурамі згары пазіраў на марныя спробы рыцарскіх клубаў тэўтонскага напрамку ўчыніць падабенства штурму. Псы-рыцары ладавалі свае гарматкі рулькамі туалетнай паперы, накшталт як раней пыжы ў ручніцы закладалі, а цяпер — не ладуючы кулю. Дзеля бяспекі. Агню-дыму хапала, але рулькі не даляталі да муроў, серпантынамі раскручваліся, быццам на маскарадзе навагоднім. Тым не менш, публіцы гэта падабалася. Ну, але Сталінград — гэта зусім іншы калянкор, як любіў казаць адзін мясцовы палкоўнік.

З ракой развязалі праблему гэтак: вайсковы спектакль будзе адбывацца на пляцы мітынгаў, кірмашоў ды масавых пагулянак, а зрабілі гэты самы пляц, засыпаўшы частку ракі, якую якраз рэжысёр і намысліў пазначыць на бруку, пафарбаваць сінім колерам і зрабіць

надпіс па-нямецку — з намёкам на штабную трафейную мапу. Гэткая, мабыць, вісела на сцяне ў падземным сховішчы ў штабе Паўлюса. А, можа, ляжала на стале. Вядома, што мапы генеральскія альбо на сцяне вешаюць, альбо раскладаюць на вялізнай шырокай стальніцы з дубовага дрэва. Хутчэй за ўсё з дубовага.

2

Пачатак дзеі: з будаўнічых блокаў, з дрэва, фанеры, са скрынак месцамі пабудаваны савецкі горад з ганаровай назвай, якіператвораны ў крэпасць-герой — паўсюль байніцы, з якіх вытыркаюцца стрэльбы, у вокнах, закладзеных мяхамі з пяском, кулямётныя рулі. За спінамі намаляваная рака. З нямецкага боку ўказальнік: назва “Сталінград” з “нацыянальным каларытам” — арнаментам з нашага сялянскага сцяга. Над галовамі ў паветры крэсліць дымны след сігнальная ракета: пачатак нямецкага наступу на гарадскія пазіцыі.

Напачатку нашыя хаваюцца за мяхамі з пяском, за часовымі мурамі. Немцы жвава крочаць з бадзёрымі спевамі накшталт добра вядомых “Дойчэ зольдатэн, унтэр афіцырэн… Яволя-яволя! Ніхт капітулірэн!” (Штампы савецкага кіно, пазычанага ў нямецкай ваеннай кінахронікі). Першым часам фрыцы таксама амаль “красаўцы-удальцы”. Падмацоўваючы пяхоту, з’яўляюцца некалькі невялікіх танкаў, якія робяць па стрэлу рулькамі туалетнай паперы, як падчас леташняга штурму нашага замка псамі-рыцарамі.

Выбягаюць знянацку маладзёны ў чорных майках і з чорнымі хусткамі на галовах. Ніхто, падобна, не здолеў скеміць што адбываецца. Мы — пагатоў, у сцэнары нічога такога не было. Маладзёны кідаюць у танкі бутэлькі, адная адскочыўшы разбіваецца, на бруку расплываецца пляма, хлопец шпурляе запальнічку, успыхвае амаль не бачнае на сонцы полымя. Адусюль бягуць амонаўцы і пажарныя. Адныя арыштоўваюць, іншыя ліквідуюць агонь. Кактэйль Молатава насамрэч спыняе міні-танкавую навалу.

Зрэшты, гэта не супярэчыць пачатковай драматургічнай задуме: немцы не супраць, канечне, уехаць на брук на белых конях, на плячах чырвонаармейцаў, якія сяк-так адстрэльваючыся хаваюцца ў гарадской забудове. Але тым жа часам фрыцы лічаць, што лепей зрабіць пярэрву перад рашучым штурмам: абед для педантычнага германца перадусім. Вайна вайной, але кармёжка, як заўжды, — паводле раскладу. Мы палім у іхні бок, каб блізка не набліжаліся. Яны

крыху здзіўлена-фанабэрыста спыняюцца і з-за сваіх танкаў разглядаюць нас у цэйсаўскія бінoклі: што за неразумнікі збіраюцца перашкодзіць прыёму ежы і спыніць жалезную махіну вермахта?

3

Адасобіўшыся ад нас сваімі танкамі ды матацыклетамі, немчура робіць на вольным паветры летнюю рэстарацыю: рассаджваецца за столікамі, афіцыянты разносяць талеркі з супам-гемюзэ, сардэлькі з салодкай фрыцаўскай гарчыцай, афіцэрам — крывавы біфштэкс, салатку з разнастайнай гародніны, куфлі з півам, разліваюць па кілішках шнапс. Нашыя аблізваюцца з біноклямі, зайздросцяць тым, каму пашэнціла трапіць у нямецкае войска. Нечакана высвятляецца, што шанцуе часам не толькі фрыцам, але й нашым паўлаўцам: прыязджае на матацыкле старшына з біклагай і разлівае па шклянках усім байцам славутыя “сто наркамаўскіх”. Паходная кухня тым часам дыміцца гарачай грэцкай салдацкай кашай. Падстаўляй кацялкі!

Успамінаецца раптам кіно: “А нямецкія ахвіцэры какаву п’юць...” Афіцыянты тым часам збіраюць са сталоў посуд, устаюць палагаднелыя фрыцы, папраўляюць партупеі з кабурамі, у некага зубачыстка ў роце, у кагосьці падае крэсла, усё па-мірнаму, па-гаштэтаўску ці нават па-хатняму. Каб добра ваяваць, трэба ўперад добра пад’есці! І гэтая ісціна, дарэчы, напачатку апошняй вайны была відавочна неаспрэчнай. Сыты жаўнер найлепшы ваяка. Нямецкая армія мелася зараз у гэтым пераканаць. Мы ўнутрана сцяліся: спектакль спектаклем, а вайна вайной. Праўда, вайна, уціснутая ў кароткі час сцэнічнай дзеі. Усё ў скароце, але змест канцэнтраваны, як сіроп з бутэлькі, які на добры лад і смак трэба значна распусціць у вадзе.

Немцы залазяць у танкі, сядаюць у свае матацыклеты, мосцяцца за кулямётамі, пяхота выстаўляе ўперад кароткія рулі страшэнна вядомых шмайсераў. Гатовая да бою групоўка рушыць на нас, нагадваючы псіхічную атаку з вядомага фільма. Мы адкрываем агонь як шалёныя, сустракацца з фрыцамі пакуль што нікому не хочацца, пра амаль непазбежны бой твар у твар лепей не думаць, і мы палім: тра-та-та-та!

А потым раптам зашчаміла наш кулямёт, абшаснуўся і змоўк, бег-бег і як дрэва сцялі. Карацей, мы не ведаем што рабіць, трасем яго, як чалавека, каб ачуўся (Іван, Іван, не памірай!), а ён, падобна, ляснуў, капцы. Падавіўся стужкай з патронамі, абжэрся набоямі, як жалезным бобам. Добра хоць наш Сталінград — адная гульня, кіно, бо інакш нам

бы не пашэнціла суздром. Праўда, немцы, жартаў не пазнаўшы, параненйшаму бягуць у наш бок і не дабегшы, усё падаюць, падаюць, згодна сцэнару. (Каманды ж не было: адставіць!) Ужо цэлая барыкада, каб хоць на пару крокаў наперад прабегчы, трэба па трупах, выбачайце, па акторах, якія згулялі ў смерць. Вось такая катавасія. Публіка напачатку ў непаразуменні, а потым пачынае штось галёкаць і ўвогуле рагатаць, хаця тэма застаецца нязменнай — “гераічны подзвіг савецкага народа пры абароне Сталінграда”.

Знянацку рэжысёр прымае імправізаванае рашэнне: сярэдзіну пляца ахінае суцэльнай смугой. Дымавая заслона. Публіка пачынае чыхаць, кашляць, некаторыя акторы таксама, якія не паспелі хуценька нацягнуць процігазы. Атрымаўся своеасаблівы антракт, каб нечакана крыху адпачыць і перагрупаваць сілы, а галоўнае, калі дыму меншае, высвятляецца, што плошча вызвалена ад трупаў фрыцаў, якія зноўку апынаюцца ў баявых шыхце.

4

Немцам я сам папрасіўся, пакуль вагаліся іншыя, сказаў, што жыў у ГДР у закрытым гарадку, таму маю уяўленне пра нямецкія норавы не толькі з кіно. Рэжысёр пагадзіўся, тым больш іншых ахвотных напачатку амаль не было. Можа сам рэжысёр і вінаваты, бо сказаў адразу удзельнікам спектакля настроіцца на патрыятычную хвалю. Ну, а тут пагатоў — у тэлебачанні, газетах цэлая кампанія “Сталін гут! Гітлер капут!”, карацей — “Раздавім фашысцкую гадзіну!”

А потым усё памянялася, немцам паабяцалі шнапс выдаць, каб яны ў псіхічную атаку хадзілі больш пераканаўча — з п’янымі воклічамі, з чырвонымі тварамі, з перагарам... Тады нашыя самадзейнікі туды пачалі пераходзіць, як калісьці на Захад імкнуліся ўцячы. А тут на рэпетыцыі я штосьці наконт кулямёта сказаў: як зручней трымаць ці штось такое. Рэжысёр заўважыў. Ну, давялося сазнацца, што у вайсковым білеце ў мяне запісана “кулямётчык”, хаця кулямёта я тады не бачыў на вочы. Але рэжысёр змусіў яшчэ расказаць, што на вайсковай катэдры я вывучыў усе кулямёты, якія мела родная Савецкая армія, а тэарэтычна — таксама і натаўскія, бо нас рыхтавалі якраз з натаўцамі ваяваць, асабліва з бундэсверам: усё праходзілі — узбраенне, яго колькасць, штатны расклад, нават колькі каго было ў медсанбаце іхнім, не кажучы пра танкавы ці супрацьпаветраны баты.

Мне не хацелася гойсаць тудой-сюдой нібы які ўласавец, а ў маім разе — нямецкі антыфашыст, пачаў адмаўляцца, сказаў, што “кулямётчыка” мне ў білеце ваенным потым памянялі — спачатку на камандзіра мотастралковага ўзвода, затым на адказнага сакратара “Баявога сцяга”. Не дапамагло. У цябе станоўчае аблічча абаронцы радзімы, ты не падобны да ворага, прынамсі мне так хочацца лічыць… Рэжысёр быў няўмольным.

5

Вайна паступова ператвараецца ў пазіцыйную: яны лезуць, а мы іх не пушчаем, а самі ні кроку назад, памятаем пра “расстрэльны загад”, пра тых, хто ззаду нас з кулямётамі, прынамсі на сапраўднай вайне. (Пацікавіцца б у такога ветэрана: колькі фрыцаў забіў? Ніводнага. А ў людзей хоць страляў? Яшчэ як!) Памятаць спінай, патыліцай, скурай сваёй, што ззаду сустракаюць свінцом аднолькава горача, як і спераду, адно ззаду ты цалкам безабаронны, нават калі выпадкова спачатку пазбегнеш кулі сваіх. “Назад ні кроку! Ззаду Волга! Для панікёраў і баязліўцаў — расстрэл на месцы!”

Наш Сталінград, шчыра кажучы, трымаецца на абароне дамоў Паўлава, а таксама Іванова, Пятрова і Сідарава. Чатыры разваліны, накшталт цытадэляў вядомай крэпасці-героя. Фрыцы здзіўляюцца, але не трацяць зухавасці: маўляў, нядоўга вам засталося адбівацца, вашая справа безнадзейная. Яны нават спрабуюць псіхалагічна ўплываць на нас: навідавоку стаўляюць самавар, п’юць гарбату з абаранкамі. Патэфон раве цыганачкай, вачмі чорнымі. Палагаднелыя фрыцы зачынаюць спеў: “Вольга-Вольга, мутэр-Вольга, Вольга-Вольга, русіш флюс!” Нашыя, паводле сцэнару, сціскаюць кулакі, напружваюць жаўлакі на твары і біцэпсы, у каго яны акрэсленыя. Не дапамагае. “Кацьюша! Кацьюша!” — ляціць з другога боку франтавой лініі, дзе ўжо танчаць, імітуючы барыню-сударыню, жаўнер з жаўнерам праз адсутнасць дзяўчат і жанчынак.

Нашыя выцягваюць свой контрагітацыйны рупар — фу-фу — прачышчаюць лёгкія і з паперкі зачынаюць умаўляць фрыцаў пакідаць стрэльбы і здацца нам у палон. Фрыцам абяцаюць за гэта “ніхт шысэн”. Агітацыя на іх чамусьці зусім не ўплывае, яны працягваюць сваё “чаяпіцце ў Мыцішчах” — паводле вядомай рэпрадукцыі, але кідаюць танцы і спевы, бо пад брахлівы голас з рупару не павесялішся.

Прапагандысцкая вайна набывае новай моцы. Спачатку чуцён гук прапелера, неўзабаве амаль у брыючым лёце па-над пляцам узнікае

самалёцік, пілот у левае і ў правае акенцы выкідае пачкі паперын, напэўна — у кожны бок іншага зместу. Пасьля спектакля выявілася, што антынямецкія ўлёткі —уляцелі на дах гмаху ўладаў, дзе праціралі нагавіцы нашыя службы рэжыму ў спробах дагнаць 1984 год — згодна загаду зверху. Тыя, якія — “Гітлер —капут!” трапілі і на шэрагі амонаўцаў часткова. “Рус, здавайса!” пасыпаліся на пляц, на галовы публікі. “Сталін гут! Гітлер капут!” — урачыста абвяшчае пляцу вельмі-вельмі знаёмы радыёголас Левітана.

Немцы ў адказ падлучаюць на поўную гучнасць свой радыёфункен: “Донэр вэтэр! Фак! Фак! Дойчланд, Дойчланд — юбэр алес!” “Мы вам пакажам кузькіну маць! Паўлаўцы не здаюцца! — з развалінаў у рупары і проста —нязладжаным хорам: “Сталінградцы ўмеюць драцца! Зарубіце сабе на носе!” — памятаючы, што трэба падбіраць словы, пазбягаючы нецэнзурнай лаянкі, каб давесці нашую маральную перавагу над фрыцамі, якія прыйшлі ў чужую зямлю са сваім мячом, ад якога й загінуць, аб чым няцяжка даўмецца.

6

Над пляцам гучыць Левітан: ад савецкага інфармбюро, — як голас па-за кадрам. Цалкам сакрэтна... І далей: пра гэта ведала толькі вузкае кола абмежаваных людзей. Гітлер калі даведаўся, ірваў на сабе рэшткі валасоў і нават збіраўся згаліць вусы, каб зноўку адгадаваць, калі захопіць нарэшце Сталінград. Кукрыніксы намалявалі тады карыкатуру: Гітлер у выглядзе валачашчага сабакі перад кавалкам люстэрка робіць марафет: падстрыгае вусы іржавымі нажніцамі... Чэрчыль са Сталіным сустрэліся за Маўзалеем.

Устаўная сцэна: да Сталіна прыляцеў Чэрчыль, занепакоены становішчам пад Сталінградам. Яны здароўкаюцца, Сталін знакамітым жэстам, якому немагчыма не падпарадкавацца, запрашае госця да карты, якая вісіць на стойцы нібы ў кабінеце геаграфіі. Яны моўчкі глядзяць на схематычны тэатр баявых дзеянняў: справы швах! Сталін нібы школьніку спрабуе штосьці растлумачыць брытанскаму прэм’еру, карыстаючыся сваёй люлькай быццам алоўкам, але атрымліваецца не дужа пераканаўча, што разумеюць абодва. Нарэшце Сталін крыху найграна вымаўляе: і ўсё ж-ткі мы іх спынім, ужо спынілі і не зробім ні кроку назад, па вадзе мы яшчэ хадзіць не навучыліся, таварыш Чэрчыль, “ха-ха” —нябачна ў вусы.

Атмасфера, гнятлівая напачатку, нібы абнадзеена вясёлкай, і госці сядаюць за шырокі стол падсілкавацца і працягнуць гутарку,

якая дагэтуль не штукавалася, абмеркаваць далей становішча на франтах, праблемы ды найбліжэйшыя планы антыкааліцыі і некаторыя дзяржаўныя сакрэты. Пляцу абвяшчаюць радыёголасам Левітана, што два хаўруснікі, і гэта вядомы факт, закончылі перамовы спаборніцтвам: хто вып'е больш гарэлкі? Канечне, вялізны азызлы Чэрчыль спадзяваўся, што на гіпапатамскую вагу яго тулава алкаголю спатрэбіцца крыху болей, чым на нятлустае сталінскае, каб быць суцэльна "дранк", і дзякуючы гэтаму перамагчы. Але двубой славутай "цыгары" і яшчэ больш славутай "люлькі", як абвяшчае пляцу нібы-Левітан, скончыўся тым, што Чэрчыля пад пахі выцягнулі з-за стала памочнікі, тым часам як Сталін, загартаваны начнымі баляваннямі з паплечнікамі, быў папросту "крыху нецвярозы".

7

Колькі ні старайся не ўзгадваць, адцягваць у думках пачатак надыходу самай непрыемнай пары года, усё здараецца аднойчы раптоўна як балючы град на галаву: зімовая сцюжа, абавязковы снег, непазбежныя маразы, якія амаль штодня мацнеюць, калі адмаўляешся верыць шэрым ранкам лічбам тэрмометра. Ты прачынаешся аднойчы праз тое, што ў сне дранцвеюць рукі і ногі, што твар нібы рэпаецца, ад шэрані на шчаціннi, аснежаных валасах, не схаваных у шапцы. Злавесна няўмольная зіма, пагатоў зіма руская, пра якую мыслілася ў маленстве, калі табе чыталі казачку пра снежную каралеву. Бязлітасная зіма ў голым бязмежным стэпе ад далягляду да далягляду. Дзе нават Каляды ўпершыню не радуюць.

Каляды, Новы год, пасылачкі з роднага дому ці проста з бацькаўшчыны: швэдар ручнога вырабу, цёплыя рукавіцы і шкарпэткі, шакалад і кава ад камандавання ды ўзнагароды — крыжы, медалі, стужкі — адзнакі за раненне. Карп, гусь? Тут нават ёлка — экзотыка, а не тое што святочныя гусь ці карп — залежна ад рэлігійнай арыентацыі жаўнера. Думкі-успаміны пра святочнага гуся на стале, пра сальтысону і вяндліну. Адно феерверкаў, ракет ды іншай піратэхнікі, якую страшэнна любяць у свята немцы выкарыстаць, стрэліць у начное зорнае неба — ажно занадта.

У паветры церусіцца, сыпецца мацней, падае на галовы, плечы, на нашую зброю, на цэлы наш міні-Сталінград. Наш снег — гэта нешта белае штучнае, здробнены пенапласт ці што, зусім не шархоткі, мягкі — нават свой снег лагодны для цябе, для паўлаўца, для сталінградскага абаронцы. Немцаў пажарнікі паліваюць з бранспойта шумавіннем —

яны яшчэ больш карыкатурны выгляд набываюць. Снегаробную гармату з горналыжнай мясціны каля сталіцы пазычаць адмовіліся, задорага.

8

У спектаклі час пераходзіць на цёплую вопратку альбо, калі па-вайсковаму, на зімовую форму адзення, дакладней апраткі. Робіцца антракт, мы і фрыцы, кожныя на сваім баку фронта, па чарзе заходзім у намёт-гардэроб.

З намёта выпаўзае ў белай шаце снайпер, паўзе і “нырцуе” у нядзейны фантан з піянеркай. Снайпер назірае за нямецкай пазіцыяй. Ён заўважае, як генерал з дзеншчыкам кіруюць да прыбіральні-шпакоўні. Генерал зачыняецца, жаўнер чакае яго звонку, у дзвярах робіцца шчыліна і жаўнер суне паперку (як у “Маладой гвардыі”). Снайпер цаляе ў яго, жаўнер падае мёртва. Расчыняюцца раптоўна дзверы, снайпер цаляе, генерал сядае мерцвяком, закрываючы твар газецінай. (Дарэчы, атрымліваецца крыху ў стылі “Крымінальнага чытва”).

Да фантана адусюль паўзуць раззлаваныя за свайго генерала фрыцы, яны кідаюцца на снайпера, які паспявае застрэліць яшчэ двух-трох. Схопленага героя распранаюць, прывязваюць да слупа і на марозе пачынаюць абліваць сцюдзёнай вадою, якую замяняе шум з бранспойта.

Нечакана прылятае на матацыклеце пасыльны, высвятляецца, што гэта сын Сталіна, і разумней было б паспрабаваць абмяняць яго на якога-небудзь важнага палоннага. Але запозна: снайпер нагадвае неахайна перабінтаваную мумію, назад яго не адмарозіш і немцы хочуць застрашыць чырвоных яго прыкладам, абвяшчаючы праз мегафон: “Рус! Так будзет з каждым, хто будзе цэліцца і страляць у нямецкіх зольдатэн! Рус, здавайся! Мы табе дадзім балалайку, Машку і шнапс!”

9

Здалёк чутно знаёмае тарахценне. На пляц праз вусце для калонаў дэманстрантаў выкіроўваюць танкі — але ж!—зробленыя відавочна з трактараў. Цалкам праўдзіва, калі ўлічыць, што жанчын-трактарыстак з калгасаў забралі да войска, калі немцы спалілі столькі танкаў, што стала не хапаць мужчын. (Ізраільская армія да гэтага дайшла толькі значна пазней, праўда ўжо танкамі кіравалі не

трактарысткі, цалкам жаночыя экіпажы са студэнтак, афіцыянтак, сцюардэс). Першыя стрэлы рулькамі — пералёт — у амонаўскія шэрагі, якія былі напагатове, каб дапамагчы паўлаўцам, калі раптам нечакана пачнуць перамагаць паўлюсаўцы.

Гледачы захоплены дзеяй, акторы — паглыбіліся ў паўлаўцаў і паўлюсаўцаў, у свае жаўнерскія мундзіры і шынэлкі, вялікая моц мастацтва паглынула ўсіх. І на пляц ў гэтую хвілю зарульвае зухава і досыць нахабна, бо парушаючы сваім недарэчным выглядам, міліцэйскі “казёл”. “Таварышы! Мы шукаем танк, — праз гучнік на даху міліцыянт абвяшчае аб мэце парушэння сцэнару. — Наш танк зусім маленькі. Скрадзены танк, яго скралі на Буйніцкім поле, сказалі, што забіраюць на здымкі кінакарціны ў нашым горадзе. Я — старэйшы ўпаўнаважаны па асабліва важных справах маёр Кулічкоў. Папрашу без панікі”.

“Маёр каго? — ляціць раздражнёвы рэжысёр, яўна маючы на ўвазе вядомую показку, дзе “маёр Казлоў”. — Дзе ты бачыў тут кіно? Гэта вулічны спектакль, спектакль. З дазволу ўладаў! Яны самі прасілі міні-Сталінград! Якія танкі скралі? Хто скраў?! Тут няма ніякіх танкаў! Ты што, не бачыш?!”

“Вельмі рэдкі экземпляр! Нямецкі танк пачатку Вялікай айчыннай вайны. Нідзе няма такіх! Сто тысяч каштуе!”

“Пайшоў ты са сваім танкам! Я міліцыю, я на цябе здрукамі нацкую! У мяне з друкамі сёння, як сабак бадзячых!”

10

У намёце з чырвоным крыжам — пераапрананне з цягам дзеі, там працуюць грымёры, касцюмеры. Перад палонам фрыцы выходзяць адтуль пабітыя, пашпэтнелыя, у бінтах, на мыліцах. Карацей, “не лечаць, а калечаць”, як рэагавала на змены публіка. Сталінградская зіма далася фрыцам у знакі. Гангрэна. Абмаражэнне. Цынга. Прастуда, ангіна, грып, скула, герпіс —лухта, дзіцячыя “кохлікі-адзёры”. Як напісаў пазней чылійскі паэт: “Ззяе сувора бляск таго далёкага снегу, у якім загрузлі лапы захопнікаў”.

Калона палонных мае надзвычай экзатычны выгляд: не войска, жабрачае шэсце. Генералы, якія выходзяць з падвала, як у вядомай кінахроніцы, яшчэ стараюцца трымаць марку: фуражкі, кукарды, крыжы, манаклі. А сярод іх, крочыць наперадзе сам фельдмаршал Паўлюс, які не мог уцячы паветраным шляхам, як яму прапаноўвалі некаторыя, і застаўся са сваёй змерзлай галоднай арміяй. Усе

ўдзельнікі дзеі ўжо даўно адчуваюць, кожны паасобку і ўсе разам, уплыў савецкага кіно, пра Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанку забыліся машынальна. Усіх апанавала, захапіла “вялікая сіла кінамастацтва”.

Міні-сцэна: напышлівы спачатку фюрэр у адказ на загад аб фельдмаршальскім званні для Паўлюса атрымлівае дэпешу аб паразе пад Сталінградам. Фюрэр усведамляе, што адно дапамог Сталіну атрымаць яшчэ больш каштоўнага палонніка. Фельдмаршалаў ці хаця б маршалаў дагэтуль ніхто не браў у палон! І вось фюрэр ужо раз’ятраны, ён робіцца зусім карыкатурны, у стылі Чарлі Чапліна шалее: чаму ён не застрэліўся, чаму здаўся ў палон, чаму, чаму? Найн, найн!!! Донэр вэтэр! Дойчэ швайн! Я б задушыў яго ўласнымі рукамі ці лепей зацягнуў бы пятлю на яго шыі, выканаў бы працу ката, каб заматляўся на шыбеніцы. Ён жа фельдмаршал! Уласнымі рукамі — у зашморгу! Гэта быў проста падарунак Сталіну, прыз за Сталінградскую бітву! Уяўляю як ён парагатаў з мяне: гэты Адольф зусім з глузду з’ехаў, уяўляю!

11

Сталін прылятае ў Сталінград, чаго насамрэч не было, як і ў першым каляровым “Захопе Бэрліна”, дзе Сталін сыходзіць па трапу зялёнага “Лі-2”, чаго таксама не было і адбылося толькі ў кіно. Не было, бо ён баяўся лётаць самалётамі, баяўся, што саб’юць, ці не даляціць, разаб’ецца. Такім чынам, ён сыходзіць, як Бог з неба, а яго вітае вайсковы натоўп, что не магло адбыцца ў рэчаіснасці, больш за тое, яго вітаюць заходнія вязні, вызваленыя з канцлагераў, цэлы інтэрнацыянал, які захоплены, апантаны правадыром, і не хавае эмоцый.

У Сталінградзе няма вызваленых з нямецкіх канцлагераў, але затое ёсць палонныя, міні-інтэрнацыянал: разам з немцамі іхнія хаўруснікі, цёплалюбныя кветкі ў снежнай пустэльні — гішпанцы чамусьці з “блакітнай дывізіі”, італьянцы з брыгады імя Юлія Цэзара, мадзьяры — полк імя караля гунаў Аціла, нейкія румыны — звонку недарэкі ці не большыя за саміх немцаў. Збор жабракоў, валацугаў, хворых, напалову жывых, галодных, змерзлых, запалоханых, папросту зашуганых, здэмаралізаваных, нават зусім знішчаных маральна. Яшчэ нядаўна — зухавыя жаўнеры, бадзёрыя, вясёлыя, аптымістычныя, адным словам — упэўненыя ў сабе пераможцы…

Кульмінацыя нашай міні-Сталінградскай бітвы. Сцэна падаравання мяча нашаму генералісімусу. Груваскі няўклюдны Чэрчыль дыхавічна дыбае да Сталіна-пераможцы, які чакае на кані. Рэжысёрская задума: каб той цягнуўся на дыбачках, а гэты — зверху браў. На мячы, як абвяшчае Левітан, напісана: “Геніяльнаму генералісімусу-пераможцу ад хаўруснікаў і памочнікаў”. У дадатак Чэрчыль гаворыць прамову: “Ты прыняў Расею з плугом, з сахой і ў лапцях, а пакінуў з атамнай бомбай за пазухай і ў гумовых ботах”.

Раптоўна на пляцы з’яўляецца працэсія, гэта частка гледачоў пенсіййнага веку, яны кідаюцца да Сталіна: “Мы — ветэраны ВКПб, мы за вас, таварыш Сталін, за нашага правадыра гатовыя у агонь і ваду, мы патрабуем, мы подпісы сабралі, подпісы, каб неадкладна пераназваць назад Валгаград у Сталінград!”

Урачыстая сцэна сапсавана, але з драматургічнага гледзішча набыла жыццёвай моцы. “Харашо, таварышы, мы разгледзем вашую прапанову на палітбюро. Думаю, што задаволім яе. Гістарычная справядлівасць сапраўды павінна трыумфаваць”. “Ура таварышу Сталіну! Ура! За родзіну, за Сталіна!” Пенсіянераў-патрыётаў зноўку вяртаюць у шэрагі публікі. Пераможца бярэ меч, дзякуючы зверху Чэрчылю. Забыўшыся, спрабуе працягнуць яму руку, але не дацягваецца, выкрыўшы пры гэтым, што меч бадай бутафорскі, лёгкі.

Гэтай няўважнасці хапае, каб конь зрабіўся брыкастым і генералісімус апынуўся на бруку. Падбеглі санітары з насілкамі, засірэніла дзесь побач хуткая дапамога. Рэжысёр падлучыў Левітана, які сваім дырэктыўным голасам пачаў пералічваць нямецкія страты пад Сталінградам.

Тым часам з’яўляецца новы Сталін, ён трымае меч і не збіраецца гаманіць з Чэрчылем, гэта пройдзены этап. У белай фуражцы з шыкоўнай кукардай, у белым кіцелі з узнагародамі, ён выязджае насярэдзіну, спыняецца нібы разгублены. Конь раптам скоча на амонаўцаў, узнімаецца дыбкі, кідаецца ўбок і праз уваход на пляц для калонаў дэманстрантаў знікае з вершнікам на карку.

Іх чакаюць хвілін дзесяць мінімум, Левітан стаміўся пералічваць страты немцаў. Потым з’яўляецца трэці па ліку Сталін. Ён ужо без каня, рэжысёр, напэўна, вырашыў болей не рызыкаваць. Хаця й каня больш магло не быць. Зрэшты, і мяча няма, другі Сталін, трэба аддаць належнае, зброі з рук не выпусціў, дзякуючы, што была бутафорскай насамрэч.

Пасля вымушанай пярэрвы дзея пасоўваецца наперад. Генералісімус ідзе дробным крочкам, імітуючы кульгавую хаду Сталіна, набліжаецца да новай дзейнай асобы жаночага полу. Ён кленчыць на адное калена, цалуе “калашнікава”, які зняў з шыі, устае, аберуч перадае яго, выцягнуўшы рукі, Радзіме-Маці (грудастай кабеціне — накшталт партыйна-урадавай спявачкі Нямыкінай), а сам узыходзіць на пастамент, накшталт як для чэмпіёнаў. Чэрчыля ставяць на прыступку ніжэй, а дзядзечку Сэма ў цыліндры — на трэцяе месца. Без іх было б нецікава, не той цымус.

12

Гэта не сцэна насамрэч, зашмаргнуць заслонай “трох асілкаў” не выпадае. А пагатоў — абліваецца з вялізнай пляшкі шампанскага, як робяць на чэмпіёнскім пастаменце аўтагоншчыкі. Таму Сталіну даюць мікрафон, каб паставіць кропку: “Дзякуючы бальшавікам, мы маем такія адлегласці, якія не сніліся палкаводцам да фельдмаршала Паўлюса. Думаю, што нават Напалеон не дайшоў бы да Волгі, каб пераправіцца цераз яе…”

Нечакана з натоўпу выбягае якісьці вэтэран. Ён аблівае сабе галаву з бутэлькі, спрабуе падпаліць, але акт самаспалення не атрымліваецца, як потым высвятляе следства — праз недахоп градусаў у падробнай гарэлцы. А пакуль ламаюцца запалкі, да самагубцы кінуліся ратаваць і нямецкія танкісты з вогнетушыльнікам, і рускія пехацінцы з вядром вады альбо — гарбаты? Ці, можа, наркамаўскіх ста грамаў? Не ведаю. Але наш міні-Сталінград сканчаецца ўсё ж “хэпі эндам”.

***2005***

## БІФШТЭКС З КРЫВЁЙ

*Апавяданне пра кнігабудаўніцтва*

Перш раздача кніг, дармовага рамана. Цікаўныя гарталі, чакаючы, калі пачнецца сход. Даволі “смажаны” змест, але нясвежы, аўтар смакаваў, як амерыканскі галава прымушаў танчыць канкан у негліжэ каханку, кабарэтную брадвейскую пяюху і танцоўшчыцу. Дзярждэпартаменту гэта не спадабалася. Народны абраннік круціўся як уюн на патэльні, мусіў паабяцаць, што больш не будзе ганьбіць Маці-Амерыку… Але, як той казаў, падоранаму раману ў зубы не зазіраюць, ды пагатоў тут і званочак загучаў патрабавальна ў руках старшыні.

Ганаровае месца на сцэне займаў чамусьці бронецягнік, які прамоўцы ўпарта называлі “браняпоездам”. За спінамі прэзідыума сшыхаваўся чырвонасцяжны хор, прапаршчыкі ды сяржанты, прачысціўшы глонаўкі, бадзёра і нейк пагрозліва заспявалі “Мы мірныя людзі, ды наш браняпоезд стаіць на запасным пуці”, робячы ненатуральны націск на другім складзе перадапошняга слова. Прэзідыум падпяваў сяк-так седзеячы, зала слухала.

Бронецягнік новай літарцелі падаравала камандаванне чыгуначных войскаў. Пісьменнікі папляскалі.

Мітусня, сумбур, адчувалася, што дзея рыхтавалася спехам. Штучна бадзёрыя піянеры з барабанамі, боханы, каўбасныя колцы ды іншыя падарункі працоўных, якія зачакаліся сапраўднай народнай кнігі. З рога ўсяго многа! Хакейная клюшка, лыжы, крапавы берэт, карціна “Горкі на трыбуне 1-га з’езда пралятарскіх пісьменнікаў”, рыдлёўка, мантыі трыумвірату накшталт судовых ці пракурорскіх, хаця пасавалі б і дактарам honoris causa. Была яшчэ дубальтоўка ад паляўнічых, мабыць павінна была страляць на сцяне самачынна.

Акторы-чытальнікі, не чакаючы цішыні, выгукалі са сцэны пафасна сказы алегарычнага тэксту пра цытадэль з вежамі са слановай косці, з якой наступаючых асыпаюць хмарамі ядраў, не даючы наблізіцца да элітарнай прафесіі шырокім пішучым масам. Але: калі вораг не здаецца, яго знішчаюць!!!

— Вось таварышы пісьменнікі, — ажыў прэзідыум мікрафонам старшыні, — смяецца той, хто смяецца апошнім, ці плача, скажам. Я хацеў бы тут сказаць пра ў пэўным сэнсе ганебны чын аўтара “Самсона Самасуя”. Ён вось напісаў працяг сваёй кніжкі, як герой

трапляе з вёскі ў горад, пачынае дзейнічаць на больш высокім узроўні, выяўляць свае адмоўныя якасці, рабіць брыдкія рэчы. І сваім баязліўствам аўтар здзейсніў учынак, якім пазбавіў нашую літаратуру цікавага твора, мастацкага дакумента эпохі! Хіба выратавала яго, што спаліў рукапіс? Не! Ён забыўся на падставовы прынцып: рукапісы не гараць! Галоўнае — твор, астатняе — потым! Ты яго напісаў і ён табе ўжо не належыць, ён належыць народу, гісторыі! Не ты пішаш, а звышняя сіла тваёй рукой робіць тое, дзеля чаго ты з'явіўся на зямлі. Ты толькі інструмент, калі хочаце, — тая нават чароўная флейта, але не сама музыка.

Хрэстаматыйны прыклад: Гогаль спаліў свой рукапіс, і што — лепей яму стала? З глузду з'ехаў! Гэта пакаранне звыш. Тое самае з Самасуем. Праз сваю баязлівасць, маладушша, панічны страх, можна сказаць, аўтар знішчыў тое, што немагчыма аднавіць. Яго і так расстралялі б, але каб не агонь, не запалкі, не грубка, нашыя доблесныя органы захавалі б як мае быць увесь твор, і сёння мы б яго надрукавалі і маглі б усім паказаць, што мы таксама ў шуфляду пісалі, а не толькі: “Партыя сказала нада, камсамол атвеціў ёсць!”

— Але толькі Гогаль спаліў станоўчы твор, баяўся, што саладжавы занадта, а пра Самасуя, наадварот, ён страшыўся, што празмерна адмоўны, што Бэндэ нападзе, затопча. Крытыкі ўсе баяліся як агню, пра расстрэлы яшчэ не здагадваліся. А так — разаб'юць спачатку ў газеце ці часопісе, потым пачнуць прапясочваць на сходах, на партбюро, каму гэта спадабаецца, каб перцу з імберцам, каб соль на раны?

— Лес сякуць, трэскі ляцяць.

— Але трэскамі нікому не хацелася.

— Ясна: дрывасекам лепей заўжды.

— Гэта яшчэ як сказаць: калі на лесапавал трапіш, сякеру ўзненавідзіш.

— Давайце, калегі, у канструктыўнае рэчышча вернемся, пра літаратуру, пра кнігі размаўляць будзем, пра станоўчага героя, а не пра лесапавал. Ніхто нікога на лесанарыхтоўкі пакуль не пасылае: пішы, працуй, не палітыканствуй, дапамагай народу дасягнуць вынікаў 84-га года па ўсіх паказчыках. Тады, між іншым, якія тыражы былі? Не сённяшнія слёзы, толькі што папера брыдкая, але ганарары цэка не шкадуючы зацвярджала. Партыя цаніла пісьменніка, трэба вярнуць прэстыж нашай прафесіі інжынераў

чалавечых душаў. Бо гэтыя палітыканы з інжынераў зрабіліся паклёпнікамі, шкоднікамі, як на шахцінскім працэсе калісьці.

— “Няма таго, што раньш было”, як сказаў паэт.

— Але цяпер усё па нашых сілах — і назад вярнуцца, дапісаць недапісанае, штосьці перапрацаваць, пералапаціць, карацей зрабіць рэвізію ў літаратурным цэху, у кніжнай гаспадарцы. Новае — добра забытае старое. А наконт “шукаць учорашняга дня” — гэта недарэчны жарт, глупота, яны ж самі рэдакцыйныя партфелі яшчэ нядаўна напаўнялі забытымі, запыленымі опусамі, узятымі з паліц. Выцягнутымі з архіваў органаў, са спецхранаў, якія яны гэтак не любілі. Каб не спецхраны, яны б лапу смакталі. “Нет худа без дабра”. Не трэба на суку седзячы яго пілаваць.

— “Ты не лайся дзядзя пры савецкай уладзе!”

— Вось менавіта, а то ж усё ачарняць, а ў нас у мінулым не ўсё кепска было: паперу ў літфондзе выдавалі, харчовыя талоны, машынкі без нацэнкі, дзіркакол мой прыяцель атрымаў.

— Мы тут падбілі бабкі напярэдадні — хто якія плануе тэмы для раманаў, каб стварыць накшталт бальзакаўскай “чалавечай камедыі”, адно ў нас будзе хутчэй “аптымістычная трагедыя”, толькі інакш варта назваць, каб не паўтарацца. Гэта ж яшчэ Чорны, класік наш марыў, склаў план: адлюстраваць у раманах асноўныя падзеі, векапомныя, што ў літаратуры засталіся белымі плямамі, тэрай інкогнітай. Раманную эпапею стварыць. Вось у мяне папярэдні спіс прыблізны: “Чырвоны тэрор” — раман пра рамантыку змагання за рэвалюцыйныя ідэалы, можа быць сам вазьмуся нават, назва мне падабаецца, сам прыдумаў. Далей: “Жалезны кулак” — пра разгром бацькі Балаховіча. Чырвонаармейскі раман “Кірзавыя боты”.

— Дайце мне, мне тэма блізкая, як кожны чырвонаармеец марыў замест чаравікаў з абмоткамі пра чобаты... І пажадана пра трафейныя, афіцэрскія.

— Добра-добра, заяўкі збярэм пасля устаноўчага сходу. Прашу ўвагі, буду працягваць. Так, наступны ў нас якраз “Шабельны паход на Варшаву”, выйгрышная тэма, можам паказаць праціўнікам ідэалагічным, што мы не лыкам шытыя, таксама паказыталі панам нервы.

— Я думаю, што нам трэба назвацца “таварыствам” ад слова “таварыш”, каб не было як у іх — “згуртаванне”. Някепскае яшчэ слова “саюз”, але яго цяпер забаронена ўжываць, саюз можа быць

толькі адзін — міждзяржаўны, як адзін-адзіны можа быць галоўнакамандуючы, вы самі ведаеце не горш за мяне.

— Гэта крыху не на тэму абмеркавання нашага.

— Я скончу, выбачайце: яны, канечне, будуць называць нас якім-небудзь “саюзам мяча і арала”, арцеллю саматужнікаў і графаманаў, “рогамі і капытамі”, хай. Як той казаў: няхай гімн гаўно, але слухаць будзеце стоячы. Я ўсё сказаў.

— Ну, мы не такое ўжо гаўно, не трэба перабольшваць, самапрыніжацца. А што мы зараз будзем выдаваць свае тамы, друкавацца, а яны будуць лапу смактаць, гэта так, гэта ў яблычак. Хай цяпер сваім самвыдавецтвам займаюцца, ад рукі перапісваюць, на машынцы пад капірку… А тэмаў у нас, прабачце, дачарта, надоўга хопіць. Далей, пасля “Шабельнага паходу”, — раман-эпапея “Чэка” — у падвойным сэнсе — пра бясстрашнага накшталт Джэймса Бонда, але нашага, собскага. Ну й “чэка” у сэнсе таго, што ў гранаце высмыкаць трэба, ха-ха.

— Гэта вельмі сур’ёзная тэма, тут мала дабраахвотнікаў, тут трэба каб камісія вырашала.

— Можа нават і ўрадавая, бо я пакуль не сказаў, хацеў пры канцы абрадаваць: на зацверджаныя дзяржпланам раманы будзе афіцыйны заказ з ганарарам і друкам, як у старыя добрыя часы.

— Ур-ра!!!

— А вы як думалі: родная ўлада заўжды заахвоціць, не дасі пакрыўдзіць, дзякуй партыі ды ўраду, як раней казалі. Раскрыю сакрэт: існуе думка зрабіць, калі створымся, нашую творчую арганізацыю філіяй міністэрства друкаванага слова, з пасадамі і акладамі. Можа нават званні зробяць, але без капітанаў і маёраў, а накшталт як у пракуратуры, у ВОХРы.

— А якія яшчэ тэмы? Я таксама на чаргу запісацца не супраць.

— Але хачу вас папярэдзіць, што будуць улічаны заслугі, памер таленту: выпусціў ты, скажам, пяць тамоў, напісаў тры раманы, маеш больш шанцаў за таго, хто пакуль яшчэ не паспеў сябе зарэкамендаваць. Ахвоты мала, трэба заслужыць. Хаця таленты шукаць маладыя конча будзем. “Старыкам у нас пачот, маладым у нас дарога”… А наконт тэмаў — калі ласка: “Караючы меч рэвалюцыі” — сага пра змаганне з унутранымі ворагамі і знешнімі. “СЛОН” — пра ворагаў народу, знаеце як расшыфороўваецца? “Савецкі лягер особага (паводле тагачаснага правапісу) назначэння”, усе ведаюць што гэта за санаторый быў для папоў і кулакоў, для сабатажнікаў і

гнілой інтэлігенцыі. Там у іх газета выходзіла “Перакоўка”, таксама ў якасці назвы — як запасны варыянт можа быць.

— А ці ёсць што-небудзь менш баявое, выкрывальніцкае, спакайнейшае?

— “Саўнаркам” падыйдзе?

— А паканкрэтней?

— Эпапея пра мірнае будаўніцтва: “Асінбуд”, торфабрыкетнае прадпрыемства, запалкавая фабрыка, першая электрастанцыя на дровах і торфе, “над ракой Арэсай” і гэтак далей. Паказаць саўнаркам як вялікі горад у горадзе, як асобны арганізм, мэта якога — праца не на сябе, а на ўсю краіну, на ўвесь народ. Вось што такое “Саўнаркам”! Ёсць прыклады ў літаратуры: “Катлаван”, “Жалезабетон”, “Чорная металургія”, але там пра асобныя наркаматы, а тут — агулам. Аўтары гераічна выціснулі з сябе ўсе сокі, увесь талент да кроплі. Праўда, іх усё роўна расстралялі потым, што зробіш, але нашая задача — працягваць іхнюю самаадданую працу. Цяпер калі расстрэльваць, дык не нас будуць, у нас алібі…

— У мяне маленькае пытанне: больш сучасныя тэмы ёсць у спісе?

— “Пайка хлеба, палітая потам” альбо на іншы густ: “Хлеб — усяму галава”, пра нашых працаўнікоў палеткаў, пра герояў бітвы за ўраджай, пра дажынкі.

— А калі хлеб не чапаць?

— “Гідра аранжавай рэвалюцыі” — самая, можна сказаць, свежая, свяжэйшай не бывае.

— Дайце мне! Я ім пакажу! А то: мы цябе прымаць не будзем да сябе, ты не дэмакрат, ты — за дыктатуру. Я?! Пра літаратуру трэба думаць, пра Яе Вялікасць Літаратуру! А то пачнуць як калісьці біяграфію вывучаць: ці апыналіся сваякі на акупаванай тэрыторыі, ці былі сасланыя, расстраляныя? Ці п’еш, колькі і чаго? А што я на свае капейкі магу піць? Гэта яны калісьці за ганарар маглі машыну купіць, цяпер нашая чарга, цяпер мы! Я пра гэтую гадзіну аранжавую трылогію нашрайбаю, толькі дайце!

— Выдатна! Пачнем складаць спіс аўтараў ці, можа нават, суаўтараў, будзем бачыць. Можна нават ствараць брыгады, як Ільф & Пятроў. А наконт паходжання слушна: не трэба саромецца свайго, так званага рабоча-сялянскага, бо апошнім часам пачалі выцягваць са склепаў чаго раней баяліся як агню, што дзед быў кулаком ці ў балахоўцах служыў ці зусім у паліцаях. Некаторыя сталі вышукваць

шляхецкага паходжання, засохлых каранёў. А калі ў НКВД быў, дык па-іхняму ўжо і не чалавек, кат, крывасмок! А хто тады яшчэ напісаў: “Слава нашаму Яжову, што з-пад Ленінграда!” — іхні! Расстралялі Яжова, а аўтару вершыка, між іншым, пашанцавала, адтрубіў дваццаць-пятку і дахаты, на літаратурную работу з глыбокім веданнем жыцця вярнуўся. Напісаў нібы які Дастаеўскі свой “Мёртвы дом”, літаратура толькі выйграла!

— Так, а наконт Дастаеўскага я таксама думаў, калі мы пра аўтараў узгадвалі, пра расстраляных, за якіх дапісваць будзем, работу дараблЯць іхнюю. Калі баішся — не пішы, а калі не, калі вырашыў даказаць, што ты не чарвяк, што таксама права маеш, дык не згінайся потым у падкову, я так думаю.

— Добра, улічым. Канечне, трэба зважаць на найлепшыя ўзоры, на “Слова аб палку Ігаравым” хай. І паменей думаць аб славе, аб “букерах” розных. Калі “Слова” пісалі, увогуле не падпісваліся, але атрымаўся шэдэўр. Тое ж самае ў нашых сяброў сёння ў народна-дэмакратычнай рэспубліцы, таксама без прозвішчаў кніжкі. Нам можа зусім так не трэба, але варта адрадзіць народнасць у імёнах, псеўданімы ўзяць адпаведныя. А то гэтыя “згуртаванцы” пачалі хто найгучней, экзатычней, парабілі прозвішчаў падвойных: Сапегі, Радзівілы, Ягелы… ледзьве не Аляксандры Македонскія і Напалеоны, ха-ха. Шляхта местачковая.

— У нас іншыя героі, мы з імі з рознага цеста зроблены! Мы — гэта чорны хлеб, цаглінка, ён і ў хлебароба ў пайцы, і на салдацкім стале, а яны пад панскія булкі, пад заварныя піроЖныя працуюць, але нам вядома, што гэтыя піроЖныя несапраўдныя і нясмачныя, падробка.

— Але што датычыць прозвішчаў, літаратурных імёнаў, паэтычных псеўданімаў, дык прашу паглядзець на сцены, на партрэты нашых дарагіх класікаў: Сцяпан Бязродны, Лявон Жабрак, Пракоп Галодны, так, далей — Вера Бурлакова, Пятро Парабак, Рыгор Бясхлебны, Кастусь Батракоў — усё наш гонар, залаты фонд літаратуры, я б нават сказаў, нашага краснага пісьменства. Было іншыя, цэлая кагорта, якіх мы і партрэтаў нават не маем, і твораў таксама, усё згінула, як той казаў, у лагерным пыле, але засталіся імёны: Алесь Беззямельны, Арыстарх Камбедавец, Васіль Саўдзепаў, Саша Саматужны, Вальдэмар Продразвёрсткін, Міхась Маўзалейны, Лукаш Безлашадны, Маша Бяздзенежная. Слава героям! І яшчэ: увага! У калідоры вывешаны прыблізны спіс псеўданімаў, якія можна

выкарыстаць прысутным, там усякія: Зубасты, Бяскрыўдны, Штукатуркін і гэтак далей, можна разбіраць.

— Трэба пакончыць з нашай пісьменніцкай няпэўнасцю, з безграшоўем, з той апалітычнасцю, якая пахне палітыканствам, так больш не будзе, баста! Каб паважаны літаратар, сумленне народа, інжынер чалавечых душ, як трапна выказаўся правадыр, каб не мог у краме калі захоча бутэльку гарэлкі купіць, ці замовіць у рэстаране графінчык пад антрэкот. Пісьменнікі павінны добра харчавацца, есці мяса, ад гэтага напрасткі залежыць якасць працы, што яны выдаюць “на-гара”. Яшчэ Энгельс даказаў, што чалавек стаў чалавекам, калі пачаў есці мяса. Мы ж не можам ператварацца ў траваежных! Прабачце, на бульбе і моркаўцы не напішаш салідны раман, эпапею пра шабельны паход, пра чырвоны тэрор, пра харчразвёрстку. Гэта сур’ёзныя, фундаментальныя тэмы. Там, як той казаў, мяса столькі чалавечага ці гарматнага, калі хочаце, было пералапачана, што на худасочнай дыеце гэтага не пацягнеш, не агораеш.

— На моркаўцы можна толькі пра зайцоў з дзедам, ха-ха, Карзаем!

— Мы супраць вежы са слановай косці! Літаратура — супольны працэс, гэта цэх, канвеер, дзе кожны ведае што робіць, дзе кожны заняты сваёй справай, працуе, не перашкаджаючы іншым. Я мог бы параўнаць пісьменнікаў з шаўцамі, якія дбаюць пра ўсё насельніцтва — ад малога да старога. Можна параўнаць і з вагонам-рэстаранам, з кухняй, дзе ўсе па чарзе завіхаюцца, каб атрымаўся смачны суп харчо. З’едзены ў дарозе, пад грукат колаў, ён яшчэ смачнейшы для спажыўца, бо літаратура павінна быць прыгодай і для чытача… Дарагія аўтары будучых раманаў, машыну нашай літаратуры, на жаль, сёння можна нават параўнаць з “Тытанікам”, у які яны ператварылі сваё згуртаванне. А лепей гэта будзе браняпоезд! Я б нават параўнаў цяперашні менавіта момант з контрпрапагандысцкай машынай на фронце, на перадавой. Праз рупар — праўду пра сябе і пра тых, хто паслаў супраць нас салдат праціўніка, такіх жа пралятараў, людзей з народа. Бо буржуі камандуюць, капіталісты-глабалісты нажываюцца.

— Давайце пакінем пакуль у спакоі дзядзьку Сэма, а вернемся ў наш літаратурны цэх, дзе нашылі без нас непрыдатных ботаў.

— Канечне, мне на іх, можна сказаць, нават напляваць — хай варацца ў сваім соку, але, з другога боку, нам трэба быць не крытыкамі ім, ці там нават трыбуналам такім літаратурным, а даваць

адпор, бо мы — ідэолагі новай улады, мы можам у чалавечай душы як гадзіннікавы майстра ў механізме разабрацца дасканала: шасцярэнькі, колцы, стрэлкі.

— А што яны пішуць пра нашых знакамітых асобаў?! Іван, паіхняму “Жудасны”, па вушы ў крыві. Фельдмаршала Сумбурава, нашага любімага героя, сукай называюць.

— Так-так, і — карнікам!

— Святы наш царкоўны ў іх не йнакш як “Мардашоўвешальнік”. Цар Халдзей — першы бальшавік ў іх. А імператрыца — юрлівая, любаярлівая шлюха ў кароне.

— Аграмаднай, як дзёдзя, называюць яшчэ.

— Правільна! Мы ім пакажам! Дамо бой! Нагадаем, дзе ракі зімуюць!

— Таварышы-таварышы, нам тут вайны не трэба, але адрадзіць традыцыі прынцыповай бязлітаснай крытыкі, яе айцоўзаснавальнікаў — таварышаў Бэндэ і Кучара — варта. Бо зусім без крытыкі пісьменнікі пішуць абы-што: што Чапай быў дурань, што Анка мела хваробу венерычную, а дзе даведка? Дзе даведка са скурвендыспансера? Усё павінна быць на падставе даведак, пажадана з гербавай пячаткай.

— І наконт цара Халдзея. Гэны карыфей, які вярнуўся з буржуазнай эміграцыі, эпапею пра яго напісаў калісьці, але нават ён не мог так адразу як мае быць свой раман зрабіць. Яму цэнзура тры разы вяртала кнігу на дапрацоўку, і ён перарабляў! Вось што такое пісьменніцкая карпатлівая дбайная праца! А не так: смажаных фактаў наскубаць, не праверыўшы, і ўсё — у раман без разбору! Шліфоўка патрэбна, шліфоўка!

— Я, калі шчыра, часам думаю наконт тых, каго расстралялі: дыму без агню не бывае. Паўзгуртавання да сценкі паставілі, канечне, паслабілі тым самым літаратурны фронт. Але НКВД мела канкрэтыку: адзін надрукаваў кніжку ў Берліне, другі меў сваякоў у Польшчы, трэці там сам нарадзіўся, чацверты яшчэ чаго-небудзь, лісты, напрыклад, з-за мяжы атрымліваў. Канечне, каб яны працавалі на шведскую разведку — гэтага я не ведаю, але на дэфензіву — гэта вельмі верагодна, як піць даць. Дыму без агню дакладна не бывае: пагляньце на сённяшніх, якія свабоды захацелі! А тыя, што да сценкі,.. як скарпіёны ў слоіку, калі іх з усяго горада за ноч звезлі ў “Амерыканку”, адзін на другога наплявузгалі. Калі ты сапраўды ні ў чым не вінны, табе ніякія “гішпанскія боты” — не пагроза.

— Не будзем паглыбляцца ў нетры. Лепей дапісаць недапісанае, будзе высакародна, ушануем памяць. Мы атрымалі з архіваў Міністэрства палітычнай бяспекі некаторыя няскончаныя раманы. Ім яны не далі, не даверылі аматарам дэмакратыі і свабоды. Мы — людзі дабранадзейныя, у гэтым наш плюс, ганарыцца маем поўнае права.

— А я вось думаю пра таго Самасуя. Спаліў са страху. А можа там нічога й не было такога крамольнага? Можа ён як Гогаль — зрабіў працяг у станоўчым рэчышчы, усе перавыхаваліся, усвядомілі памылкі, палепшалі? Не ведаю…

— Не дуры сабе галавы, лепей сам дапішы свайго Самасуя як табе падабаецца, на ганарарнай аснове.

— Хачу толькі папярэдзіць: наш народ, наш урад — не дойная карова, але для слушных, чэсных пісьменнікаў цыцка ў яго знойдзецца, нам трэба харчавацца народным малаком, каб усмактаць, прасякнуцца, пісаць на патрэбу народа. А што яму падабаецца, чаго хочацца простым людзям, працаўнікам сяла, фабрык і заводаў? Ім хочацца, што не сакрэт, душэўных гісторый. Але навошта нам бразільскія, ціцікакскія?

— Ды ў нас саміх ужо рукі свярбяць!

— Каб без парнухі, без чарнухі, крывішчы і жахаў, мардабою. Без Тэрмінатараў і Рэмбаў. Адрадзіць задача найлепшыя традыцыі вытворчага рамана: калі яна не хоча замуж за лайдака, за бракароба, калі шчыра й прынцыпова папярэджвае — не дам, пакуль не справішся, план не выканаеш, каб не чырванець за цябе.

— Іхнія кніжкі ў сячкарню трапялі для паперы ў рэшце рэшт: на канфеці, на “спагеці”, на туалетныя рулькі. Затаварыліся! Іхняе пісьменніцкае “карыта” пустое закарэла. Мы пакажам якасць, тое, што народу цікава, шырокім чытацкім масам. Таварышы, браты па пяру! Нам разам з усёй народнай гаспадаркай трэба без лішняй раскачкі вярнуцца ў 1984-ы! Колькі тады на гара выдавалі нашыя раманісты?

— Нам патрэбны станоўчы герой, ні паліцай ці зубровец, а сапраўдны герой нашага часу! Амонавец, які не даў разгарнуць незарэгістраваны сцяг, які парваў партрэты ў руках, скруціў ў бараноў рог і — у варанок! Які кайданкамі карыстаецца віртуозна як фокуснік! А дубінкай — адпачывайце ўсе Брусы Лі! Зухавы, спартовы, за якім дзеўкі табунамі! У крапавым берэце.

— Ёсць прапанова: цяпер усе бяруць адстаючы калгас, фермерскую гаспадарку — банкі, установы. Трэба пупавінай з

народам злучыцца. Будзе тады ў пісьменніцкай сталоўцы і сваё малачко, і шніцаль з эскалопам.

— Так яшчэ сталоўкі ніякай няма, я, шчыра кажучы, за рэстаран або хаця б за карчму.

— Я наконт пагонаў нібы нашых. Яны здзекуюцца: пагоны зробім, званні, зорачкі, аксельбанты. Брахня! У нас будзе дэмакратычна: іерархія згодна працоўным дасягненням — хто колькі напісаў, колькі выдаў. Канечне і падлік абавязковы: колькасць старонак, колькі тамоў, тыраж, само сабой. Працоўныя нормы, працадні, каб ні дня без радка. Каб кожнаму паводле высілкаў. Хто не працуе — той не ясі! Калі што — можна і на вагу. А то сёй-той брашурку зробіць і ходзіць гогалем.

— А на вагу — увесь тыраж, ці кожнай кніжкі па адной?

— Гэта пакуль невядома.

— Лаканічны адказ.

— Нам патрэбна не толькі станоўчага героя адрадзіць, трэба выкрываць ненадзейных. Я памятаю раманы лаўрэатаў: у адным машыністка-шкодніца рассылала па рэдакцыях адмоўныя лісты на раман Леаніда Ільіча, падрабляючыся пад чытачоў, пад голас народа, была выкрыта органамі і змешчана ў псіхіятрычны шпіталь. Далей, паэт Артур Бяссмертны ў іншым рамане сціляжнічаў, слухаў джаз, пісаў пра каханне ды пра віно, і скончылася тым, што ў рэстаране скраў пашпарт з грашыма. Нам трэба і сёння выкрываць адмоўных герояў — у рэчышчы нашай багатай раманнай традыцыі, заклікаю!

— Я таксама толькі “за”! Хопіць, апрыклі, астачарцелі кількі ў тамаце! Хай самі ліверку кацiную жуюць! Я таксама акулы мяса хачу, ананасы, прабачце, у “Напалеоне” пакаштаваць нарэшце! Дайце мне цэлага індыка, гуся! Ездзяць па замежжах, па фуршэтах! На якія грошы? А нам non grata! Хіба справядліва? Гульні ў эміграцыю, спектакль! Уладу не любяць, не паважаюць!

— Папрашу без эмоцый. Будзе усім і кофэ, і какава з чаем, пачакайце да банкета. У нас ёсць калектыўныя заяўкі ў нашую арцель пісьменніцкую. Перш літаратурны гурток пры газеце “Слава Богу Вайны”, усе добра ведаюць “Варашылаўскіх стралкоў” палкоўніка Сцечкіна. Дэлегаты атрымалі бясплатна новы раман нашага калегі пра палюбоўніцу амерыканскага прэзідэнта, у ім выкрываюцца язвы заакіянскага ладу жыцця. Нам сёння не хапае часам вайсковага гарту: байцы трымаюцца заўжды да апошняга патрона, пішуць салдацкай мовай — “так точна!”, “ёсць!”, “нікак нет!” — без

рэверансаў, без саладжавых “калі ласка!”, “дзякуй!”, без ніякага “спадарства”, а толькі “таварыш” —“таварыш маёр!” — старшыня сходу знянацку ўстаў, рэзка адсунуўшы крэсла, з цвіка зляцела дубальтоўка, бразнуўшыся аб маснічыны, але стрэлу ніхто не пачуў.

Палкоўніка аднадушна прызначылі назіраць за літаратурным працэсам, уручыўшы першы лаўравы вянок “кола неўміручых” новага пісьменніцкага таварыства, да яго сшыхавалася чарга падпісваць раман. Ён служыў на бронецягніках, запрасіў дэлегатаў у творчую паездку ў памежны Горад-цытадэль: пакруцім гарматамі-кулямётамі, паказычам рулямі нервы НАТО! Пісьменнікі акрыялі, кожны выдумляў сабе месца за бранёй — хто ў вежы, хто на назіральным пункце, а нехта ў вагоне-рэстаране, хаця, як высветліцца на месцы, існаваў толькі вагон-салдацкая кухня-сталоўка.

***2006***

## ЯНЫЧАРСКАЯ МУЗЫКА

*Апавяданне пра дружбу народаў*

Краінка нашая называлася раней інакш, а цяпер мае назву Рэспубліка Славянскі Базар. Рэферэндум быў, усе прагаласавалі “за”, як заўсёды. Народ наш заўжды галасуе, як начальства кажа. А начальству карцела дужа заявіць: “Мы — гэта СССР сёння”, яшчэ больш узвялічыўшы ўседзяржаўнае свята дружбы народаў, а якраз слова “базар” мела на ўвазе кірмашовы саган, дзе гатуецца інтэрнацыянальная страва.

Статую на плошчы, ля якой мелі віраваць гапакі і лезгінкі, аздобілі стужкамі і шарыкамі, на кепку надзелі купальскі вянок. Навокал рыхтавалі жароўні — смажыць агульнанародную страву шашлык — для адных са свініны, для другіх з курачкі і гэтак далей. Пад паветкамі раскладалі і развешвалі на круках каўбасы, шынкі, кумпякі. Пагулянка абяцалася знакамітая. Улада разам з дружбай народаў святкавала свой поспех з пераназваннем дзяржаўкі. Яна любіла падкрэсліваць, што памеры ў нас зусім невялікія, а народаў — процьма і штогод болей, і ўсім хапае квадратных кіламетраў, панажоўшчыны, вендэты няма, усе сябруюць, разам п’юць пушчанку, гарэлку з баабаба ды больш экзатычныя гарачыя напоі, мацуючы дружбу.

Першай над галовамі праплыла птушка, бусел, якая прыклад адданасці нашай РСБ: колькі не ўцякае у вырай, заўжды вяртаецца на папас, у буслянкі — на дахах, дрэвах, слупах і воданапорных вежах. Следам неслі кола, аздобленае рознакаляровымі стужкамі. Кола, яно — са слупа сярод купальскага вогнішча, і кола — аснова, спод буслінага гнязда. Публіка на тратуарах, уздоўж якіх калідорам вуліц крочыла рознанароднае шэсце, радавалася кожнаму новаму народу, якіх ад свята да свята рабілася ўсё больш, а іхняя калона — даўжэйшай… Цяпер за колам шыбаваў самы свежы народ, які трапіў на карнавал упершыню, — янычары.

Янычары крочылі з какафанічнай музыкай, з тулумбасамі, з аграмаднымі турэцкімі барабанамі, у якія рытмоўна ўпервалі, малацілі іх сваімі палкамі, самі незвычайна шараварныя, голыя вышэй нагавіц. У гледачоў міжволі прачынаўся генетычны страх да злавеснага і бязлітаснага янычарскага войска. Аднак афіцыйныя рупары падавалі янычараў як інтэрнацыяналістаў, якія перамаглі ў сабе моўныя забабоны, комплекс местачковай адметнасці, адасобленасці. За

янычарамі рухаўся а-ля гарэм — маскарадныя наложніцы ў празрыстых шатах з бліскучай мішурой, з бразготкамі ў руках, яны прытанцоўвалі, дэманструючы танец жывата ў руху. У “Голасе Славянскага Базару” тлумачылася, што гарэм быў міжнацыянальным утварэннем, а гарэмныя выхаванкі нараджалі дзяцей розных народаў.

Новае — грунтоўна прызабытае старое. Адкрыццё Амерыкі, можна сказаць, адбылося ў нас паўторна. Калісьці пры каралях, асабліва пры апошнім, пры Вітольдзе Далікатным, якраз мода існавала на янычарскую музыку, на крывыя ятаганы, атласныя шаравары, турэцкія чубы, моцначырвоныя фескі і розныя тулумбасы. А таксама на каву, якую тады напачатку называлі якраз на турэцкі лад кахвай або кафай. Прыемна было панству часам пасмакаваць чорна-смалісты дымка-гарачы напой на балкончыку замкавага палаца на высокім ды стромым нёманскім беразе, усведамляючы, што самі, голыя ад шаравараў, раз’юшаныя янычары пакуль яшчэ не дабраліся да тваіх вышыняў, дзе замкавы пагорак рэгулярна засыпае белымі глыбокімі сумётамі на некалькі месяцаў, а рака сцінаецца ад сцюжы.

Размахвайце сваімі ятаганамі колькі заўгодна! Зрэшты, цяпер, на нашым карнавале гэта й адбылося: танцы з бутафорскімі крывымі шаблямі, таксама з кінжаламі ды гуцульскімі сякеркамі, пазней — каля статуі на плошчы, перад плоймай гледачоў. На галаву караля, аднак, знайшлася іншая прылада замест ятагана, тэхнічная вынаходка, апошні енк моды. Гільяціна, само сабой. Але прынамсі янычарскай музыкай каралеўскі двор паспеў нацешыцца. Існавала толькі праблема: палонныя янычары не жадалі граць пад прымусам, у зручную хвілю рабілі сабе харакіры, дый кароль углыбках душы сам быў задаволены, што яны незгаворлівыя.

Каралеўскую янычарскую капэлу складала збор-дружына: пара служак-мурынаў, татарскія ахоўнікі, музыкі балетнай трупы, апранаў іх тэатральны кравец. Галасу янычары ўчынялі шмат, рачылі вочы, рабілі непатрэбныя рухі — не раўнуючы як у будучым нямым кіно, гіперактыўнасць удзельнікаў у якім мусіла пераконваць гледачоў, што на экране напраўду жывыя людзі, якія не здатныя ні хвіліны пасядзець на месцы.

Янычарская капэла грала на вайсковых парадах, на балях і маскарадах, на каралеўскіх пікніках. А потым нечакана пачалося суперніцтва паміж каралём і князем Радзіловічам. У караля была зграбная, не празмерная янычарская музыка: вялікі турэцкі барабан-бухала, пара меншых, сем медзяных труб, пяць шалмеяў — накшталт

габоя і дзве талеркі. Тым часам князь Радзіловіч зрабіў сабе цэлы аркестр — сем барабанаў вялікіх, два тулумбасы, дзве талеркі, ажно шэсць сурмаў і дзве флейты. Кароль без сваіх музыкаў нікуды не ездзіў, заўсёды трымаў у абозе, яны гралі нават на пахаваннях, ствараючы неўласцівую для цырымоніі какафонію. Дырыжыраваў інструментамі капэльмайстар Шнуроўскі.

Цяпер у каралеўскім палацы музей, ад самога караля ў вітрыне застаўся кальян, якім ён любіў карыстацца, слухаючы янычарскую музыку, джэзва і дзве шпоры. Тулумбасы ды іншыя інструменты янычарскай капэлы не захаваліся, але затое ёсць калекцыя крывых ятаганаў, — удзельнікаў усенароднага шэсця вадзілі на экскурсію іх глядзець. У рэшце рэшт і кароль, і князь Радзіловіч займелі пазней не толькі капэлы, але й янычарскія харугвы — ганаровую варту — дзеля прыбамбасаў…

На плошчы каля статуі ўсіх сшыхавалі па ўзору вайскоўцаў, паўзводна, як звычайна на дзень Вялікай перамогі. А наш гарадскі галава сказаў прамову пра аб'яднаўчую місію — злучаць Поўнач з Поўднем, варагаў з грэкамі і Захад з Усходам, янычараў з памеранцамі. Стракацеў тварамі ды апраткамі пляц, стракацелі сцягі на флагштоках, стракацела статуя, святочна аздобленая, з замаскаванай рэкламай цыгарак мясцовай вытворчасці, ад якіх — смерць на месцы.

Так, але я яшчэ не сказаў усяго пра спеўнае і танцоўнае шэсце, а яно месцамі нагадвала рыхтык біблейскія сцэны, асабліва калі крочылі бедуіны з вярблюдамі альбо палесцінцы з asламі. Жывёлу пазычылі ў заапарку, карову для індусаў — у прыгарадным калгасе. Асабліва экзатычна выглядалі зулусы з паскамі на клубах, у плаўках з пальмавага лісця папуасы (казалі, што некаторыя з іх нават канібалы) і абарыгены з баёвай размалёўкай твараў ды з бумерангамі ў руках. Дзе іх толькі адкапалі?

А галава наш (вось неспадзеўкі!) не проста так прамовіў — як на шэраговым мітынгу, калі заклікае болей працаваць, мець лепшыя паказчыкі і павялічваць лічбы, не! Ён усіх натуральна прыгаломшыў: выехаў на кані а-ля князь Радзіловіч. Караля ўлады не любілі, ён карону атрымаў з рук Папы Рымскага, а князь сам сябе, можна сказаць, прызначыў. Наш галава выканаў ролю князя, нібы актор тэатральны — у жалезным прыкідзе, маўляў, мы не такія заімшэлыя ды старамодныя, каб толькі пад гальштукам, як бюракраты. Так папросту расчыніў забрала, нібы кармушку ў турэмных дзвярах, і ўсе яго пазналі, прыемна здзіўленыя.

У адказ гаварылі ў мікрафон ад кожнага народа па чалавеку — словы падзякі і г.д. А мурын у стэтсане, пад выглядам з дзікага Захаду, публічна грэбліва, нібы брудную анучу, вымыў у вядры зорна-паласаты сцяг з намёкам на каўбойскія звычкі тамтэйшага прэзідэнта. Нашыя ўлады штосьці не падзялілі з янкамі і пры любой дробнай нагодзе спрабавалі падкласьці ім канцылярскую кнопку. Мужчыны ў пер'ях з каманды мурына таксама мала нагадвалі шашонаў, як і ён шэрыфа, але ж маскарад і ёсць маскарад!

Як ні стараліся ўлады, атрымаўся звычайны антыімперыялістычны мітынг. Замежныя азіяцкія студэнты чыталі з паперкі праклёны янкам, трымалі плакаты ды транспаранты ў духу салідарнасці: “Рукі прэч ад Ціцікакі!”, “Гуантанама — на замок!”, “Яўрэйскія самалёты — на прыкол!” Сонца пякло жудасна, і калі першыя прамоўцы, асабліва сам Радзіловіч, радаваліся надвор'ю, успамінаючы станоўча сілы нябесныя, апошнія стараліся прамаўляць тэлеграфным стылем, асабліва чукчы ды эскімосы.

На другі дзень наш галава зрабіў візіт ветлівасці ў нацыянальныя кватэры. Усе народы і народцы мелі жылплошчу у Вежы дружбы народаў, якую збудавалі ўлады. Цырымонія звычайна адбываецца зверху ўніз: галаву завозяць ліфтам на апошні паверх, адкуль яны са світай рухаюцца пешшу. На парозе яго сустракалі кожнага разу хлебам-соллю, так што ў яго ў горле зрабілася салёна да гаркавасці. Дзякуй Богу, заўсёды падносілі чарку якой-небудзь зулускай тэкілы і давалі закусіць чымсь экзатычным — нават смажанай саранчой, раскормленымі чарвякамі, лічынкамі, аднойчы — яйкамі кракадзіла. Трапляліся і больш традыцыйныя стравы — бішпармак, плоў, чыхамбілі.

Галава кожнага разу гаварыў тост з нацыянальным каларытам, які меў адзнакі кароткага экскурсу ў недалёкую гісторыю і педагагічны момант. Адных паўшчуваў, што ў іх на радзіме запаролі калгасы, сталі назад раздаваць зямлю, зрабіўшы крокі задам. Успомніў пра IX-ы форт, пра Лукішскі пляц і Літбел. Іншым закідаў за пасылку жаўнераў у Ірак, за жаданне дагадзіць янкам і нагадаў, што паны зноўку пачалі душыць просты вясковы люд, захамуталі яго. Дзеля гістарычнага прыкладу ён спаслаўся на Картуз-Бярозу. Некаторым іншым ён прачытаў кароткую лекцыю-тост наконт таго, што “у нас не будзе рэвалюцый — фінікавых, урукавых, разынкавых і асабліва гранатавых”, ваша здароўе!

Уладам па-свойму вельмі пашанцавала: учора на нашую тэрыторыю выпадкова пераляцеў дзуцкі лётчык на прыватным

самалёціку, яго ледзь не збілі па звычцы, але потым самі былі задаволеныя, што ўзялі ў палон. У самалёце апынулася яшчэ кабета, думалі жонка, аказалася — палюбоўніца. Карацей, скандал міжнародны наспяваў нібы пажар — ён хацеў прамацаць супрацьпаветраную абарону! Як калісьці карэйскі “Боінг” пасажырскі! Але ўрэшце і нашая ідэалагічная машына пачала працаваць больш далікатна, па-свойму віртуозна, не так тапорна як заўжды было.

Назаўтра каля статуі, калі зноўку быў агульны збор, усе мы сталі сведкамі відовішча. Прыехаў нечакана турэмны фургончык, публіка нават зніякавела. З яго выпусцілі палоннага лётчыка з каханкай, знялі з іх кайданкі, і ён зачытаў пакаянны ліст, з якога вынікала, што яму не падабалася тое, што робіцца ў ягонай краіне, таму яны з сяброўкай уцяклі ў Славянскі базар. Ім без размоў далі палітычны прытулак і ордэр на аднапакаёўку у Вежы дружбы народаў з акном на поўнач — у бок іхняй былой радзімы.

Спевы з танцамі на плошчы закончыліся вялікім хорам, агульным з усіх наяўных рэшткаў народаў. Спявала плошча, спявала гімн фэста прыблізна гэтак:

Хоць ты белы, хоць ты шэры,
Ты, канечне, наш!
Узімку, восенню ці летам —
Хай аднолькавым ты цветам —
Наш — ты безумоўна — наш!
Скура, вочы ці валасы —
нашай вясёлкі фарбы!
Чорны і жоўты, рыжы,
Чырвоны, хай нават будзе
Зеленковы твой колер,
Языковы ва ўсіх нас адзін —
Толькі ружовы, толькі ружовы!
Кінь свае справы, крокам да нас,
У Славянскі базар гайда-гайда!
Не пашкадуеш ты, калі ласка!
Дружа, аміга, таварыш-камарад!

Мне міжволі ўзгадалася, як нас пасля школы маладога байца калісьці калонай завялі на сцяты марозам заледзянелы шыхтавы пляц, каб пракрычаць тройчы “Ура!” новай камуністычнай канстытуцыі ды

праспяваць на манер “Уставай страна агромная!” новую рэдакцыю гімна, які мы развучвалі ў пакоі для антыімперыялістычнай падрыхтоўкі. Дыхаючы марознай парай спяваў пляц мужчынскімі галасамі ў рэчышчы “Пралятары ўсіх краінаў, яднайцеся!” Твары рэзка скажона асвятлялі ўздоўж шыхта пражэктары. Музыка грала праз клубныя дынамікі, бо аніводзін нават вайсковы аркестр не вытрываў бы марозу.

Цяпер свяціла сонца, усе пацелі на адкрытай плошчы, але неўзабаве з палёгкай дзукі, зулусы, гуцулы ды іншыя калонай накіраваліся на прыстань. Іх пагрузілі на рачны цеплаходзік з прычэпам — баржай-рэстарацыяй, каб завезці на пікнік у рамантычнай мясціне з вогнішчам і каўбаскамі на ражончыку. Пакуль яны адсутнічалі, на беразе збіраўся шматтысячны натоўп, увечары абяцалі пражэктарнае шоў ды феерверк. А публіцы сёння адно часцей падавай шашлыкі з півам ды піратэхнічныя відовішчы! Пакуль нацмены плавалі — столькі народу на беразе сабралася — як на Грунвальдскую бітву!

Калі з-за рачной лукавіны паказаўся цеплаходзік, які з напругай супраць плыні цягнуў рэстарацыю, поўную рознакаляровых тубыльцаў, бераг азваўся радасным галёканнем. Небаракі зулусы маглі змярцвець з нечаканасці! Але ўсё яшчэ было наперадзе. Калі цеплаходзік апынуўся паміж берагоў, запоўненых публікай, нібы трапіўшы на сярэдзіну стадыёна, да борта падплыў увішны катэр быццам з лоцманам. Але гэта былі тэрарысты! Гуцулы і абарыгены ўжо, мабыць, пашкадавалі, што захацелі паўдзельнічаць у свяце. Тэрарысты праз мегафон паведамілі, што патрабуюць мяшок з грашыма і самалёцік дзуцкага лётчыка, які атрымаў удзень палітпрытулак.

Зрэшты, замяшанне атрымалася незадоўгім, з вады раптам вынырнулі марскія коцікі і тэрарыстам начапілі кайданкі. Тут на катэры пад сцягам падплыў наш галава, ўжо без княскай кальчугі, і паведаміў, што ў Славянскім базары дружба народаў у надзейных руках. Ён падкрэсліў, што чакае купальская ноч і загадаў усім народам выдаць па вянку. Залежна ад нацыянальных традыцый — з папараці, з яловых лапак, нават са штучнага лісця пальмы. Якраз пачало імкліва цямнець.

Дзеці розных народаў прыняліся па камандзе шпурляць у чорную ваду свае вянкі з капітанскага мосціка. Дзе яны падалі, куды плылі — не было бачна і тады раку пачалі абмацваць жоўтыя пражэктарныя прамяні, нібы ў час начной паветранай атакі. Якія нацмены задумвалі

жаданні — невядома, як далёка заплывуць вянкі — ніхто не знаў. А мне думалася: не выключана, суседзі-дзукі паставяць на рацэ сетку, якой ловяць кантрабанду, каб адпомсціць за свайго лётчыка, якому да канца жыцця давядзецца са ваёй аднапакаёўкі пазіраць у бок страчанай радзімы. Ён навучыцца крочыць у калоне, гатаваць шашлык, піць бакштанку нагбом, спяваць хорам гімн, граць на тулумбасах.

***2006***

## ДЖОНІ ХОЛІДЭЙ

*Апавяданне пра пішучыя машынкі*

Мяне аднойчы змусілі паўдзельнічаць у стварэнні новага літаратурнага "фронту", паколькі стары не адпавядаў сучасным запатрабаванням. Так патлумачылі ў ідэалагічным камітэце, куды выклікаў лысаваты начальнік у старамодных акулярах. Прысутнічаў маладзейшы чалавек, выглядаў на байца нябачнага фронту. Ён прачытаў радкі з майго вершыка. Вы — паэт, а нам паэты патрэбны. Што скажаце?

— Што я скажу? Калісьці ў маладосці бавіўся часам, але гэта былі спробы, вучнёўства. Я з паэзіяй завязаў, зразумеў што не маё, своечасова ўсвядоміў…

Адказ відавочна не спадабаўся. "Мы ад вас не гэтага чакалі, не самакрытыкі, не заніжаных ацэнак, загаварыў незнаёмец. Вось спіс, вы ў ім таксама ёсць, сярод тых, каму аказалі давер, трэба цаніць".

— Хто аказаў? Які давер?

— Наперад паравоза забягаць не варта, зараз усё растлумачым. Я ваш "анёл-ахоўнік", займаюся літаратурай і газетамі, усімі, хто піша, зваць мяне Міхаілам Аляксандравічам, можна нават проста Міхасём. Дык вось, вы ў спісе, таму мы з вамі і размаўляем цяпер…

Я маўчаў. Счакаўшы, "куратар" удакладніў:

— Вам даверылі быць дэлегатам, ствараць сучасны пісьменніцкі хаўрус, паездка ў сталіцу будзе аплочана, можаце збірацца.

— Пачакайце, я нічога не ведаю, мне ніхто нічога не гаварыў.

— А колькі вам паўтараць трэба? Вось персанальнае запрашэнне-пропуск. Яшчэ якія пытанні?

— Ды я нікуды не збіраўся, я не паэт увогуле, "крый мяне Божа", — трапіла на язык завучаная фраза. — Мяне паэзія можна сказаць яшчэ цікавіць, але мала, а сябе я паэтам не лічу зусім.

— Не трэба адмаўляцца. Сціпласць аздабляе чалавека, але трэба ж і самалюбства мець. Паглядзіце колькі маладзёнаў: кожны сябе ледзь не Пушкіным выстаўляе. А вы працягваеце практыкавацца, нам вядома.

— На святы экспромты пішу часам толькі, каб за сталом пад чарку жанчын павіншаваць.

— Давайце не будзем пачынаць дыскусію пра паэтычныя жанры, эпіталамы, яны вядомыя са старажытнасці, з антычнасці, з калыскі літаратуры…

— Не, я не ведаю, гэта нечакана, хай хаўрус, калі трэба, ствараюць самі паэты, пісьменнікі, а я проста аматар, такіх у нас застольных вершавальнікаў хапае, на кожным вяселлі, мы — нацыя паэтаў.

— Правільна: паэтаў, вам і карты ў рукі.

— Я хацеў сказаць: аматараў, дылетантаў ад паэзіі.

— Усё, дыскусіі скончаны, вось запрашэнне, персанальнае, — дадаў з націскам "літаратурны куратар".

— Не паеду, — раптам для сябе самога абцяў я размову.

— Як не паедзеш? — зрабіў штучна шалёныя вочы "Міхась", нібы калісьці сяржант Віннік у войску. Ён моўчкі стаў пераглядаць аркушы з папкі. — А гэта: "А сцяг наш рыцарскі святы!", "а наш заступнік на кані, усіх ворагаў мячом пералічы і пайменна назаві!" — Твае?!

— Мае, а што?

— А нічога, — апанаваў ён сябе, хвілёва быўшы знерваваным, у гэтай папцы ўсе твае размовы, выказванні, выразкі газетныя, цытаты. Так што вырашай: працаваць у дзяржаўнай газеце ці ў "незалежнай".

— Няма ўжо незалежных.

— Ну, дык вось.

— Арывэдэрчы, — нечакана абазваўся ідэалагічны начальнік. Я зірнуў на яго: якіясьці каламутныя вочы за шкельцамі акуляраў. У іх здалося ці то шкадаванне, ці туга, ці нават зайздрасць. Таксама, дарэчы, "пісьменнік", выпускае брашуркі аб "паслярэвалюцыйнай" гісторыі гарадской: калі трамвай пусцілі, калі каналізацыю зноўку наладзілі ці пачалі шыць чаравікі для простага люду…

— Гільяціну ў залу! — выгукнуў распарадчык сходу на капыл вядомага шоўмэна, які ў "скрынцы" разыгрываў прызы сярод аматараў разгадваць слоўныя шарады. Але гэта была ўжо кульмінацыя, арганізатары яўна спадкаемнічалі эпатажнай маладзёвай суполцы "Макулатур-літ", якая сваімі хэпенінгамі разбурала граніт афіцыйных пісьменніцкіх мерапрыемстваў. Notabene: то маладзёны "плавалі" на сцэне ў трунах, вяшчаючы пра човен Харона, то па-пірацку хапалі на абардаж доўгую скрыню з канкурэнтамі з часопіса "Літара", складалі ў дамавіну застыгла-акадэмічныя творы, фаліянты класікаў, дагматычныя першакрыніцы і залівалі жыжай, што нагадвала вадкія экскрэменты. Аднойчы падпалілі кніжную макулатуру, загасіўшы чым хутчэй агонь: нават гарэць-не гарыць, сырая!

Кардонны герб новага літаратурнага таварыства заклікаў да неадкладнага дзеяння: “Пісаць, пісаць і яшчэ раз пісаць…” Я, зрэшты, асабліва не сачыў за выступамі. Дыскусія хутчэй нагадвала крыўдыманалогі, трыбуннае разрыванне на грудзях кашулі зняважанымі і пакрыўджанымі. Я сябе паэтам сапраўдным не лічыў, мяне не турбавалі бляшаныя лаўры. Я быў чужым на гэным свяце-рэваншы, на кірмашы дробнай помслівасці.

Мяне зацікавіў двухтомнік, атрыманы дэлегатамі бясплатна, пра заакіянскае жыццё. Калі дакладней, гэта быў раман-дылогія пра амерыканскага галаву, пра Джоні Холідэя, якога аўтар, мякка кажучы, не любіў. Галоўны герой быў чорным каўбоем і жудасным бабнікам. У ягоным урадавым “Боінгу” існаваў стрыптыз-бар, хатні кінатэатр з парнаграфічнымі фільмамі і спачывальня а-ля шэйх з гарэмам сцюардэс. На саміце ён вышуквае вачыма дзяўчат, робячы візіт да “калматага мядзведзя”, і таксама думае толькі пра юр: пазнаёмце мяне, Валодзя, з гэнай элеганцкай міс, якая нас суправаджае. А яна — маёрка міліцыі, у дасканаласці валодае знакамітымі прыёмамі самаабароны без выкарыстання зброі! Адным словам, гэны Джоні трапляў увесь час у дурныя сітуацыі, на радасць іхняй жоўтай прэсе. Апынуўшыся ў калгасе, папрасіўся да даярак у чырвоны куток “паабшчацца”. У эміратах хацеў у гарэм на экскурсію.

Жонка спачатку злавала, знаходзячы ў ягоных кішэнях трусікі, станік, рэшткі памады на адзенні, нават спрабавала скончыць самагубствам: наглыналася таблетак. Але пры дапамозе доктарапсіхатэрапеўта, які неўзабаве зрабіўся каханкам, яна навучылася ставіцца да мужа як да бэйбуса: што з яго спытаць, калі ў яго свярбіць увесь час адзіная думка? Псіхатэрапеўт па-фрэйдысцку тлумачыў агрэсіўную палітыку Холідэя, зыходзячы з яго заклапочанасці сэксам, самы свежы прыклад: напад на Арабіку, маштабная ваенная інтэрвенцыя. Прыбыўшы сакрэтным авіярэйсам, каб падбадзёрыць войскі ў саракаградусную спёку, той накіроўваецца ў медсанбат, каб пазнаёміцца з санітаркамі, на пазіцыях просіць пакінуць яго ў бэтээры з жаўнеркай, чорнаскурай грудастай Джудзі. Не прапускае ніводнае спадніцы.

Часам я перарываўся, прамоўцы перашкаджалі чытаць. Хто сваёй апантанасцю, іншыя звяглівасцю, месцамі лямантам, рыхтык парсючыным віскам, як мне здавалася. А часам прамоўца мог зацікавіць, пачуўшы пра пісьмовыя машынкі, я міжволі спыніўся чытаць:

— Мы павінны адабраць пішучыя машынкі і баста! У іх цэлы склад. Выдавалі як у пазычальні, асабліва маладым, першыя вершыкі надрукаваць, ёсць мемарыяльныя, калі сем'і ахвяравалі ў літзвяз машынкі нябожчыкаў. Ёсць рарытэты — хоць у скупку здавай антыкварную. Я знайшоў зусім музейныя — з шыльдачкамі — ад Саўнаркама, за ўдарную працу на літаратурным фронце, за поспехі, за вынікі ў першай пяцігодцы, за трылогію, ад палітупраўлення арміі, ад наркамата шляхоў зносін, нават ад НКВД славутага! Цэлы музей, яны яго не даглядаюць, занядбалі! Гэта павінна належаць усяму народу, дзяржаве!

— Дык можна з дзяржкантролем на іх, даць бой! Хай паспрабуюць нашу гісторыю не вярнуць! Можна зрабіць пакой з машынак: расставіць на паліцах і — шыльдачкі.

— Абавязкова, і партрэты нашых карыфееў, майстроў слова, народных паэтаў. Але я не закончыў. Стаяць у падвале ў змазцы, сапраўды — хоць цяпер у бой — на літаратурны фронт! Можна займаць нашу славутую "Лінію Молатава-Рыбентропа". І хай паспрабуюць! Гэта ж багацце — матэрыяльнае, духоўнае! Самі назвы гавораць з табой на мове гісторыі: "Бальшавічка", "Ударніца", "Камунарка"!

— "Ударніца" — з вялікай карэткай, электрычная? Гаргара. Сапраўды, біць па літарах было трэба.

— І прашу ўлічыць такую акалічнасць: ад НКВД — гэта хутчэй канфіскат. Мне трапілася папера архіўная. Калі арыштоўвалі членаў літзвяза, калі ў расход часам, машынкі на карысць дзяржавы забіралі, на склад НКВД. Самі карысталіся, лепшым уручалі, у каго з вынікамі было ў ажуры.

— Прычым тут НКВД? Мы ж пра машынкі гэтых пісакаў, якія на ніщто спісаліся, уладу не любяць, мы ж пра цяперашні час гаворым!

— Правільна, а я тлумачу — адкуль яны, архіўныя машынкі. НКВД узнагароджвала лепшых следчых, хто найбольш ворагаў народу выкрыў. А хто больш дбаў, пратаколы допытаў друкаваў, у таго машынкі ляцелі як падэшвы ў пяхоты. Машынкі псаваліся як механізм, які ў рабоце пастаянна. Здаецца, майстар быў у іхняй "Амерыканцы", рамантаваў. Ламаччам пазней ніхто не займаўся, аднойчы пісьменніцкаму звязу сказалі: бярыце, хлопцы, задарма, можа змайструеце штосьці.

— Дык гэта ж цэлая эпоха, дысертацыя з гісторыі развіцця літаратуры!

— Не толькі, гэта цэлы раман можа быць!

— А мне, калі шчыра, ніякавата робіцца. Як за пісаніну, за друк саджалі, навошта? Машынка не зброя, не кулямёт! Другое: калі мець яе, калі ўмець карыстацца — было злачынствам, як тады, адкуль браліся новыя аматары друкаваць вершы? Неверагодна! Хто іх мог навучыць карыстацца, НКВД?

— Адкуль яны маглі ведаць, што кагосьці пасадзілі ці ў расход?

— Як адкуль? Быў і няма.

— А можа памёр, ці мала паміраюць? Ніхто не застрахаваны, ніякія лаўры лаўрэацкія не ўратуюць. Вой, каламбур атрымаўся. Нават сёння — то некралог прачытаеш, то запар парачку.

— Паслухайце: газеты ж пісалі пра “ворагаў народу”, працэсы судовыя друкавалі, стэнаграмы…

— Хто ж іх ведае, падабалася пісаць, відаць. Не забывайцеся: абвясцілі барацьбу з непісьменнасцю, усе граматныя сталі.

— А мне часам здаецца, як трусы ў пашчу да ўдава лезлі, як пад гіпнозам. На добры розум, машынка стала такім небяспечным інструментам, як сячкарня ці гільяціна, рыдлёўка была лепшай ў тысячы разоў. Ужо лепей капаць, чым раман вымучваць.

— Капаць! А на “Молатаў-канале” не хочаш?! Там ведаеш колькі народу закапана? І ўсе з рыдлёўкамі былі як адзін.

— З рыдлёўкамі, але некаторым далі ў рукі замест машынкі. Замест арыштаванай, якую ў падвалах НКВД трымалі.

— Скончым дурацкую размову, аб красным пісьменстве мова!

— У мяне пра машынкі яшчэ не ўсё, дыскусія адхілілася. Я хацеў сказаць пра новыя, пра свежыя машынкі, якія ў змазцы, таму што ў мяне ёсць прапанова…

Я часова страціў увагу, разгарнуўшы раман. Падзеі на тэатры баявых дзеянняў у Арабіцы рухаліся імкліва і ўсё болей не ў той бок. Жаўнеры займаліся дробнымі парушэннямі, уцягнуліся ў незаконныя валютныя аперацыі, упадабалі “канабіс”, каб забыцца на ўласную сэксуальную энергію, бо ў мусульманскай краіне яе фатальна не было куды падзець. Камандаванне заклапочана любоўнай эксплуатацыяй жаночай часткі кантынгенту. Жаўнеркі спазняліся на варту, каб задаволіць усіх ахвотных. Яны мусілі дзяліць з імі ўсе цяжкасці вайсковай службы. Часам чаргу даводзілася займаць за некалькі гадзінаў.

Следства, якое праводзіў іхні “асобы аддзел”, выявіла: у батальёнах, палках і брыгадах існаваў “недатыкальны запас” — самыя

лепшыя каханкі для афіцэрства. Чым вышэй па лесвіцы, тым больш паглядных жаўнерак і афіцэрак мелі палкоўнікі і генералы. “Асобы аддзел” схапіўся за галаву, бо гэтая з’ява нібы іржа раз’ела самыя высокія паверхі акупацыйнага начальства.

Аўтар асуджаў беласлаўскіх землякоў: зрабіўшыся здраднікамі і перабежчыкамі, за юдзіны грошы раскрылі янкам фундаментальны сакрэт былой сацыялістычнай арміі: чаму ў яе “абвісла”? Таму што жаўнерскія шэрагі спойвалі кісялём з бромам у салдацкай сталоўцы! Праўда, гэта ў рэшце рэшт далося ў знакі, бо армія не ўзбухнула, калі гэныя “тры зубры” падпісалі дыягназ аб смерці жалезабетоннай, як на першае вока, сацыялістычнай радзімы, якая канала, але была яшчэ зусім не нябожчыцай. Але яна надакучыла да смерці, афіцэры даношвалі апошнія боты, шэраговы склад марыў пра дэмбель без салдацкай сталоўкі з бромам. Так што ніхто асабліва не звярнуў увагі на тое, ці напраўду яна падохла, ці толькі так здалося. Зрэшты, падобна, яна сама стамілася ад ніякай жыткі, вечна напаўгалодная, з неспатоленым жаданнем апахмяліцца…

Але разбэшчаныя янкі вылівалі бромны кісель у пясок. Зніякавелае камандаванне звярнулася ў міністэрства абароны, тое — у кампанію “Кола”, каб наладзіла выпуск бромнага спецнапою з бурбалкамі для дзейнай арміі. Жаўнерам перасталі выдаваць гатоўку, каб не абменьвалі валюту на ўсякую марыхуану. Але ў гэтым месцы я зноўку пачуў трыбуну з дакладчыкам, ён, да майго здзіўлення, заставаўся ранейшы. Праблема з анахранічнымі друкаркамі была для новага літаратурнага таварыства архіважнай.

— Прапаную правесці інвентарызацыю: колькі “Камунарак”, “Бальшавічак”, колькі “Ударніц” і “Энтузіястак”. Падлічыць, стан ацаніць, якіх дэталяў не хапае, каб мець дакладнае уяўленне пра “парк машын”.

— Але спачатку разграміць пісак, ключы, замок пакуль у іхніх руках…

— Не: спачатку лічба машынак, размеркаваць і не прымаць больш нікога, каб не было лішніх, “безлашадных”, каб ніхто не быў пакрыўджаны, не адчуваў сябе другім гатункам. А то: ты член і я член, але ў цябе ёсць машынка, а ў мяне нямашака! Дзе справядлівасць?

Так, жарсці распальваліся надалей, але я зазірнуў адным вокам у раманец, які трымаў на каленках… Здраднікі сацыялістычнай радзімы мучыліся ад спякоты Арабікі, адсутнасці “Сталічнай” і салёнага гурка, часамі ў іх прачыналіся згрызоты сумлення, але часцей

яны пакутвалі ад дзённых страхаў і начных кашмараў. Разам з усім акупацыйным корпусам як агню лякаліся людзей-бомбаў, машын і звычайных, якія адважныя мясцовыя падпольшчыкі не ленаваліся падкладаць у самых нечаканых месцах: на кірмашах, у кінатэатрах, у чайханах і мячэцях. Карацей, зямля гарэла пад нагамі захопнікаў, як калісьці здарылася ў далёкай саюзніцы Арабікі, дзе патапталіся заваёўнікі, уключна з фрыцамі, каторых аўтар рамана называў пагардліва таксама гансамі і немчурой. Ён зусім не спрабаваў прыхоўваць сімпатыі, яўна захапляючыся зухавымі падрыўнікамі ў паранджах і чалмах. Празаік нават прыводзіў слоўнае апісанне шахідскага паса, інструкцыю для ахвотных.

Мне рабілася зразумелым, што раманіст, як прадстаўнік партызанскай нацыі, быў на баку любых падпольшчыкаў і паўстанцаў, "рэбельянтаў", як часам па-замежнаму называў іх з ноткамі павагі. Пазней, аднак, любоў гэтая рабілася супярэчлівай, заблытанай, як смак няякаснага вінца, увогуле цьмянай. Выяўлялася, што аўтар цёпла ставіцца да рэвалюцыйных матросаў, да абвешаных маўзерамі і наганамі кінагерояў, але чамусь не вельмі любіць Чэ Гевару, адных шахідаў гатовы на руках насіць, а тых, хто змагаецца ў Праметэевых гарах, абзывае вылюдкамі.

Угодкі рэвалюцыі з гваздзікамі на пінжаках ён падпольна святкуе нават у арабіцкай пустыні, дазваляючы сабе выпіць акупацыйнага напою вуснамі законспіраванага, смелага і няўлоўнага пасланца паўночна-партызанскага народу. А вось рэвалюцыя з ружамі ў руках, з гваздзікамі ў рулях ўрадавых жаўнераў, каварна абяззброеных, выклікалі ў аўтара непрыхільнасць. Асабліва калі рэвалюцыянеры абменьваюць апельсіны на гумовыя кулі, каб спецназ не страляў па людзях. Пацыфісты выклікалі ў раманіста знішчальныя маланкі, амаль іскры выкрасаліся з радкоў. Чытач ніякавеў: якіх шахідаў шанаваць, а якіх — не і завошта? Бо рабілі яны адну справу, прыблізна з аднолькавым поспехам, адно што ў розных геаграфічных мясцінах…

— Скажыце, дзе роўныя ўмовы для вясковага жыхара са сталічнікам?! Дайце машынку бясплатна і я перакулю свет! Я пакажу, што слёзы кракадзілавыя праліваць на гарадскім асфальце — немаральна! Я сродкамі літаратуры пакажу. (Гэта я зноўку звярнуў увагу на дыскусію дэлегатаў-літаратараў, сярод якіх апынуўся). Дайце мне машынку, прашу вас! Дзеля ўсяго святога!

Яны яўна не здолелі паставіць птушку ў парадку дня насупраць пытання аб прафесійных варштатах, не маглі ніяк падзяліць машынкі, якія заставаліся пакуль шкурай не ўпаляванага мядзведзя. Дакладчык не хацеў здавацца. Ён вывучыў машынкі нібы археолаг, які расшыфраваў надпісы на антычных амфарах і пазнакі на каменных сякерах! Напраўду? Я зацікавіўся. Дакладчык вызначыў па нумарах на дэталях машынак: каму яны належалі, калі былі арыштаваны і ў якіх следчых апынуліся. Пашкадаваўшы на словах час дэлегатаў, ён паабяцаў падрабязнасці надрукаваць у акадэмічным часопісе, але не спыніўся. На фабрычных шыльдачках некаторых пісьмовых машынак, а таксама на дарчых — “Ад Саўнаркама…” і гэтак далей — ён знайшоў выдрапаныя пазнакі. Спачатку яму здалося, што гэта — лічба значных твораў, напрыклад, раманаў, надрукаваных на машынцы. Але прозвішчы былых уладальнікаў, членаў літаратурнага цэху, не давалі магчымасці пацвердзіць гіпотэзу. Адзін з расстраляных, напрыклад, напісаў толькі адзіны раман, а два не скончыў, другі выпусціў тры кніжачкі вершаў, тым часам колькасць пазнак на машынках не супадала.

Даклад набыў ніякаваты, калі не мовіць: непрыемны прысмак. За кніжкі больш не расстрэльвалі, але падрабязны экскурс спараджаў у душы цьмяны несвядомы сумнеў. Усё ж лепей бы іхнія машынкі хавалі разам з імі, клалі ў магілу, як калісьці меч побач з ваяром ці гаршчкі ў адной яме з ганчаром, які іх вырабіў, падумалася мне. Машынку — у магілу было б больш па-людску. Аднак іх працягвалі мучыць, вытрасалі душу, замест раманаў друкавалі вусціпшныя пратаколы. Як яна чулася, механічна пішучы, сцяўшы зубы, несусветныя прызнанні свайго ўчорашняга гаспадара, найлепшага сябра, які любіў яе, дбаў, пяшчотна звяртаўся да яе? Яна пачынала з глузду з'язджаць: раней даводзілася часам вымушана лайдачыць, а цяпер гарбацілася без выхадных, без сну, у следчых з натхненнем праблемаў не існавала. Прамоўца ўсё ж перакінуўся на падрабязнасці, на лічбы, хоць абяцаў устрымацца… Я міжволі пагартаў раман пра вайну ў Арабіцы.

Сяброўская для Арабікі партызанская рэспубліка патаемна прыслала знаўцаў дыверсійнай барацьбы, у кожнай групы была свая задача: навучыць непісьменных дэхканаў знішчаць чужынскія бронемашыны, знайсці і зліквідаваць здраднікаў сацыялістычнай айчыны, адшукаць сакрэтную турму, дзе янкі трымалі правадыра арабіцкага народа, якому доўга ўдавалася быць няўлоўным, ды

наладзіць партызанку ў захопленай ворагам краіне. Акупанты тым часам дапытвалі адважнага правадыра і рыхтавалі судовы фарс.

У гэтым месцы, нічога больш не тлумачачы, аўтар палічыў патрэбным пазнаёміць чытача з незайздросным існаваннем здраднікаў, якія баяліся выйсці па-за межы “зялёнай зоны”, дзе мясцілася акупацыйнае начальства, і якую ахоўвала бронетэхніка, а ў паветры баражыравалі “кобры”. У гатэльным нумары яны сядзелі нібы ў турме: глядзелі порнаканалы, смакталі “канабіс”, жлукцілі “бурбон”. Яны пачыналі ненавідзець саміх сябе, амерыканцаў, кісель з бромам, ад думкі пра які ванітавала. Па начах снілі словы ваеннай прысягі, якія гарэлі нібы татуіроўка на грудзях, гарэлі мацней за іхні ўлюбёны спірытус, як той напалм: “А еслі я нарушу гэту сваю прысягу, дык хай мяне спасцігне справядлівае вазмездзіе, суровая кара і ўсеобшчэе прэзрэнне і нянавісць працоўных”…

Небаракі! Я адхінуўся ад раманнай спякоты, ад згрызотаў сумлення здраднікаў сацыялістычнай радзімы, зноў адчуўшы гук трыбуннага мікрафона, нібы вату з вушэй выняў. Гаварыльня не спынялася, знаўца пісьмовых машынак дайшоў да разынкі сваіх росшукаў:

— Я зрабіў адкрыццё, дарагія сябры, аб чым марыць кожны даследчык, кожны гісторык краснага пісьменства! На шыльдачках машынак, якія захаваліся дзякуючы НКВД, толькі два віды пазнак, на што я амаль адразу звярнуў увагу. Рыскі вертыкальныя і крыжыкі, яны таксама на рамах выдрапаны. Ніколі не здагадаецеся! Але я здаўмеўся: калі лічба пазнак не супадае з колькасцю напісаных кніжак, дык трэба пашукаць у тых, каму дасталіся машынкі, калі гаспадароў арыштавалі. І — эўрыка! Супала! Яшчэ чакала праца, архіўныя пошукі, але я высветліў, што проста рыскі — гэта колькасць прысудаў, калі паэт ці празаік заставаўся жывы, звычайна давалі дваццаць-пятку, чвэрць стагоддзя, можна сказаць. А вось крыжыкі — гэта куля, гэта ўсё. Шкада, канечне, але вынікі навуковага пошуку пра гэта сведчаць. Гэта нібы засечкі снайпераў на прыкладзе.

Дакладчык разважаў: шкада, што ўладальнікаў няма, і нават магіл, але захаваліся машынкі, на якіх хай не адновіш колішнія раманы, не дапішаш незакончаныя, аднак мы цяпер ведаем каму канкрэтна належала асобная машынка, а гэта — мемарыяльная рэч, помнік пісьменніку…

Мне сталі мроіцца бронзавыя, гранітныя галовы літаратараў на друкарках, нібы бюсты на пастаментах. Я ўявіў пісьменніцкія могілкі:

на гранітных плітах пішучыя машынкі — “Ударніца”, “Бальшавічка”, “Камунарка”, а ў кагосьці нават “Ундэрвуд”, калі паходжанне сумнеўнае, не чыста рабоча-сялянскае. А ўсім дэлегатам я б паставіў хутчэй “Энтузіястак”, гэта апошні выраб, найбольш сучасная машынка, якую сацыялістычная радзіма выпусціла незадоўга перад смерцю. Яна не архаічная “Бальшавічка”, але ж таксама — пабочны прадукт аграмаднай махіны вайсковай прамысловасці, якая тавары народнага спажывання выпускала ў вольны ад асноўнай работы час, пасля вялізных танкаў, атамных субмарын, бомбаў ды іншага дынаміту. Асноўныя тавары, як паўсюль сцвярджалі, былі не горшыя ад капіталістычных, а вось астатняе, шырспажыў, тыя ж машынкі для газетных артыкулаў і раманаў, як, зрэшты, і самі газеты ды раманы, не маглі задаволіць замежнага спажыўца, прызначаліся выключна для ўнутранага рынку.

Мне захацелася падлічыць пісьменніцкія галовы, каб ацаніць колькі спатрэбілася б машынак, каб хапіла на ўсіх, каб нікога не пакрыўдзіць. Магла б атрымацца грандыёзная сцэна: кожнаму выдалі “Ударніцу”, яны з імпэтам пачалі друкаваць вершы і замалёўкі. Дакладчыку трапілася гаргара, ён лупцуе па літарах прамову пра следчых, якія не злазяць з карка, калечаць машынкі, нечакана ратуючы іх ад здачы ў ламачча, пакідаюць яшчэ прытомнымі, хай у інвалідных вазках, на мыліцах, прыкаванымі да ложкаў. Тым часам у маіх мроях прэзідыум дробна выстуквае свае рэзалюцыі ды пастановы.

Раптам бух “Камунарку” на каленкі: карыстайся, не змарнуй даверу! І я, нечакана для самога сябе, клац-клац адным пальцам. Узнімаю галаў і бачу, што зала нагадвае нібы гіганцкае машбюро самай галоўнай газеты вялікай сацыялістычнай радзімы, дзе друкавалася артыкулаў у дзесяць-дваццаць разоў болей, чымсьці можна было змясціць у нумары. Каб выбраць геніяльныя! У нас вельмі высокі крытэры адбору, наш узровень ніхто не перасягне, у нас найлепшыя з найлепшых пёраў краіны!.. Маніш-маніш, думалася мне, ведаю вас як аблупленых: заўтра — больш, чым учора, пагоня за лічбамі. А спаборніцтва паміж машыністкамі?! А нормы выпрацоўкі? Хутчэй-хутчэй-хутчэй!

Божа мой, што робіцца: мы выбіваем са сваіх “Ударніц” усю душу, нібы прапылены кілім. Што азначае наша нясцерпнае стракаценне? Прызабытую сімфонію сацыялістычнага будаўніцтва? Выкрыванне ворагаў унутры літаратурнага працэсу? Якія пішуць не тое, не так, пішуць з камнем за пазухай? Скурай спіны я стаў

адчуваць, што з хвіліны на хвіліну можа прыехаць НКВД, высмыкнуць надрукаваныя аркушы з партытурай, арыштаваць машынкі. Выкрыта падпольная арганізацыя механічных друкарак!

Мне ўжо вядома, што ў іх там цэлы аддзел пішучых машынак! Так-так, сховішча арыштаваных друкарак, навуковыя супрацоўнікі-следчыя. Дасье на кожную: колькі й чаго, якіх антысавецкіх твораў паспелі надрукаваць схаваныя ворагі, двурушнікі ў пралятарскай літаратуры! У дасье ўлічана ўсё да дробязі: імя ўладальніка, біяграфічныя дадзеныя, звесткі пра сваякоў, пра маральна-палітычны стан, ідэалагічнае аблічча ды іншыя агентурныя паведамленні. А таксама — дадзеныя пра сакрэтных супрацоўнікаў і следчых, якія вывелі на чыстую ваду, выкрылі яго разам з ягонай “Бальшавічкай” на пару.

У нас выдзіраюць з рук машынкі, як дзяцей у матак карнікі ў ваенных кінафільмах, брудна лаюцца, што гаргары цяжкія, цягнуць у “варанок” з закратаваным акенцам. Хаця, на добры розум, прасцей было прымусіць гэта рабіць нас саміх. Дубовыя галовы! Не паспеў я падумаць, мяне выцягваюць за каршэнь, і я з несусветнай палёгкай апынаюся зноў на сходзе, абуджаны званочкам старшыні прэзідыума!

Спачатку ачмурэла гляджу вялізнымі, нібы акуляры, вачыма перад сабой, нагінаюся, падымаю з падлогі раман. Сяджу я, між іншым, на галёрцы ў самым куту, можна зручна прытуліцца да сценкі і не надта сачыць за трыбунай. Я хутка рухаюся, ужо на “экватары”. Праўда, у наяўнасці яшчэ другі том. Варта зараз хаця б дагартаць першы, тым больш аўтар рашуча адпрэчыў традыйцых Мар’ю з цэбрам ля калодзежа ды круцеля-старшыні калгаса, якому не дае разгарнуцца напоўніцу прынцыповы парторг альбо, па-сучаснаму, намеснік па ідэалагічнай частцы. Але мяне ніхто не гоніць.

Па інерцыі працягваю апатычна думаць пра падпольную арганізацыю пісьмовых машынак, пра Саюз вызвалення ад непісьменнасці шляхам друкавання любых папер, дакументаў, любоўных лістоў і шпаргалак, а таксама, само сабой, і агентурных паведамленняў, бо органы НКВД ніколі не памыляюцца! Гэтыя словы ў маіх думках выпісаны залатымі літарамі на фасадзе “дома з вежай”, які традыцыйна называюць яшчэ, праўда заўжды шэптам, “жоўтым домам”. Так, яны не памыляюцца ніколі! Небяспечная вольнадумная арганізацыя пісьмовых машынак, якія час-часам збіраюцца ў адным месцы разам са сваімі гаспадарамі, каб закідаць горад тысячамі ўлётак. Што ў тых улётках? Безумоўна крамола, накшталт “…твой народ дачакаецца залацістага яснага дня!”

Выкрываванне ворагаў унутры літаратурнага працэсу заразлівая тэма. Вось яны штось мышкуюць, выдумляюць дыверсійныя чыны, сабатажныя здарэнні, недарэчныя выпадкі, хаця б дробныя прыкрасці. У машынках пачынаюць западаць цвёрдыя знакі, “шча”, тмутараканскія падвойныя “і”, “ха” пачынаюць танчыць нібы нападпітку. Слова “правадыры” яны адбіваюць правакацыйна з маленькай літары. Замест “ха” друкуе “гэ” і наадварот, блытае “а” ды “о”. Эпідэмія няўхільна распаўсюджваецца сярод машынак, нават калі яны не мелі паміж сабой ніякіх кантактаў — пацалункаў і гэтак далей, не елі з аднае місы, не галіліся адной “жылеткай”, не карысталіся адным шпрыцам. Але запомніце, зрабіце сабе засечку: органы НКВД ніколі, чуеце? ніколі не памыляюцца!

Ат, задурыў вам галовы! Трэба й белетрыстыку пагартаць, “захад сонца” тым больш ужо замільгацеў за дрэвамі, дакладней за барханамі. Аўтар бадай не зусім ведаў чым заняць рукі вісусу-прэзідэнту, таму зноўку накіраваў яго ў Арабіку падтрымаць баёвы дух свайго войска, якое адмаўлялася піць колу з бромам. На лётнішчы сшыхавалі марскіх пехацінцаў, якія праслухалі прэзідэнцкі спіч, лянотна жуючы “рыглі-спірмінт”. Холідэй быў палымяны і не забываўся пра сястру таленту — сцісласць:

— Салдаты! Мы — самыя моцныя, самыя свабодныя, самыя справядлівыя ў свеце! Мы нясем дэмакратыю на сваіх сцягах усім іншым народам, якія яшчэ згінаюцца пад ярмом, гібеюць, не ведаючы аб нашых дасягненнях, аб дабротах і плюсах нашага ладу жыцця! Няхай не чапляюцца за свае закарэлыя перажыткі, прымітыўныя забабоны. Мы ўсё адно пераможам! Усе будуць жаваць жуйку, піць колу (толькі без брому! — з жаўнерскіх шэрагаў) і радавацца сакаўным хот-догам з маім улюбёным, спадзяюся, што й вашым таксама, — кетчупам з чылі-перчыкам! А зараз — у сталоўку, усіх чакаюць сапраўдныя біг-макі, самага вялікага памеру, дэмбельскія! (Дэмбель! Дэмбель! — ухвальна-радасна з жаўнерскіх шэрагаў). Вас таксама ніяк не могуць дачакацца фіш-макі і (факі! — з жаўнерскіх шэрагаў). Не, нават чыкен-макі — найапошняе дасягненне нашых кулінараў і рэстаратараў, якія падбалі, каб доблесныя марскія пехацінцы таксама ў пясках адчувалі сябе нібы дома альбо ў бліжэйшай ад дому закусачнай з сапраўднай амерыканскай ежай, што ніколі не прымушае чакаць, бо яна таксама — вынаходніцтва нас, шчасліўчыкаў, якія назвалі яе проста і любоўна

“фаст-фуд”! (Фак-фуд!! — з жаўнерскіх шэрагаў). Запрашаю ўсіх да стала, вас частуе сам прэзідэнт! Смачна есці!

Прызнаюся, я прачытаў гэты кавалак нават са здаволенасцю, усё ж у аўтара даволі навостранае пяро, мне амаль што самому на хвілю захацелася пабыць сярод апанаваных спёкай марскіх пеханінцаў, якіх у сталоўцы пад паветкай чакалі прысмакі нібы ад Санта-Клаўса, бо на радзіме якраз рыхтаваліся адзначыць менавіта Каляды, і прыблізна палова жаўнераў дома ў святочны час бачылі сапраўдны белы прыемна-прахалодны, а некаторыя — пякотна-лёдаваты снег. Зрэшты, настрой у мяне адразу рэзка змяніўся, мне расхацелася ў пяскі, есці ход-догі “біг-сайз” і чытаць салдацкую газету “Старз энд страйпс”. Мне раптам успомніліся здраднікі памерлай сацыялістычнай радзімы, якія пакутавалі ў “зялёнай зоне” ад амерыканскага “бурбону”, марачы пра “сталічную”, іх небаракаў амаль увесь час ванітавала.

Тым часам, жуючы “біг-сайз”, жаўнеры абмяркоўваюць свайго хлебадаўцу: “П’е ўсё, што гарыць, факае ўсё, што варушыцца... Сапраўдны мача, у сэнсе бабнік”. “Гавораць, ён да брытанскай каралевы спрабаваў заляцацца і да жалезнай лэдзі падбіваць кліны. Ха-ха-ха!” Знянацку аўтар пакідае салдацкую сталоўку і паказвае чытачу Джоні Холідэя сярод снайперак, якія навучаюць яго цаляць у партрэтную мішэнь. Аўтар з непрыемнасцю для сябе пазнае рысы твару свайго ўлюбёнага Жалезнага Фелікса, але не можа стрымаць зласлівасці: буржуі, аказваецца, дагэтуль жудасна ненавідзяць і жывёльна баяцца славутага ворага, які амаль сто гадоў з магілы палохае іх наганам.

У наступных абзацах тлумачылася згубнасць амерыканскага спосабу харчавання, аўтра развенчваў тэлевізійны міф аб узорнай атлетычнасці элітных марскіх пехацінцаў. Яны тлусцелі на біг-маках гэтак, як раздзімаюцца ў печы булкі для “Макдональдса”. Кіраўніцтва марской пяхоты мусіла дазволіць жаўнерам з залішняй вагой не ўдзельнічаць у праграме схуднення, бо служба ў Арабіцы цяжкая без таго. Самі выбірайце: занадта пагладчэлыя не змогуць разлічваць на падвышэнне, таму капрал застанецца назаўжды капралам, а яфрэйтар — яфрэйтарам, бязлітасна падагуліў аўтар. Таўстун можа атрымаць або, прынамсі, разлічваць на дадатковую лычку ці зорачку толькі ў адным выпадку — за выключны гераізм у баях з партызанамі. Такая вось несправядлівая дыскрымінацыя! — бедаваў

раманіст, а ўсё “фаст-фуд” вінаваты, амерыканскі лад жыцця, разрэкламаваны да прыкрасці.

Калі верыць пісьменніку, апазіцыйныя да “фаст-фуду” афіцэры распрацавалі праграму “бодзі кампазішн”: частае ўзважванне таўстуноў, дадатковыя фізічныя практыкаванні і абавязковыя лекцыі “сэмпэр фіт”, што азначае “заўжды у форме”, якія прысвечаны слушнаму харчаванню ва ўмовах баявых дзеянняў. Сутнасць заняткаў — засцерагчы жаўнераў ад “фаст-фуду”. Хаця гэта прагучала ў пясках Арабікі зусім непераканаўча, есці ж усё роўна трэба! Інакш “эмшаснаццаць” не зарадзіш. Нібы прысуд выглядалі нормы залішняга тлушчу — для жаўнераў максімум васемнаццаць адсоткаў, для жаўнерак — дваццаць шэсць. Калі не можаш — ліпасакцыя альбо прымусовы дэмбель! Аўтар упершыню крыху паспачуваў простым амерыканскім салдатам, якіх загнала ў гарачыя пяскі і прымусіла жэрці нездаровую ежу іхняе камандаванне, яно харчавалася ў рэстарацыі і не журылася. Тут раманіст не ўтрымаўся ад невыгоднага для амерыканцаў параўнання, узгадаў фантастычны пах баршчу з перасоўнай салдацкай кухні і незабыўны смак грэцкай кашы, якімі штодня ласуюцца салдаты партызанскай рэспублікі.

Хтосьці на трыбуне тым часам усур’ёз узяўся за рэвізію “машыннага парку”, пачаўшы здалёк: памятаеце, дарагія таварышы? Раптам скончылася халодная вайна, а ў нас танкаў, ракет, самалётаў — хоць ср... еш, на сто гадоў наперад. Але разабраліся: самалёты прадалі, ракеты — задарма мусілі, танкі пачалі аўтагенам рэзаць пажывому. А з машынак — ці шмат жалеза? Вось і засталіся на пісьменніцкім складзе.

— На машынцы трэба ўмець. Гэта як з падставамі мастацтва, трэба класічным жывапісам спачатку авалодаць, а тады ўжо маляваць абракадабру. Калі закарціць, канечне. Без падмуркаў няма будынка! Замкі на пяску нам не патрэбны!

— Машынкі нашыя былі не такія зграбныя, але больш-менш надзейныя, запчасткі знайсці можна было. “Маўзалейная”, “Марзянка”, “Бальшавічка”. Прасаў нарабіць з іх? Як мячы — на арала?! Трасцы вам! Самі назвы святыя.

— На складзе яшчэ бюсты затаварыліся, гэта цяпер таксама нашы трафеі. Сто гадоў пыляцца ў падвале, пазелянелі. Ёсць, напрыклад, магчымасць выдаць Кукушкіна і Пахлёбкіна. Былі яшчэ Якуб ды Янка, іх нацыяналісты разабралі, ледзь не пабіліся, усім не хапіла.

— Зараз нам будзе неабходны літтрыбунал, каб судзіць. У нас цэнзуры не было, у нас быў "Галоўліт"! Але ўстанова патрэбна абавязкова, якая ставіць ідэалагічны знак якасці: праверана, мін няма! Будзьма іхнія разглядаць опусы, паглядзім хто каго, каб не называлі нас больш рэваншыстамі. А то: прымаць не будзем, усё, што пішаце — камуняцкі рэваншызм! Ярлыкі прыляплялі! Як гарчычны пластыр нібыта.

— Мы іх саджаць не будзем, канечне, не той час, і ссылаць, бо няма куды. Але публічны, грамадскі трыбунал — абавязкова — на эшафоце шаблю над галавой ламаць, каб дапялі, што пісаць можна, а чаго нельга. І кніжкі іхнія — у машынку, на вермішэль пакроіць. Нам у аўтадафэ няма патрэбы.

— А я лічу, што пісаць у шуфляду — гэта дулю ў кішэні хаваць. Калі ты такі смелы, выходзь з адкрытым забаралам, крытыкуй, змагайся з язвамі грамадства. Не будзь як той маладзец супраць авец…

— Правільна, дарагія сябры, пяро калісьці прыраўналі да вінтоўкі, мы на перадавой, у акопе, у тыле адседжвацца не збіраемся. Мы не тылавыя пацукі!

— Я сябе адчуваю менавіта на ідэалагічным фронце. Сам служыў калісьці ў хімабароне. А іхні Звяз аматараў літаратуры, ідэалагічных усіх дылетантаў — у каршэнь! У каранцін — ненадзейных, кнігі з душком. Дэзінфекцыя патрэбна, дэзактывацыя.

— Мы апынуліся ў літаратурным завулку, у тупіку: наша хата скасабочылася пісьменніцкая, наш плот кніжны пахіліўся. Наш храм літаратурны застаўся без іконы царкоўнай.

— Прагрэсіўныя пісьменнікі ўсіх краін — яднайцеся! Хто не залежыць ад грашовага мяшка, хто не жадае танчыць пад чужую дудку, хто хоча сам замаўляць музыку! Масавая літаратура, масліт і масталіт — высокадухоўная, сапраўдная — сацрэалізм на новым этапе без залішняга дагматызму. Вось што галоўнае цяпер!

— Яны хацелі як гаспадары — у палацы літаратурным, але наша дарагая ўлада выспятка дала, на сметнік іх, сканфіскавала палац, каб яны там нацыяналізмам не займаліся, каб урад не крытыкавалі. Яны хацелі без нас, як паны, грэбавалі, а засталіся ля разбітага карыта, куды ім ніхто не падкіне бульбачкі, костку не дасі, не гаворачы пра цымусы…

Дыскусія пра далейшыя шляхі краснага пісьменства не сціхае, нібы шторм, а тым часам у Арабіцы таўстуноў з зорна-паласатага

войска ганяюць як ахвярных казлоў. Дзедаўшчына дый годзе. Дарагая наша сацыялістычная армія сканала, але справа яе жыве: up-down, up-down, упаў-аджаўся. Піша пра здзекі янкаў-“дзядоў” гладкі і сціплы шэраговец Мікі, дасылае свае сыновыя скаргі ў штат Місуры, але ўсюдыісная вайсковая цэнзура мала не ператварае наракання ў панегірыкі марской пяхоце.

Джоні Холідэй нудзіцца ў Белым доме і прылятае зноўку да марской пяхоты, каб асабіста паведаміць: мамачка-Амерыка падрыхтавала вакуумныя пакункі з хот-догамі для ўдзельнікаў спецаперацый, з адпаведным змесцівам — згодна густам прадстаўнікоў розных расаў і рэлігій. Маўляў, мы ўсіх любім аднолькава і ўрад дбае нароўні.

— Хаў а ю? — бадзёра выгукае прэзідэнт з трапа “Боінга”.

— Фак ю! — раве ў адказ ганаровая варта.

Джоні Холідэй, як казалі, сам прыдумаў пачуты досціп, таму рагоча разам з усімі. Сышоўшы з трапа, здароўкаецца з генераламі і робіць прамоўку з невялікай трыбуны:

— Вы ўсе тут шукалі, не шкадуючы свайго поту, не эканомячы на “рэксоне”, ха-ха-ха, бомбу, “біг сайз”. У нас былі звесткі, што яе скралі праклятыя тэрарысты і прадалі за вялікія бабкі гэтаму чортаваму Мухамеду. Ён адмаўляўся ўсяляк, суччын сын (Ес-ес! Ха-ха-ха! — жаўнеры), але хіба можна было яму верыць? Мы прыйшлі і самі праверылі: мін няма, як кажуць сапёры пасля сумленна зробленай працы. Соры, нашы доблесныя разведорганы крыху падвялі. Нашыя агенты нуль-нуль-сем не заўважылі, не разабраліся. З кім не бывае, з кім не здараецца! Ой-ля-ля, — як кажуць жабажэры. Аказалася, што бомбу, “біг сайз” згубілі недзе, а прызнацца баяліся, суччыны дзеці. (Ес-ес!..) Нічога, раз мы ўжо тут, мы зоймем вашыя рукі: нашыя вучоныя даведаліся, што ў наваколлі згубіў свой знакаміты чэляс сам Аляксандар Македонскі , які быў вялікім палкаводцам! (Ха-ха-ха!..) Чэляс з чыстага золата! (Ха-ха-ха!..) Хто першы знойдзе, паедзе адразу на Гаваі ці на Багамы, я вам гэта абяцаю! (Ес-ес!..) Слова галоўнага янкі!.. Мы прыйшлі і мы тут мусім застацца на варце! Што зробіш, дзецюкі, калі мухамедаўцаў мамачка не навучыла ў маленстве, што вялікай амерыканскай Маме заўжды трэба гаварыць праўду і толькі праўду, як у судзе!..

Далей аўтар знянацку перакінуўся на міні-войска маленькай Рэспублікі Ээсці, якой карцела тырчэць у кожнай бочцы затычкай: куды толькі не ўліпалі натаўцы, Ээсці дасылала аднаго-двух сваіх

жаўнераў, каб засведчыць уласны ўдзел. І прэзідэнт рэспублікі ў рэшце рэшт застаўся без аховы ды мусіў насіць у кішэні электрашокер, ха-ха-ха!

Тым часам увага дэлегатаў засяродзілася на сячкарні для паперы. “Мяхі напхаем, будуць матрацы. Будзьма на іхняй пісаніне спаць, сны блакітныя бачыць! — ха-ха”. Мяне зацікавіла сячкарня. Яна выглядала падобнай да вялізнага кухоннага камбайна. Не толькі дранікі рабіць, але таксама на розныя іншыя фокусы здатная. Цяпер у модзе шмат дзеянняў у адной скрынцы схаваных. Нібы чалавек-аркестр. Хаця яна нагадвала яшчэ напалам асадную машыну і перасоўны эшафот з гільяцінай. Жэрала — як у гіганцкай мясарубкі для вырабу папяровага фаршу.

На сцэне былі падрыхтаваныя стосы — нібы для аўтадафэ. Праўда, ніхто з дэлегатаў у працэдуры не ўдзельнічаў, машыну запусцілі механікі. Зала сцішылася. Адныя кніжкі траплялі ў сячкарню вертыкальна, і вермішэль атрымлівалася часам як акравершы, але напісаныя ці вар’ятам, ці, прынамсі, вельмі дэкадэнцкім аўтарам. Гарызантальныя нагадвалі тэлеграфныя стужкі, падрыхтаваныя для наклейкі на бланкі... Я калісьці служыў у тэлеграфнай роце: сувязь — нервы арміі! — вучылі нас. (Няма даўно той арміі, не ведаю як з тэлеграфнымі грувасткімі апаратамі. Іх трэ было падсілкоўваць часчасам: прымацоўваць новую шпулю з папяровай стужкай і падліваць жаўтаватага канцылярскага клею. Праўда, дзякуючы гэтым электрычным гаргарам пазней ва ўніверы я атрымаў палёгку — вольнае наведванне і датэрміновы залік па занятках машынапісу — пасля таго, як паказаў сваё тэлеграфісцкае пасведчанне трэцяга класа... Тэлеграфны апарат, ён заўжды нагадваў мне няўклюдную друкарку, журналісцкі, пісьменніцкі варштат, сёння, ясна, састарэлы, хатні музейны экспанат, схаваны дзесь у шафе. Яны старэлі хутчэй за людзей апошнім часам, каб вымушана сысці з дыстанцыі).

Непрыемнае відовішча на сцэне, я бачыў, засмуціла нават самых зацятых прамоўцаў, што выкрывалі нацыяналістычныя творы. Лепей аднойчы ўбачыць, чымсьці бясконца чуць. Большасці, бадай, было вядома, што застаялы тавар з кнігарняў конча трапляў у макулатуру на перапрацоўку, так было заўжды. Але ўбачыць на свае вочы дзейства, рытуал знішчэння кніжак, да гэтага не кожны быў падрыхтаваны насамрэч... Інжынеры чалавечых душ былі ў задуменні. Яны на вачах зніякавелі, мабыць, кожны міжволі, не хочучы сабе прызнацца, пачынаў уяўляць, як вермішэльная машынка

механічна прапускае скрозь сябе іхнія ўласныя паэмы, эпапейныя раманы-дылогіі-трылогіі-пенталогіі…

А вось прэзідэнт Джоні Холідэй па-ранейшаму не бедаваў. Падтрымаў мімаходам сваю танную папулярнасць: зграў на палубе авіяносца для матросаў і лётчыкаў сола на саксафоне, атрымаўшы гарантаваныя воплескі. У бінокль, нібы Напалеон, цяпер разглядае засяроджана мінарэты.

Джоні-бэйбус нанач глядзеў эратычныя стужкі, не мог інакш заснуць, паведаміў мне раманіст. Засынаў з думкамі: “Я мужчына ў поўным росквіце сілы”. Каб крыху збіць з фанабэрыю, аўтар прыдумаў для яго жудасны сон: зруйнавана статая Свабоды — самае святое, што мае Амерыка. У рамане, да слова, называліся дарагія для сэрца заходнікаў і ласыя для зламыснікаў пабудовы — Пізанская вежа, Біг-Бэн, Эйфелева канструкцыя і рэйхстаг.

У сваім вялізным “Боінгу” Холідэй рэпеціруе перад люстэркам: “Мы — санітары лесу! (Дзе ён бачыў у Арабіцы лес?!) Ядахімікаты супраць шкоднікаў. Мы — скальпель, выратоўнае апраменьванне. Пухліна, апендыцыт, гангрэна — нашая спецыяльнасць”. Пагуляўшы ў аратара, ён бавіцца ў камп’ютарную гульню: самалёты, удары па цэлях у пясках… “Сам ад В’етнаму “адкасіў” калісьці, у пацыфісты запісаўся, у хіпі, але ў маленстве у вайну не нагуляўся як след. Вось жа лайдак!..”

Аднак установчы сход яшчэ не закончыўся. Трыбуна не сумуе ні хвіліны, плойма літаратараў згаладнела па вуснаму слову. Я бачу: ім хочацца нагаварыцца, нібы наступнага разу не будзе, ці яны не вераць у паўторную магчымасць. Часам выступы не зусім пра літаратуру:

— Яны варацца ва ўласным соку! А мне больш падабаецца кансерва з аліўкавым алеем ці хаця б з дадаткам сланечніковага. Але важна не гэта. Яны ў макулатуру здалі нашыя дарагія зборы твораў — Лукіча, Фрыдрыхавіча, Карлавіча, Вольфавіча, Навуходанасоравіча. Збэсцілі першакрыніцы, святыя тэксты, азбуку барацьбы, наш рэвалюцыйны буквар! Раней стаялі ў кожнай бібліятэцы, у кожным рэўпакоі і чырвоным кутку. А запальныя прамовы Кастравіча, Кадаф’евіча, Фідэліча, Фірдуосьевіча?! Усіх нашых айцоў-заснавальнікаў, правадыроў і вялікіх настаўнікаў!

— Хачу машынку бясплатную! “Камунарку”, “Ударніцу” — электра! Я іх люблю вачыма, пальцамі: вялізныя, грунтоўныя, нібы напраўду грудастая кабета — перадавічка дзябёлая…

Я заплюшчваю вочы: сячкарня — нібы мясарубка для паперы — кніжны фарш. Чарвякі. Сечка кабанам, каб потым — скварка да чаркі… “Кнігажэрку” адцягнулі за кулісы, але яе відарыс ужо адбіўся ў свядомасці, выдрукаваўся на сятчатцы, застаўся ў табе фотанегатывам.

— А папера ў іх якая? Шэра-чорная якаясьці! Яны гаварылі, ім свабода важнейшая за ўсё, на мітынгах выступалі, на трыбуну лезлі пішчом, мікрафон з рук вырывалі! Улёткі вершам пісалі! Свой талент растрачвалі! З гэтымі крыкунамі спаборнічаць — дурная справа!

— А ці быў талент?!

— Ды няхай, не ўсе ж там страчаныя для літаратуры. Можа хто да нас папросіцца, я прапаную не адмаўляць, даць магчымасць справіцца. Пакаранне — каб перапісаў ад рукі “Капітал” які-небудзь, мы так ва ўніверы ў сшыткі даклады газетныя перапісвалі і нічога — жывыя.

— А гэта цікава! Хай лепш вывучыць напамяць паэму ці праспявае “Сягоння мы не на парадзе!” А лепей даць, каб перапісвалі “Дзяржаўную мяжу або дзесяць тысяч км калючага дроту” — эпапею, якую дужа не любяць. Ім ужо мяжа не падабаецца наша, якая на крэпкім замку…

— Трэба не на мітынгах распальваць нездаровыя эмоцыі, а выкрасаць у народзе іскру надзеі, веры і любові, заклікаць працоўныя масы да ўдарнай працы, каб даказаць перавагу нашу спецслужбам, якія акапаліся ў іхніх рыгсдагах, рэйсратах і увогуле рэйхстагах. Прабачце дзеда за старамоднасць, але — больш малака, больш чыгуна, хлопцы, угнаенняў! І тады будзе як у песні: сягоння стала лепей, чым учора, а заўтра будзе лепей, чым сягоння!

Апошні прамоўца рабіў ураженне патрыярха, які мог памятаць яшчэ літаратурныя працэсы, расстрэлы, арышт машынак і пераразмеркаванне іх паміж карнымі установамі. Яго прывезлі ў інвалідным крэсле, быццам, каб паўзіраўся на вяртанне акопаў на літфронце, дзяльбу трафеяў і святкаванне перамогі. Зрэшты, выглядаў ён даволі дзіўна, крыху можа нават па-вар’яцку. Я раней яшчэ міжволі звярнуў на яго увагу, але сам ён пра адыёзныя часы арышту машынак не ўспамінаў, ды не прэтэндаваў на трафеі са складу друкарак. Агулам на трыбуне не ўсе крыўдавалі ўголас, гучалі й цікаўныя меркаванні.

— А памятаеце: кнігі на талоны за макулатуру — за газеты здадзеныя? Вось з іх і рабілі паперу, на якой друкавалі літаратуру

потым. Кругазварот. Каб не было “Праўды”, атрымліваецца, не было б і іхніх “Гулагаў”!

Я прыгледзеўся бакавым зрокам: сусед крэсліў у нататніку шыбеніцы з павешанымі фаліянтамі…

— Свабода, дарагія таварышы, хачу нагадаць, — не анархія, не усёможнасць, яна — усвядомленая патрэба. Няможна быць цалкам незалежным ад грамадства, ад дзяржавы. Асабліва датычыць нас, пісьменнікаў, мы ўсведамляем адказнасць за друкаванае слова, як ніхто іншы не ўсведамляе. А са свабоды можна як двойчы ў два зрабіць прафанацыю. Возьмем іхнюю статую. У руцэ паходня. Але ж падпальшчыкі вайны як адзін — з паходняй, ку-клукс-клан таксама. Выбачайце: ёй на галаву птушкі таксама какаюць, як нашаму Сярпову. І нават значна болей — галава большая, акіян побач — процьма чаек, альбатросаў. І не кепка, а цэлы бельведэр зверху!

Як аратар збіраўся прытарнаваць да сваёй прамовы літаратуру (ці наадварот) мне было незразумела і я вырашыў пацікавіцца, як маецца герой бясплатнага рамана, разгарнуўшы другі том пра Джоні Холідэя.

Усе інтэрвенцыі аднолькавыя: дэсант — марскі ці паветраны, захоп плацдарма і гэтак далей. Джоні Холідэй намучыўся ў Арабіцы, дзе марской пяхоце не давалі спаць народныя мсціўцы ў чалмах, яго рэйтынг пачаў няўхільна, а неўзабаве — імкліва падаць, а рэйтынг у іх — самае важнае, нават грошы, капітал, на другім толькі месцы. Каб палепшыць сваю папулярнасць, Джоні нічога разумнейшага не прыдумаў, як выкінуць дэсант у Партызанскай рэспубліцы, почырк яе інструктараў надта ж праглядаў у дыверсійных дзеяннях мухамедаўцаў, якія шкодзілі ў Арабіцы на кожным кроку. Марская пяхота па вушы ўгрузла ў пясках, не здолеўшы хаця б адшукаць славуты залаты чэляс Аляксандра Македонскага, а гэтая абставіна для Холідэя — кепская прыкмета.

Аднак яго напаткала неспадзеўка: Партызанская рэспубліка нібы чакала нападу, армія, не лезучы на ражон, адступіла за абарончы рубеж, за “Лінію Молатава-Рыбентропа”. На захопленай тэрыторыі начальства схавалася ў лесе, каб разгарнуць партызанскую дыверсійную барацьбу. Холідэй быў непрыемна ўражаны: “У іх, чарцей паласатых, усё прадумана, фак-фак!”

Марскую пяхоту відавочна завабілі ў пастку, але спыніцца яна не магла. Бо такая логіка няўмольнага наступу, інерцыі вайсковай махіны, якая рушыць безупынна, пераследуе, пакуль не сутыкнецца з

супрацівам. Яе мэта — страляніна, бой, страты ў шэрагах праціўніка. Але самы прыкры “сюрпрыз” чакаў армаду Холідэя наперадзе: супрацьтанкавая абарона “Лініі Молатава-Рыбентропа” узнікла натуральнай перашкодай, стоп-машына! — далей язды не было, марская пяхота мусіла рыхтавацца да начлегу.

Прачнуліся Джоны і Стывены пад чорным небам па вушы ў снезе, як у кепскім анекдоце. Сакрэтная авіяцыя Партызанскай рэспублікі зрабіла сваю снежную справу... У паходным шатры Холідэя доўга гучала адзінае кароткае, з трох літар, слоўка. Хоць вушы заторкні! Пакуль ён няўрымсліва лаяўся, у бой уступіла снегавая артылерыя праціўніка. Сумёты павялічваліся хутка як ў кіно. Марская пяхота пад зорна-паласатым стала нагадваць царскія войскі на Шыпцы некалі, на карціне баталіста Верашчагіна.

Яны былі падрыхтаваныя да вайны ў пустэльні, у спёку: бронекамізэлькі з ахаладжэннем, каскі з вентыляцыяй, усё на барацьбу з цяплом! Але знянацку нібы трапілі на антыподы, дзе ўсё дагары нагамі з надвор’ем. Гвалтоўная зіма ў такі час, калі зімы не бывае, калі думкі занятыя зборам ураджаю... Аўтар ганарыўся за партызанцаў: хай верасень стане снежнем. Дажынкі пачакаюць! Хай яблыкі гінуць, хай ураджай прападае, чаго не зробіш дзеля перамогі над ворагам?! Мы вам пакажам банапартаўскі паход, Кітай-горад і Сярпоўград, калі армады вымерзлі да костак і здаліся ў палон. Штучны снег, штучная зіма. Кіно! Напачатку трымаўся больш-менш толькі полк “Палярных мядзведзяў” з Аляскі.

Усе друкаваныя органы Партызанскай рэспублікі выйшлі з пераможнымі шапкамі: “Іх затрымалі на “Лініі Молатава-Рыбентропа!!!” Раманіст адкрыта радаваўся разам з насельніцтвам, са смакам называючы воінаў-інтэрнацыяналістаў з марской пяхоты амерыкашкамі, грынга, янкі, нават зорна-паласатымі чарцямі. Траплялiся і старыя газетныя штампы: бразгаць зброяй, падпальшчыкі вайны, назапасілі небяспечныя арсеналы. Чытача пераконвалі, што гэтак неабачліва трапіць у пастку маглі адно небаракі-ваякі, недарэкі са стрэльбамі, якія прызвычаіліся ваяваць заўжды з камфортам: лядоўня з кока-колай, бугі-вугі, джаз, “Джоні Уокер” і нават біятуалет абавязкова. Аказваецца, першыя марпехі самлелі ў прыбіральні на аўтастанцыі, калі прызямліліся з парашутамі і не дапялі схадзіць у хмызы, ха-ха-ха!

Марской пяхоце зрабілася не да праціўніка, трэ было змагацца са снегам. Выдалі аспірын і па бутэльцы віскі, у насельніцтва скуплялі

кажухі і аблавушкі. У Шатландыі замовілі пледы. Адным з сакрэтаў партызанцаў было тое, што мяжа зімы праходзіла дакладна па “Лініі Молатава-Рыбентропа”, яе шчодра пасыпалі соллю, і на пазіцыях абаронцаў трывала па-ранейшаму восень, даспявалі ў райскіх фарбах познія яблыкі і грушы, сяляне працягвалі збіраць ураджай, а начальства — рыхтавацца пакрысе да любімых дажынак, перасунутых на пазнейшы час. Амерыканцы ўпершыню наяве сутыкнуліся з халоднай вайной, ведаючы аб ёй раней толькі на словах. Пекла таксама здараецца сцюдзёным, не абавязкова полымя шугае.

Штаб Джоні Холідэя займаўся звыклай у такіх выпадках задачай: як спрабаваць прыцягнуць на свой бок насельніцтва і калі не выклікаць сімпатыі, дык хоць бы знейтралізаваць антыпатыю? “Дамо ім статую Свабоды замест Сярпова, колькі можна на яго маліцца? Копію, канечне, зменшаную. Бронзавую дошку таксама — канстытуцыю рукапісную нашу. Хай чытаюць, хай вучацца дэмакратыі”. “Жалезнай рукой завядзем іх да шчасця: “кадылак”, супермаркет, джынсы. Жалезны кулак, жалезная воля, сталёвыя нервы, лоб, сківіцы, вось што зараз нам патрэбна, каб зрабіць па-свойму”. Прыблізна так адбываліся спрэчкі ў штабе вачыма раманіста.

Марской пяхоце, зялёным берэтам выдалі слоўнічак для размовы з мясцовымі жыхарамі: “скількі ў дзярэўні камуністаў?”, “гдзе жывець Маруся?”, “скока стоіць самагон, курка, яйка?”, “як купіць туалетны папер?”, “гдзе хаваецца айцец-камандзір? — атвячай!” Гэны айцец-камандзір даўся Джонам у знакі адразу. Толькі пачалі сумёты разграбаць, кажухі скупляць, як пайшла пагалоска: з’явіўся ў тыле адважны айцец-камандзір. Як яго дакладна звалі, ніхто не ведаў, ён карыстаўся псеўданімамі. Руслан — ці гэта сапраўднае імя? — напружвалі думку ў штабе Холідэя, але адказу не было. Айцец-камандзір ўдзень праводзіў вайсковую нараду ў падземным бункеры, а ўначы за лініяй фронту чыніў дыверсіі. Як няўлоўны мсцівец, як легендарны ваяўнік-князь, што гойсаў некалі паміж гарадамі і замкамі, сягаючы на кані цераз рэкі і пушчы.

Спачатку трэ было яго ідэнтыфікаваць: вызначыць хто ён такі і адкуль узяўся? Адной з версій было, што гэта — сам прэм’ер-міністр Сцепанід Іваныч Чарнапысін, які змяніў пінжак на гімнасцёрку. Цэрэу даводзіла, што сапраўднае яго прозвішча — Кміта Чарнабыльскі, і што ён прайшоў падрыхтоўку ў ГРУ у спецаддзеле

